*Данута Бічэль-Загнетава*

# ДАЎНЯЕ СОНЦА



ЛІРЫКА

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1987

# I. ПА ШЛЯХАХ ЗЯЛЁНЫХ БЕЛАРУСІ БУДУ ПРАКЛАДАЦЬ СВАЕ ДАРОГІ



## ПАВОДКА

Зіхацяць, кіпяць, шугаюць хвалі —
Нёман іх утаймаваць не можа.
Мы, знямелыя, над кручай сталі:
о, які ты злосны і прыгожы!

Ты, як бацька, з намі ўсім дзяліўся.
Ты праз нашы сэрцы пераліўся.
Мы ў быстрынях набіралі сілы.
Між віроў дужэлі нашы крылы.

Будзем рупна жыць на белым свеце,
радасна ўглядацца ў вочы дню —
у жыццё нас выпраўляе вецер,
што вясной бунтуе глыбіню.

Прыйдзецца — управімся з бядою
і на далей сілы застанецца:
наталяем смагу той вадою,
што ў краіне нёманскай завецца.

## ГАРОДНЯ

Горад мой — бяссонніца мая!
Як жа не спяваць табе, скажы!
Свеціш ты краіне, бы маяк,
на яе заходнім рубяжы.

З плеч сваіх не сцёр па сёння ты
грозных дзён, пажарышчаў сляды.
Ды хачу я ў песні славіць тых,
хто цябе стварае маладым.

З імі поплеч вельмі добра мне
новыя кварталы будаваць.
Мазалём гарачым саграваць
кожную цагліну, што ў сцяне.

Родны, старажытны, малады,
сведка ўсіх маіх надзей і спраў...
Прагну я, каб гэтак і заўжды,
нібы сёння ноччу, мірна спаў.

Спі... А я і Нёман — удваіх —
пастаім на варце сноў тваіх.

## РОДНАЕ СЛОВА

Пад казачным дубам над Нёманам сінім
хлапец прызнаваўся ў каханні дзяўчыне.
І рэхам той шэпт адгукаўся між гаю:
— Кахаю, кахаю...

Я чула пяшчотнае, шчырасці поўнае,
маё, беларускае, роднае, кроўнае,
такое раптоўнае,
такое чароўнае,
такое ласкавае, цёплае, чыстае,
як сонца, агністае,
як Нёман, празрыстае,
як казка, быліна, як песня, жаданае,
дагэтуль зусім у жыцці не спазнанае,
вясновае слова ад шчырага сэрца...
Яно празвінела над хвалямі ў рэчцы.
Вятрыска шаптаў яго з лісцем між гаю —
кахаю, кахаю...

Шапталі яго сенажаць і дуброва,
людзьмі перачутае, некаму нова,
адзінае, дзіўнае, светлае слова —
кахаю, кахаю...
Кахаю... Люблю. Беларускаму краю
бясконца я слова «люблю» паўтараю.
Калоссям жытнёвым і шчырым размовам.
У грукаце-ўздыме вялікім будовам.
Палеткам калгасным, зялёнай дуброве
кажу гэта слова на матчынай мове.



Многім цёпла ў бацькі пад страхою,
а мяне сагрэе шум жытнёвых ніў.
Змалку сэрцу не даюць спакою
ў сініх далях ясныя агні.

Я на раздарожжы не зблуджуся
і не збочу, каб чакаць падмогі.
Па шляхах зялёных Беларусі
буду пракладаць свае дарогі.

## ПЕСНЯ ЛЕСУ

У цёмным лесе ды напрадвесні
я ўчула песню, лясную песню.
Яе старая сасна спявала.
Мне песня сэрца зачаравала.

Яе пачатак, ціхуткі, кволы,—
над першай краскай звінелі пчолы,
а падхапілі ліcткі бярозы,
лясныя птахі, начныя росы.
Закукавала ў кустах зязюля —
усе вяснянку вакол пачулі.

Шумелі пушчы, звінелі хвалі.
Запелі з ветрам лугі і гоні...
Яна лунае ўсё далей, далей,
і толькі думка яе дагоніць.

Праз горы-долы гасцінцам веснім
іду, імкнуся, бягу за песняй.



У студэнта і дзень вялікі,
калі здадзены ўсе залікі.
Зноўку цеснымі вуліцы сталі.
Едзь, куды цябе вабяць далі!

Нават месяц з табой смяецца,
і пачуцці ў грудзях не месцяцца.
Заляцеў бы, як птушка, здаецца,
без ракеты на крылах да месяца.

## ВЁСКА БІСКУПЦЫ

Каб у стозе духмяным выспацца,
я паеду ў мурожныя Біскупцы —
пад страху дзяруг, дываноў,
на прастору жытнёвых палёў.

Буду ехаць бітым гасцінцам,
выйдзе з бору сасна пакланіцца.
Нават бусел з дужага дубу
прывітае, раскрыўшы дзюбу.

А ў матулі стол не пустуе —
чым багата, тым пачастуе:
пірагом, верашчакаю, сырам,
ды смятанай, ды позіркам шчырым.

Не спачыўшы, выбегу з хаты —
новай песняй сагрэюць дзяўчаты.
Добрым жартам, зварушлівым слоўцам
сустракаюць аднавяскоўцы.

Тут мне ўсё навакольле смяецца
смехам зор і рамонкаў з лугоў.
Нёман тут не цячэ, здаецца,
а танцуе паміж берагоў.

## РАНІЦА

Раней за сонца ўстану рана я.
Крылаты золак не прасплю.
Прайдуся сцежкамі крамянымі
ўлюбёная ў сваю зямлю.

Прамчуся за вятрамі гонкімі
па бальшаках зялёных...
Сустрэне луг мяне рамонкамі,
прастор — блакітам лёну.

Барок грыбамі запалоніць:
лісіц — грабі ў ахапку.
Грыб шчыры ў ветлівым паклоне
скідае долу шапку.

Паміж чарніцамі-насмешкамі
згубілася ў гушчэчы.
Унізе пахне сыраежкамі,
а зверху птах шчабеча.

Паабтрасаю росы з голля —
абудзіцца рака.
Абсыпана буйное поле
званочкам жаўрука.

Ліецца песня з-пад блакіту
на маладое жыта,
жывое серабро нібыта,
густой расой абмыта...

Зямля шчырэе і смяецца,
спявае радасць лету.
І можна абысці, здаецца,
за сонейкам паўсвету.

## ЗМАЎЧАЎ

Ані груш, ані сліў
мне мой любы не насіў —
мне каханы моў дарыў
праталінкі ў бары.

Адгалоскі вясны,
пахі смольнай сасны,
ды шаўковыя імхі,
ды ружовыя шляхі.

Падарыў лясны ручэй,
усе зоранькі начэй.
Салаўіныя гаі,
пацалункаў — на дваіх...

І вясёлкі з нябёс
у вачах сваіх прынёс.
Ды змаўчаў, што прынясе
і маланкі — усе.



Заблудзіўся маладзік сп'янелы
ў задуменных дрэвах каля гаю.
Там пявунні нейкія нясмела
салаўям залётным падпяваюць.

Воддаль у гурток хлапцы сышліся,
на спявачак паглядае кожны.
Задуменнем ночы наліліся —
і ні спаць, ні сумаваць няможна.

Як туман пад ранак абаўе
таямніча сцежкі між гаямі,
паспаборнічаем з салаўямі:
хто тады галосней запяе!



Ты за вёрсты хаваешся назнарок,
нават весткі падаць не хочаш.
Але ведай — днём або ноччу
да нявернасці зробіш хоць крок —
я заўважу яго, мой дружа.
Мне ўсе ластаўкі верна служаць.
Зашчабечуць яны пад страхой,
калі будзеш ісці да другой.

Ты саб'ешся з бітай дарогі.
Маладзік над балотам двурогі,
што тваім сябруком завецца,
на той час у хмары заб'ецца...

А як пойдзеш пры сонечным свеце,
я паклічу паўночны вецер.
Ён узніме пясок на полі —
да другой не дойдзеш ніколі.

А як раптам сама другая
на сядзібу да вас прыбяжыць,
дык зязюля з роднага гаю
падцікуе яе на мяжы.

Закукуе ранкам галосна
ды сяброўку-соўку разбудзіць,
ды яна бязлітасна, злосна
разлучніцу тую асудзіць.

## СЭРЦА ДЗЯВОЧАЕ

Цэлы дзянёк, да працы дасужая,
жыта вязала, сена зграбала.
Ногі самлелі, рукі знядужалі,
а сэрцу нястомнаму мала.

У Нёмане змыла стому-нягодніцу,
з лесу прынесла грыбоў у прыполе.
Змрок, нібы злодзей, паўзе за ваколіцу...
Сэрца сціскаецца — болей...

І пацягнула яно, невыноснае,
млечнаю сцежкай па ночы.
«Час бы дамоў»,— збажына шэпча росная.
Сэрца вяртацца не хоча.

Вёска засне, перапёлка ўгамоніцца,
вецер задрэмле ў таполі.
Сэрца! Калі ж ты прагоніш бяссонніцу?
Сэрца грукоча: ніколі.

* * *

Ночка ляжа на плыты,
на ваду.
Ты паклічаш з цемнаты —
я прыйду.

У вірлівым халадочку
аб чым
мы цалюсенькую ночку
маўчым?

Паглядае безліч зор
на зямлю.
Мо разгадваць іх узор
я люблю...

Нёман лашчыць, нібы ў сне,
чараты...
Можа, звабіў ён мяне,
а не ты?



— Мая,— крычаў ты ўсхвалявана мне.
— Мая...— пацвердзіў рэхам шчыры бор...
— Мая...— вятры панеслі на прастор.
І дзяцел штамп паставіў на сасне.

І свет увачавідкі праяснеў...
Ды час прыйшоў і залізаў той штамп.
Лясное рэха падсвядома там
кагосьці будзіць, кліча, як даўней.



Смуглатварай, шэравокай
варта толькі падрасці —
ад прыгожых абібокаў
супакою не знайсці.

Сцерагуць з-за кустоў.
Высылаюць сватоў.
Маладая страказа
ім падносіць гарбуза.

— Пакуль топчаш гультая
у бліпчастым боце,
прыгажуня не твая.
Не твая, і годзе...

## ПРА КАЛЯДУ

Маці мне расказвала пра дзеда:
з маладосці марыў стаць багатым.
Скалясіў за доляю паўсвету
і без грошай прыязджаў дахаты.
Браўся зноў за плуг і барану,
лямку бедака далей цягнуў.
Час ішоў — раслі на латах латы...
Быў вясёлым, ды не стаў багатым.

Але нейк надарыўся выпадак
невялікім постам пад каляды,
што ажно загаманіла вёска:
— Аб'явілася праява боска!
Дзед збіраў мужчын у грамаду:
— Закаліце, хлопцы, каляду!

Чалавек папросіць, то спрадвеку
тут дапамагаюць чалавеку.
Нехта ж чутку расказаць паспеў:
— Рохкае паршук на цэлы хлеў!

Людзі ў хату.
Шчыра дзед звярнуўся
да сваёй кабеціны Франусі:
— Бачыш, баба, што чакаюць людзі?
Дык чаго, надзьмуўшыся, марудзіш?
З рук жанчыны спрытна чапяла
пад крывы падпечак папаўзла.
Вырачыла вочы грамада —
выбегла з-пад печы каляда.

Венік у кутку стаяў на смецці.
Вепручок там сховішча прыкмеціў.

Шуснуў ён, гарбаценькі, туды —
знік... Не закалолі каляды.

Хоць гібеў без хлеба любы дзед —
весяліў часамі белы свет.

## НАРОДНАЕ

Хіба праўданькі ні слова
ты мне не казаў.
Хіба Нёман раптам з мора
пацячэ назад...
Хіба сосны з бору самі
пабягуць у свет
і гарачыя крыніцы
пацякуць услед...
Промень сонца сінім раннем
не сагрэе нас.
Цёплы май з вясёлым граннем
уцячэ на Марс...
Хіба чэрвеньскія зоры
ападуць усе...
Хіба ён мне адно гора,
слёзы прынясе.
Хіба бульба ў Беларусі
вырадзіцца як.
За Буланага калёсы
павяже гусак?
Хіба выспеюць узімку
вішні на вярбе...
Хіба век любіць я буду
добрага цябе...



Пайду я напрасткі па цаліне,
забыўшы тлумны горад, у паход.
Аслепіць снегавая бель мяне,
закруціць завіруха ў карагод.
Застогнуць сосны стылыя ў журбе.
Снягі... Снягі...
Маўклівыя палі...
Адны снягі і вецер на зямлі,
і я, непадуладная табе.
Я буду на марозе сэрца грэць
і танцаваць на снегавым таку...
Я, злосная, смяяцца буду, пець...
Ад беспадстаўнай рэўнасці ўцяку.



Шчочку да вуснаў туліць,
каб таямніцу спытаць:
— Белая Русь, матуля,
гэта дзяўчынка? Так?

Як называецца дзіўна...
Ты пра яе раскажы.
— Белая Русь — радзіма.
Перад табой ляжыць.

Крыкні — яна адгукнецца
звонам гарачых кос.
Кропля з ліста сарвецца,
ускалыхнецца плёс.

Даль захлынецца громам —
Белая Русь запяе.
І азарыцца Нёман —
чыстае вока яе.



Я падумала пра ракету,
як яна вырываецца ў космас.
Мне тады прыгадаўся колас.
Выплыў ён з зялёнай цямніцы
на танюткай, бы промень, сцяблінцы.
Паківаў галавой сусвету —
наліваецца сілаю стаў...

Так развітваецца ракета
перад тым, як выйсці на старт.

## СОН

Недзе за лесам далёкім,
недзе за росным аўсом,
поплечкі з ветрыкам лёгкім
блукае па свеце сон.

Стукае звыкла ў вокны,
для ночкі красёнцы тчэ.
Сон зазірае ў вочы,
крадзецца сон да вачэй.

Подыхам знікне ў жыце,
хваляю праплыве.
Як мама, малую Віцю
пагладзіць па галаве.

Спаць пакладзе калыханку,
цішаю ахіне.
І перад самым ранкам
зморany сон засне.



А на Нёмане —
крыгаход.
Крыгі-востравы,
нібы роздумы.
А навошта ты
кожны год
мне прыносіш
прыстані-ростані?

Я сама пакуль
не паверыла,
не прыходзіла ў галаву,
што ад гэтага ветру,
ад берага,
ад самой сябе
адплыву...

## СТОМА І ПЕСНЯ

Касцы з касавіцы песню
на кончыках касаў неслі.
Дадому праз лес напроста —
лёгкую, з мяккіх пракосаў,
апошнюю песню красак
са стомай паўдзённай разам...

Касцы паўдарогі пранеслі.
Нарэшце ў сасновым лесе
стома скарылася песні.
Адстала стома ад песні.
На хвоі сівыя апала...
З чыстай расой растала...

## КАЛОЖА

Каложа!
Каложа мая прыгожая!
Ты і ў завею, як летам, пагожая.
Клёнам тваім, пэўна, сто гадоў.
А можа, іх пасадзіў Міндоўг?

Любая крона паўнеба засціць.
З паўсвету птаства
тут знойдзе засень.
Там недзе звіта
гняздо для месіка.
Сядзіць ён,
ногі ў Нёмане звесіўшы.
А Нёман цячэ сабе ўдаль,
як звычайна,

стагоддзямі вербы да хваль прыручае,
жартуе і лашчыць,
пяшчотны залішне,
пад кручай закруціць нядобрыя мыслі,
свавольную думку знайсці дапаможа...
Вясновая песня мая —
Каложа.

Калі над табою
цені мярэжацца,
чакаюць спаткання на кожнай сцежачцы...

Калыска вякоў неспакойных,
Каложа!
Няхай твае сны
ніхто не трывожыць!

І вера і цвёрдасць мая —
Каложа!
О, колькі крыжоў на тваіх раздарожжах!

Крышылі, палілі,
дратамі скручвалі,
а ты, як зямля,
была неўміручая...

Ты на заходзе, як поўдзень сонечны.
Васьмівяковая,
і заўтра — сённяшняя.

Ніпто цябе з сэрца
вырваць не зможа,
бяссмерце продкаў маіх —
Каложа.

## НЁМАНУ

Трывожныя думкі дарог
заўсёды вядуць да цябе.
А сёння з духмяных бароў
ты сам насустрач прыбег.

Стаю з берагамі ў рост,
не ў сілах адвесці вачэй,
а ты ўдалячынь наўпрост
праз сэрца маё цячэш.

І — рук загарэлых узмах,
па хвалях-віхурах удар.
Я стану табой сама —
пайду, паплыву
удаль.

## РАНАК

На палі,
на дрэвы
і на праслы
апускаецца паволі яснасць.
Па шырокім неўгамонным плёсе
нетаропка сонца разлілося.
Нехта цішу цэдзіць
млявай жменяй...
Меней...
Меней.

## ЧОРНЫЯ ЗОРЫ

Тыя чорныя промні —
ім гарэць, не згарэць.
На імгненне прыпомню —
аж сэрца замрэ.

Тыя чорныя зоры
з адценнем смугі
патанулі ў азёрах
невядомых, другіх...

Толькі мару і сёння,
каб калі-нікалі
тыя вочы ў прадонне
мяне завялі.

Заўсміхаліся ветліва,
як даўней з-за гары,
тыя самыя дальнія,
тыя самыя светлыя,
тыя самыя чорныя
дзве зары...



З табою расставаліся —
настыгла хмары скрыгалі.
Над кручай затрымаліся —
пакрыўся Нёман крыгамі.

Пакрыўся Нёман холадам.
Сапе, як звер,
заснежаны...

А плыў калісьці горадам
зімою без адзежыны.

А мы ішлі па інеі.
Мы там сляды пакінулі.
Каталіся на песеньках
ад Нёмана да месіка.

* * *

Босыя ногі,
голыя плечы...
Збочыць з дарогі —
лугам прабегчы...

Над перасохлай
рэчкаю звонкай
выпырхнуць соннай
птушкаю соўкай.

Перасмяецца,
перамарыцца.
З ветрам, травою
нагаварыцца...

## РАДЗІМА

Нібы сунічка на прагалку,
сярод людзей і ціхіх ніў
я падрастала дзень пры дні,
твае сцяжыны прабягала.

Была бяздумнаю дзяўчынай.
Жыццё мяне перавучыла:
злучыла назаўжды з табой
і прабуджэнне, і любоў.

На свет я выйшла з цемнаты,
таму што ёсць на свеце ты.
Так стала жыць, як ты сама:
ты — у зіме,
ва мне — зіма.

Смяюся, калі ты ў вясне.
Не спіш — бяссонніца ва мне.

* * *

Там, за птушынай дубровай,
туман ручайкі прадуць.

Бусел пасе каровы,
паснедаўшы на хаду.

Спіць пастушок на пяньку.
Падклаў кулачок пад шчаку.

## ЛОВАЦЬ

Ціхая Ловаць
каменьчыкі ловіць.

Шэры каменьчык,
жоўтае дно...
Хвалі скамечаны,
як палатно.

Шэпчуцца з ветрам
змоўніцы-вербы.
Скача сцяжынка,
нібы смяшынка...

Скокнула ў хвалі —
мы не дагналі.
Гушкае Ловаць
зорную лотаць.

## НАТУРА

Салаўём на вушка пяяў:
— Будзь мая...

Ажаніўся — загудзеў,
як настырны авадзень.

Ні на танцы-выскалянцы,
ні ў кіно,
ані ўсмешкі-перабежкі
праз акно.

Ні з суседчыным суседам
пасядзець,
ні на бабінага дзеда
паглядзець.

А начыста галаву адурыў.
Як па мне —
з кім ахвота, гавары...

Сам падсеў да прыгажунь?
Як папругу,
язычок распераджу.

* * *

Ці сняцца табе хвілінаю
вусны з гаркотай калінавай?
Сасонка з дзявочым позіркам,
што зябла на росах позненька?

Яна для цябе — бяссонніца...
Яна без цябе — бяздомніца...
Ці сніцца зрэдзьчас?
Ці помніцца?

* * *

Шаткавалі капусту двое,
а за вокнамі спела восень.
Стукаў ножык па дошцы часценька.
Усміхалася шчыра шчасцейка.

Усе асеннія колеры, пахі
ў невялікі кадоўбчык ссыпалі,
у кляновы, жоўты, як сонца.
Напаследак падсыпалі солі.

А як чыста было на стале,
двое разам сабраліся ў лес
і хадзілі сцяжынамі роснымі,
выбіралі кіёк бярозавы.

Выбіралі кіёк па густу.
Маладых палянка лагодзіла.
Беразінкай праб'юць капусту,
каб з яе гаркота выходзіла.

## ДВОЕ

Для саміх сябе недасяжныя,
захмялелыя ад бяссонніцы,
так і ходзяць яны, сарамяжныя,—
па галлі, па раллі, па сонцы.

Паміж імі сцяжынка сцелецца.
На яе ступіць не асмеляцца —
уступаюць ліповую ветліва
светламу...

## КАСЕЦ

На прылессі расце шчыры лён,
углядаючыся знізу на клён.
Пояць лён дзяўчаты росамі,
лён апыльваецца восамі.

Тут спяшаліся касцы на пакос.
І адзін касец да сцежкі прырос —
паланілі хлопца вочы —
ільняныя ці дзявочыя...

Жартаўнік не разгубіўся,
крычыць:
— Мо дзяўчатам апалоць
дапамагчы?

Дружна жартам сыпанулі ў адказ:
— Ці пракосы зашырокія ў нас?

— І пракосы пакасіў бы касой.
І абняў бы прыгажуню з касой.

— Напрацуйся шчыра зрання.
А пад вечар — абніманне.

## ВЫТОКІ

Мяне лета ў горадзе скоўвае.
Я — сялянка, жанчына вясковая.
Серп зублёны начамі сніцца,
без работы баліць паясніца.

Я вяртаюся зноў у жаданае,
у дзявочае, у нядаўняе.

З непрывычкі стала заслабая,
не зжынаюся з дужымі бабамі.

Я ад крыўды плачу амаль,
перавяслы кручу сама.
І ні стомы, ні пылу, ні часу,
нават болю не прыкмячаю.

Зноў жняя да радні прынята.
Як жа пахне трава прымята...

## ГАРШКАЛЕПЫ

Не багі гаршкі нам ляпілі.
Перуны па нябёсах лупілі.
А гаршкі ляпілі замораныя
гаршкалепы з няблізкага Морына.

Разлягаўся голас па вёсцы:
— Ганчары ідуць!
— Гаршканосцы!

Я прасіла:
— Дзядуля, скажы,
а чаму пяюць гладышы?

«Не мялі ты мне глупства рознае!
Ат, падумаеш, гаршкалеп!
Не пачуе, як пахне хлеб...
Пахадзіў бы з сахой па барознах!»

Не ў пашане ў дзядоў гаршкалецы —
людзі без нівы, без хлеба.
І без сталай сялянскай працы.
На суглiністай той гаспадарцы,
сапраўды, не багаты ўмалот —
па гаршку збіраць з года ў год...

А ў матулі чуваць і цяпер
той танюткі-танюткі спеў...



Першы след маланкі — баразна.
Хутка будзе сеяцца ярына.

Ручнічок закінула на плячо
і пабегла сонейка, як дзяўчо.

Борзда пераскочыла цераз сад...
І туга дзявочая,
як раса...

## АСЕННІ ЛЕС

Асенні лес, дзе птушкі не крычаць,
як прывід, прападае на вачах.
Пранёсся вецер —
і адценняў меней.
І дагараюць барвы...
І праменне

здарожылася, знікла ў небакрай.
Лес памірае
Памірае гай.

Але бярозы непрыбраны ствол
маўчыць — не памірае хараство.

Лаўлю рукамі барвы на ляту,
знарок настрой расквечваю.
А лес
у згадках каляровым уваскрэс.

І я з прыродай
зноўку зацвіту.

* * *

Ці цябе Красуля
укалола рогам?
Ці табе красуня
перайшла дарогу?

Мо дадому ехаў,
асядлаўшы рэха,
ды віхуры ў лесе
смех увесь абтрэслі?

Можа, брыў цераз брады
ды набраў у рот вады,
што як сеў на ганку,
то маўчыш да ранку?

## РАЗЯВА

Дзядзька,
сын твой разява!
Я стаяў каля нашых варот.
Ён аглобляй ад воза
як сунецца
мне проста ў рот.

Але я не разява:
рот раскрыўшы,
далей не драмаў —
хоць і выламаў зубы,
аглоблю таксама зламаў.

# II. НЯХАЙ МОЙ СЫН ПЕРАЖЫВЕ МЯНЕ



## БУСЛЯНКА

### Уступ

Плёну ў працы дням тваім будным,
ніва,—
прашчур мой мераў ступою.

Будзь заўжды паўнаводнаю,
студня,
дзе цётка вядзёрка напоіць.

Хай гняздуецца
хуткая ластаўка,
што сёстраў спрасоння вітае.

Толькі гром навальнічны
хай будзіць вас, далі!
Вы мне падарылі світанне!

Чыстым будзь, гаманкі ручай,—
да матулінай песні
мне троп цераз бор скарачай.

Мерным,
скрып старажытных калёс,—
да юнацтва з маленства давёз.

Гэты цёплы закутак
неабдымным сусветам падаўся.

На суку дуплаватым
з птушанятамі
род мой гайдаўся.

Лістам слаліся долу
дні. Галовы курыла імжа.
Гадаваць сваю долю,
дзе канчаецца продкаў мяжа.

### Франуся

Над вузкім шнуром гнулася,
па межах блудзіла
вясна бабулі Франусі
песняй лебядзінай.

— Скуль, зязюлька?
— З Заполля...
— Згарыць мая воля!

Сваты па слову
замовілі змову,
павезлі замуж —
на вочы засмуж.

Успомні, мама,
мяне за светам,
цябе прыпомню
зімой і летам.

У купца-малайца
сіротаў як маку.

— А дзе ж матуля?
— Схавалі мамку.

Удавец-удалец
не ўбярогся маны:
світанкі-гулянкі,
нібы кайданы.

Прыедзе дахаты —
на золак дыміцца.
Абяцанкі-цацанкі —
пацешся, дурніца.

Зялёны лісточак,
чырвоная вішня.
Ці тому я лішняя,
за каго выйшла?

Дажала жыта —
звярэдзіла спінку.
Ні мыта, ні шыта,
Няма супынку.

Прыехаў учора —
пануры, як гора.
— Ты — мой барыш.
Нясі свой крыж.

...Выходжу ў поле —
спакуса — мытнік.
Рой перапёлак
стрыкоча мыслі.

Над хатаю бусел
агледзеў буслянку.
Пакідае Францусі
штогод Запалянку.

Дробныя пёркі —
прарэхі, распоркі.
Да ласкі — хлеба!
Сагрэе неба.

Успомні, мама,
пад вечар, зранку...
Цябе я помню,
бы ў сэрцы ранку.

«Прадам,— гавора,—
здыхлю-жаробку,
пайду за мора
шукаць заробку».

Прынёс дахаты
на латах латы.
«Няма вярма,
дзе нас няма».

Я да свайго роду —
не шукаю броду.
Хоць і намачуся.
але дакачуся.

Сабралі ношку —
усяго патрошку.
У ноч, у замець
шляхі — на памяць.

На тыдзень жабрачка
прагнала голад.
Самой гарачка
здушыла горла.

Успомні, мама!
Наглуха — брама.

## Запалянкі

Не апырыліся птушкі,
паляцелі рана ў служкі.

Як туман на даліне вырас,
перад вандроўкай прыселі,
узняліся ў буслiны вырай
над прасторам асенніх аселіц.

Пад крылом у смузе радзіма —
утульнае, роснае дзіва.

Сумота, сумота —
ляцець ад пагоні сумётаў.

Пад сонца падкінуць яліны
вясновае кола буслянкі,
памножыцца род буслінЫ.
Бусліны род —
Запалянкі.

* * *

Трэба жаць людское поле,
«лета» пець, не слухаць болю.

Ці ж сіротам да гулянак?
Абжынай радню па-свойску.

Раззлавалі Запалянак —
бура коціцца праз вёску.

Як запалкі, дзяўчаты.
Языкі, што нож.
У мароз басанож
да гумна ад хаты,
па ваду, на ток,—
нібы прысак, лядок.

Навакол на тры мілі
кавалераў прыпынілі.

Ды сваты не рады —
на тры пядзі грады.
Кавалер багаты
ні на стрэл да хаты.

Дзе сасонку між дарог
на дажджы віхор бярог,
там цяперака цямнеецца барок.

## * * *

Неслухмяную постаць
сялянскае мацi
аглядае прыдзірліва бабка:
— Хутка боця на плоце
прысядзе — прымайце!
А будзе то сокал ці жабка?

Маладзіца нясе,
нібы поўдзень, жывот
паўз гарачы лясны
і мурожны зацішак.

Асцярожна ступае:
сцяжына, як лёд.
З непрывычкі сорамна крышку.

Перасмешнік заходзіцца
ў золкай расе.
Два харошыя сэрцы
жанчына нясе.

— Тук-тук, так-так...
Стукочуць у такт.

Напярэймы бяжыць
праз барок, сенажаць
гаваркая сяброўка-рака.

І не трэба знячэўку
ад страху дрыжаць
сэрцу смелага дзецюка.

* * *

Мяне на траскучы мароз
да Кундрацiхі бусел прынёс.

Сам стары, нялёткі, падбіты,
з балючаю прагай блакіту.

Злётаў крылы свае за гады.
На нагах мазалі ад хады.

Парыжэла хваста чарнота,
пашарэла перыйка бель.
Між чароту старога балота
апошнюю зімку гібеў.

Апошнюю пташку-дзяўчыну
спавітушцы ў сенцы падкінуў.
Дапраўды, да сэрца выбраў
запалянскі крыклівы вырай.

Сам прылёг між галля,
каб ралля
ўжо апошняй пасцеллю стала.
І знямоглае сэрца
віхор залюляў.

І дзяўчына
ў бары клекатала.

* * *

Гадавала мяне сініца —
сястрыца.

Спявала на сон,
на прасонак.
Абмывала расой,
выцірала сонцам —
сонца гойдалася між сасонак.

Расчэсвала кудзеры
шорсткай кудзелі.
За руку выводзіла ў людзі,
каб паглядзелі.

Углядаліся, нібы ў люстэрка,
на сястру з усіх павароткаў.
Не дзяўчына —
прынада-цукерка
на вусны цікаўных цётках.

Ды прыехаў з далёкага краю,
як злавіў пагалоску-дзічыну,
шпікулянт,
ды прывёз краму,
каб прадаць і купіць дзяўчыну.

Судзілі-радзілі справу,
як вяселле згуляць да каляд,
пакуль не прысеў на лаву
госць няпрошаны —
Мікалай.

Выпаўзалі купцы-купчыхі
з-за стала, нібы чарапахі.
Касмылі чухалі, чмыхалі —
ды лахі пад пахі.

...На руках насіць абяцання
не даваў, а па Рэнінай просьбе
толькі песню «Выйдзі, каханая...»
на жалейцы іграў
на прызбе.

Па людзях ізноў перасуды
пра заручыны Рэні — Міколы.
І з бомамі ў вечар сумны
павезлі сястрыцу колы...

### Вяртанне

Убіраюцца дзеці ў пер'е,
не бяруць на розум павер'е:
навошта пароць раптоўе —
астуджваць продкаў гняздоўе?

Берагуць падвор'е бярозкі —
раскідаюцца вёскі.



Спахмурнела гасціна —
адлятала сястра Яніна.

— Што сядзець ды чакаць смерці?
Павартуюць сажалку чэрці.
Збірайся...
У лёгкі час!
Пабачыш свету за нас.

Выбівалі калёсы чачотку —
далёка вазілі цётку.
Перапоўненыя вакзалы
вузлякі на памяць вязалі.

Былі і пітво і закусь.
Наглядзелася дзіваў за дзякуй.

Заспакоіў ліст
родны кут:
і за светам няма пакут.

...Покуль спала ў стэпе зіма,
покуль граю гракоў няма.

Напрадвесні — вымраіў слых —
паплылі ў сінечы буслы.

Уварваўся май да Яніны
без чаромхавай азярыны,
без паводкі, лотаці, кладкі...
Без мужавай вечнай хаткі.

Затужыла па Біскупцах цётка:
— Я бяскрылая,
я нялёткая...

Прырасла да радзімы навекі,
як буслянка да елкі.

## Збавенне

Ружавеюць шчокі аблокаў
у застрэшшы бязмеру.
Бусел кругамі аблётаў,
высеяў клёкат на веру.

Праз бясконцы палетак
на белу расу
палотны сцялю — у лета
узлётную паласу.

## АСАКА

Рвала вішні недаспелыя,
хваліла.
А салодкія, пунсовыя спяліла
маладому задаваку, што па ночы
і прысніць мяне не хоча.

Ды аднойчы...
вольны жораў занудзіўся
не па высях,
вінавата на парозе ён з'явіўся:
— Дай напіцца, прыгубіцца...

Ёсць крынічная вадзіца.
Падаю яму кісліцы
з прыгаворам:
— Чым багаты, тым і рады.
Да аскомы пі, журботы памагаты.
Дзе ж смачнейшага піцення
наспех возьмем?

Паскідала восень
з дрэў у садзе вобзем
вішні спелыя, аж чорныя бакі.
Іх аўсянкі падзяўблі ды шпакі.

Пі, мой згублены,
успомніў ты па часе:
я адна не раз гаркоты напілася.

Прыхінулася плячом да вушака.
Як валошка, дакранешся —
асака.
Плакуном асот калючы паглядзеў:
— Быццам мёду паспытаў.
Ды саладзей...

## БАБІНА ЛЕТА

Загадкава ў бабіным леце,
нібыта ў апошнім каханні.
Ці дрэва абтрушвае квецень
ці з роспачы голлем махае?

Званкі ў вышыню адплываюць...
Ці гэта вясну адпяваюць?
Ці восень маю запіваюць?

Прысела ціша ў хаціне.
Трывогу ў куток пасяліла.
Целу дрыжаць павуціннем.
Вуснам гарчэць калінай.

Жыву будзённай нядзеляй,
стаіўшы пад сэрцам лятунак:
ты з'явішся цёплай надзеяй,
мой безвыходны ратунак.

## ЛЁТ

У нас, як некалі,
па наваколлі
неспакойна —
стукочуць коні.

А ты ўсё думаеш,
што я такая ж,
што я вясковая
твая дзяўчынка...

Ужо ў дзяўчынкі
вочы запалі,
а каля вуснаў
паселі маршчынкі...

Коні-дзівы
праз мой парог —
чатыры грывы,
дванаццаць ног.

## ТУТЭЙШАЯ

— Адкуль з такімі вачамі?
— Тутэйшая...
я звычайная.

Мяне маці тут нарадзіла,
як сасну ў бары пасадзіла.

Я зжылася з вятрамі, з нягодамі.
Мне казалі, што я не гордая.
Таму я не гаманлівая,
што ўзрасціла зямля неўрадлівая,
перакроеная, пясчаная...
Тутэйшая...
Я звычайная.

Аж сціскалася сэрца ў захопу.
Я ў гушчэчы збілася з тропу,
шэрым ценем на травы апала
і крыніцай на золку стала.
Засмяялася — звонкая, лёгкая...
Пабегла ў стэпы далёкія.

Там пілі мяне, светлую, сінюю.
Рукамі, што пахлі бензінам,
распырсквалі — гаючую —
на пясок, на траву калючую.

Як ні білася я, гарэзная,—
закавала мяне зіма.
Рэкі стэп шырока парэзалі.
Там крынічак-жывічак няма.
Там няма і такога сасонніку,
дзе б лавіць між галінак сонейка.

Мне ж успомнілася даўнейшае —
я далёкая...
Тутэйшая.

## ЦЁТКА

На магіле ўзыду дубам...
Пачну шаптаць братнім губам
аб іх долі, аб свабодзе.
Стану песняй у народзе.

*Цётка. 1906 г.*

У шчырым бары неспакой загаю —
засну, падклаўшы пад вуха
матчын прыпол — зямлю маю,
падушку з гусінага пуху.

Там верасы пяючыя
сцішна атуляць вякамі
ногі мае бягучыя,
сэрца маё — камень.

Вецер сухі змые сляды,
вытра бяссілле з губ.
З сэрца — з жарствы, скаргі, жуды —
з каменя — вырасце дуб.

Ступіць дзяўчына тут на зямлю
золкаю раніцай весняй...

— Я з тога дуба цымбалы зраблю,
каб даіграць тваю песню,
Цётухна.

## ЛЮДЗІ БЕЗ СМЕРЦІ

*Васілю Быкаву*

Гэта —
зноў вяртаюцца ў строй
думкі, гнеў і гонар сяброў,
скошаных куляй насмерць...
Абарваны іх шчыры смех.

Як цяпер, стаяць у вачах
прад аглухлым скрываўленым раннем
з неадступным на вуснах пытаннем:
а ці маеш ты права маўчаць?

Гаварыць —
не дужых пацешыць.
Зубы сцяць!
Як сябры маладыя хацелі
не халодных пліт ад жыцця!

Што ім помнікі на вякі!
На струхлелых касцях вянкі
не ажываць магільных сноў.
Дакрануцца б да цёплай рукі.
На дасвецці збіраць валількі
па дрыготкай буйной збажыне.
Аж да столі гушкаць сыноў,
за якіх паляглі на вайне.

Гаварыць.
Лішніх слёз не ліць.
Памяць не любіць слёз.
Заклінаць,
каб нашчадкаў зямлі
абмінуў непапраўны лёс.

Зноў вяртацца да сэрцаў мужных,
што пакрочылі строем у вечнасць:
ці прымалі яны двурушных?
Ці даруюць нам бессардэчнасць?

...Не сагрэць магілу сырую.
Мёртвы воін не мае сэрца.
Мёртвы воін табе не даруе
здраду праўдзе і после смерці.

Маеш права на спогадзь, на жаль,
на ваганне, змаганне з сабой...
Кінуць лёс на лязо нажа...
Справядлівы адвечны бой.

## ДЗЕД

Не паверыў, што гэта апошні снег
сакавік абтрасае з палатак яму.
«Перадыхаць марозную злую зіму...»
Дзед араў здаровы і дужы — у сне.

Таямніц не схаваеш:
— У цябе ж, пэўна, рак...
Агрызнуўся:
— Пракрокі!
Вам трасцу пад бок!
Вось закракае зноў на алешыне грак —
я цябе за сакрэт адлупцую, дальбог.

У крыклівую мову прылётных гракоў
хлебароб з пупавіны верыў пэўна што больш,
чым у лекі,
якія не суцішваюць боль,
чым у чыстых надзьмутых свяціл-знатакоў.

«Доктар іншым заняты,
то збыў мяне з рук.
Не збадаў, не паслухаў мой боль усур'ёз».
Абяссіліў жанчыну цяжар яго мук.
Спланаваў:
«Не пайду на той свет на мароз...»

Не глынуць жыватворнай крынічнай вады.
У натруджаных жылах варочаюць нож.
Галавы не падняць.

Дзень сцямнеў, як і ноч.
Не прыпомніць,
а як жа скакаў маладым!

Ды паверыў спрадвечнай надзеі —
вясне.
Засакоча, засвішча, зайграе наўкол.
Дасць нырца,
верхаводкай памыецца дол.

Хлебароб, як і збожжа,
засне ў баразне.

## ЯСНАТА

Кропля.
Навокал мора —
краіны гаючай мова.
Дыхае і булькоча
жывой трапяткой істотай.
Неба пакрэсліў лётчык
срэбным крылом самалёта.

А на лабатым грудзе,
дзе пульхны мякіш — мурог,
цялушка расінкі будзіць
дотыкам тонкіх ног.

Рыба плыве касякамі
з чырвонымі каснікамі.
Хлопец з начлегу едзе дадому.
Добра яму — маладому.

## ПРАБУДЖЭННЕ

Дзе Нёман прытуліўся да Гаўі,
дзе draздамі перапоўнены гаі,
навыперадкі з воблачкавым ценем,
як ластаўка, маленства праляцела.

Як смачна ў мамы елася-пілося!
Ды хутка, лёгка беглася-раслося!
На сене добра спалася ў адрынцы.
Спявалі на вясковай вечарынцы.

Жадом жадала
стаць хутчэй дарослай.
Пытом пыталася
ў ясноткі роснай
турботнага, смяротнага, зямнога...

Праз поле шыбавала напрасткі...
Здавалася, наперадзе так многа.



Я ізноў цябе не праводзіла
ў невядомы далёкі шлях.
Мне прыснілася чыстае возера —
па вадзе басанож ішла.

Лугавіна ўся затапілася,
а было глыбока, павер.
Каб вада тады расступілася,
не змагла б я выплыць наверх.



Новыя сані.
Лёгкія коні.
Сёння не сядзем —
значыць, ніколі.

Чаркі і словы
і сцежкі ўразлёт.
Біце, падковы,
звонкі лёд!



Зноў, як сініца, скачу жвавей
у казку... Можа, казка ажыве?
Ну, ажыві!
Ад шолаху!
Ад смеху!
Я закрычу.
Я падспяваю рэху.
Я несвядомым рэхам
буду ехаць
па хвойках, і па гурбах,
і па стрэхах...
Абснежуся.
Аб'інею.
Прамокну.
Ахрыпну.
Замаруся...
Не замоўкну.

## ЖЫВІЦА

### Роднасць

Ты мой жаночы клопат забяры.
Блукаю зрання па бары.
Як птушку, клеткай амаль змарылі.
Кусты ядлоўцу абдзіраюць крылы.

На ўсёй зямлі — аднютка.
Свет прыціх.
Ківае патаемна галавою:
жанчына заблудзілася ў трох хвоях.
Жанчына заблудзілася ў жыцці.

Куды ні кінецца — прасветліны няма.
Валтузіцца дарма.

Нырнула ў верас,
зазірнула ў высі —
прапалі цені.
І хітраваты свет з-за сосен выйшаў.
І ў сэрцы наступіла пацяпленне.

І распазнала я, што заблудзіла
ў бары, які матуля пасадзіла,
які матуля песціла, палола.
— Як спрытна, дружа, ты мяне палохаў!

Па-змоўніцку, пацешна рагаталі
я, сосны, птушкі, далі...
Прымоўклі хорам.
Прыпомнілі сустрэчы з горам.

Пацелі будні.
Хмялелі святы.
Уходзіны спраўлялі хаты.

Трухлелі пні
ды ападалі ў травы-сны.

Ды многа дрэў нягоды падкапалі.
Іх вершаліны ў полымі купалі.
Ды скінулі па пёрку
гусі-лебедзі на галаву.
Пачатак выраю згубіўся ўжо. Але
шуміць наш лес, у ім — жыву.

Дубровы прадзедаў, бацькоў, сыноў
гарацъ штовосень, зацвітаюць зноў
штовесну. Прадзед у вандроўку рушыў,
трасе дзятва яго ласункі-грушы.

Упарта ўрос у гэты грунт наш род
смалістым карапём глыбокім.
Як спатыкнецца сейбіт пад гарой,
паўстануць Белавежы, Налібокі.

І не кароткі век наш, не кароткі.
Дубы — то нашы двайнікі, то продкі.
Шапочуць пушчы родныя, дубровы
забытым шолахам тутэйшай мовы.
Заваблівають нас ад чэрствасці гаіцца
жывіцай.

## Сталасць

У новым светлым гарадскім пакоі
не мае чалавек стары спакою.
Як толькі дзённыя турботы сну аддасць,
прыходзіць здань.

Зялёным целам шастае па столі
і стогне. Чалавек таксама стогне,

варочаецца, рве рукамі грудзі.
Старую будзіць.

— Гарачка зноў? Удушша?
— Мне не дае спакою наша груша...
— Засні ты, рук над ёю не ламай.
Чаго няма — таго няма.

Не спіцца. Ён у покуці прысядзе.
Апусціць галаву. Падумае аб садзе.
Прыгадваецца, як яно было:
як немаўлятка-дзічку прывалок...
У дужую шчаслівую вясну
якраз нагледзеў слівіну адну.

Гады і мазалі.
Гады і сілы.
Здымае плён, хто не шкадуе жылы.
Ты нарадзіся пан ці чарадзей,
прыгожы сад не вырасціш за дзень.
Дзесяткі год бяссоння і надзей
куды падзеў?

Так верыў, што дашчэнту не згарыць —
антонаўкай духмянай на зары
на тлусты дол вільготны ападзе
без прычытання-стогнаў
і прарасце антонам.

А як цяпер?
Абуўся. Не сцярпеў.
Праз яміны, калдобіны, праз глыбы
спяшае да ранейшае сялібы.

Ды пустка навакол, нідзе — нічога.
Пралегла ад былога, ад парога
у два напрамкі роўная дарога...

А дзе шамрэла прывідніца-груша,
цяпер красуе вырадак які?
Нягегла растапырыўшы сукі,
лістотай невыразнаю воруша...

Панура чалавек нясе дадому
хваробу невылечную і стому.
Трашчыць цяжкая галава ад дум.
Да долу цягне бяскрылы лёс.
Зімой перасадзілі, нібы дуб.
Зімой не прыжывецца вербалоз.

## Хаўтуры

Трывожна сцяўся азалелы ранак,
ані адно сцябло не задрыжала:
сярод прыроды яблыня ўмірала —
яна была цяжарнай.
Яе плады, галюсенькія, лысыя,
матуліных грудзей не напіліся,
як дзеткі, гойдаліся дурасліва
на ветрыку
і язычкі паказвалі.
Якраз бяздушша нацянькі брыло —
свавольны яблык гопнуўся на лоб.
Загад-маланка
сухі і строгі —
сысці з дарогі.
Тупы тапор падцяў яе пад корань.
Ускінула адчайна рукі ўгору.
Як чалавек, ступіла крок наперад
ды падала жывым нязграбным чэравам...
Ды стогн прыкрыла шоламам галін...
Па яблыку зямлі
каціўся сын...

## Спас

Самы грозны сцішэлы бор —
шчырых сцежак і думак збор,
буйнай спеласці таямніца,
тут — збавенне маё свіціцца.

Што ні лета імкніся вышай!
Хай пяюць твае птушкі званчэй!
Я — іскрынка лясных вачэй —
прагну буры,
абмыеш цішай.

То злую на цябе, то шкадую,
то хвалю, то ганьбую,
а лес —
барадаты, калматы спрэс —
баравыя грыбы мне гадуе.

Непралазнай ажыны вянкі.
Восы джаляць мядовы верас.
Не палохаюць злыя ваўкі,
што па нерушах зубы шчэрацць;
ап'яніў багуном надоўга,
затуманілі розум дурніцы:
выбірала зайздорсную долю —
пад шчаслівай сасной нарадзіцца.

Пераблытаўшы свята і будзень,
калаціцца, як голле асін,
у смалістым зялёным гудзе
аб прыродзе, аб людзях усіх...

Нічагуткa мяняць не буду.
Хай з-пад броваў-ялін бліскавіцы!
Векавечны дуб чуе буру.
Засынаю ў жывіцы.

ЖЫТА

Вайна, як смерць, заўсёды без пары
шляхі народаў з быццём уласным
скрыжуе,
намаганне зробіць ясным:
вось вораг — знішчы або памры.

Бамбілі полаг салодкіх сноў.
Спалохалася маці за сыноў.
Падлеткі-хлопцы,
на траіх адна
нявеста прагавітая — вайна.
Заваблівае на шлюб —
на скон.

Пайшоў за ёй
старэйшы сын Сымон.

## Сымон

Ён прыходзіў дадому
ўпоцем.
Ён прыносіў дадому стому
і бялізну ў крыві і поце.

З ім прыходзілі хлопцы —
сябры
па бары
пры цяжкой бязлітаснай зброі.
Трое.

Каб ні шчылінкі —
аканіца.
Дымела газніца.
— Распранайцеся, хлопчыкі,
мыцца.

...Падабрэлых, чыстых, вясёлых
частавала бульбай без солі,
з семення мачанкай.
Маўчанкай.

Дзе хто ўпаў,
там спаў.
А яна
мыла, латала давідна,
адганяючы страх упарта,
шчыравала над імі, як варта.

На сутонні гыркалі стрэлы.
Шлях жагнала,
каб хлопцаў не стрэлі.

Аднойчы з'явілася шмат.
Пэўна, Сымонаў атрад.
Перад ёю пасталі самотна
без Сымона.

На месцы яго за сталом
зазеўраў халодным дулам
аўтамат.

Сурова сыны паселі
з прымкнутымі штыкамі.
Бульбу сопкую елі,
што камень.

Маці з каменя стала.
Счарсцвела раптам ад гора.
Глуха, няўцямна спытала:
— Дзе той пагорак?

## Ігналь

Пагладзіла прыціхлы аўтамат...
Да Ігналя пасуе акурат.

А на гасцінцы стогнуць камяні.
А па гасцінцы — вораг, не крані.

Зноў паншчына вярнулася, каб пан
папартызаніў на партызан.

І гаспадар пастукаў у акно...
Праскочыў — цішыня сцялася зноў.
Бы гром зімой,
загрукалі яны —
у хаце засвісталі бізуны.

Сыны, высока галаву трымайце,
як маці.

Бязлітасна свісталі бізуны.
Прыставілі пры дзецях да сцяны.
І выслізнулі ў сенцы, як вужы.

На лаве ў роднай хаце
паляжы.

Жанчына, як распятая на крыж,
закамянела, зацялася
і маўчыш.

Засыпалі ў пясок гаспадара.
Вячэрай памянулі.
Са двара
пайшлі. Суседкі кроў паспелі сцерці.

Прабіта ў хаце
жарало смерці.

Ламай над ім, жанчына, рукі,—
надта
цярплівая прастрэленая хата.

## Фадзей

Не дубцом, а дудою
гоніць статак дадому.

Шмыг суседка з-за вугла.
— Мышка, мышка, дзе была?
— Не была я анідзе.
Дай пагрэю на дудзе.
— У цябе ж у носе
свой свісток завёўся.
Ты гадуеш там казу?
— Затое нестацка сказу.
— Гэта песня без канца...
— Як не хоцас, то не слухай.
Ты з Красуляй ці з Лысухай
скацас польку з-пад карца?

* * *

За статкам ад цямна і да цямна,
парэпаныя пяткі па расе.

...Яшчэ не ўтаймавалася вайна.
Як звер, таілася ў глухой страсе...

— Матуля, адпусці хоць на паўдня!
І Мышка дапаможа адпыняць.

Семнаццаць мне.
Дзяўчаты, дзецюкі
збіраюцца на фэст у Манцякі.

У снах, у марах
польку так сяку,
што цокат, бы ад цэпа, па таку.

— Сыночак, так спяшаўся, ці паеў?
— Калі там! Сэрца з радасці пяе.

...Вайне падставіў гаспадар кішэнь.
З-пад сутарэння вывеў на папас.
У шчырую шчаслівую мішэнь
не цэлячыся трапіла якраз...

Не ўцяміў нечаканай навіны,
як хлынула чырвоная рака...

А Мышка на палацях сніла сны,
сабой не засланіла сябрука.

### Міхась

Каля Нёмана лозы
пабілі марозы.

Беражы, матуля, слёзы...

Мала табе маркоты.
Сушаць Міхася сухоты.

Не дапамогуць дакторкі,
пярэпалахі, урокі.

Пупышы сасновыя трушчу.
Здабыла змяінага тлушчу,
сінюхі, каб не дрывеў.
Купаю ў плакун-траве.

Сінегаловіку, бядрынцу,
ключыкаў, лістоў ясеня...
На лёгкім скразняку ў адрынцы
паварочваю да сонца яснага.

Выпіў крыніцу гаркоты.
Сушаць Міхася сухоты.

Васковае хворае цела
ад загару цямнець не хоча.

Куды б яна ні паляцела,
каб вярнуць яму дні,
забраць яго ночы...

Маладое жытцо,
сагрэй ёй жыццё.

* * *

Уваскрасала,
канала тройчы.
Жыўцом лягла б за хлопчыкаў
у дол.

Чужыя людзі ёй закрылі вочы.
Палын і блёкат
праз плот на двор.

## Сыны

Пуцаты смехунок, сама даброта,
ружовай ножкай цягнецца да рота.
Гумоваму казлу казыча ў носе —
і колькі радасці бацькам прыносіць.
Сынок турбот не ведае. Пры маці
утульна, нібы ў коласе зярняці.
Хварэе маці, калі ён не спаў.
Дрыжыць, каб волас з галавы яго не спаў.
Ёй лыжка кашы супакою не дае,
калі малеча лыжкі не даеў.
А ўжо жартуе дзядзька барадаты:
— Таўсцей!
Патрэбны дужыя салдаты.

Аж скаланула згадкаю нямой:
і немаўлятка сынок — не мой...

Мацней за ўсё ў жыцці шкадую сына.
Шаную сцежкі, па якіх яго насіла.
Па сцежках сын на ножках пабяжыць
лавіць са стрэх прадвеснем капяжы.
Вітаю я лагодную зіму,
што першы пухавік дала яму.
Гару — гарэзу-цётку ў белай хусце,
што сына стрымгалоў на санках спусціць,
і цётку асцярожную нізіну,
што свой прыполік падсцеле сыну
і за руку да маці прывядзе...
Люблю зямлю,
бо тут мой сын расце.
І храбрыя лаўцы — яго сябры —
бы зайку, рэха ловяць па бары.
Да іх у сэрцы многа дабраты —
майго сынка равеснікі-браты.

Шмат на зямлі сыноў —
замурзаных, зацесных паўзуноў.
Адзін дзіцячы сад — мая зямля.
Маленькіх трэба ноччу залюляць,
прасторным ранкам на шляхах пагушкаць,
ім падабаецца успырхнуць птушкай
і, зноў ператварыўшыся ў дзяцей,
пагрэцца каля матчыных грудзей.

Матулі шыюць, думаюць, чытаюць,
а нецярплівыя сыны чакаюць.
Трывожна за дзяцей у рупны час —
на ласцы свету, не на вачах.
Хаця б не глянулі на іх ліхія вочы!
Хаця б ніхто не скрыўдзіў, не сурочыў
маёй душы балесную часцінку —
цябе, мой сынку!

А недзе на паўвостраве далёкім
смяртэльны град спадае на галоўкі
і косіць, косіць, нібы град калоссе,
людскія лёсы.
Там ноччу будзяць соннае дзіця,
на сэрцах матак высякаюць мету.
Я заклінаю мудрую планету —
збавіцельку жывога пачуцця —
няхай Марылін лёс яе міне.
Няхай мой сын перажыве мяне.

# III. ТУТ КАЗКІ З НАІЎНАГА СТРАХУ



## СТРЫМГАЛОЎ

Выпрабавання час настане.
Як сейбіту перад сяўбой,
быць засяроджанай, сабой
не падганяй мяне, настаўнік.

Маўчанне пушчаў і азёр
тужэй заціснута ў далоні.
І нервы сцішвае азон.
І перадумана даволі.

Апошні крок, нага, ступі.
Груз нерашучасці — з плячэй.
Усё далейшае — лягчэй.
Рывок у сонечны блакіт!

У шлях — кароткі ці даўгі...
Хутчэй!
Не замінаць другім!



Блізкі лес — зялёны.
Лес далёкі — сіні
прыцягальнай сілы...
Вырастаюць крылы —
хочацца ў далёкі,
быццам бы ён зблізку
не такі ж зялёны...

## КАШУЛЯ

— Хочаш, вымыю кашулю,
адзінокі хлопец?
Станеш франтам і забудзеш
усялякі клопат.

Покуль сохне ды беліцца кашуля,
хлопец горкую гарэліцу каштуе.

— Хіба цяжка кашулю мне выпраць?
— Хіба лёгка дзяўчыну мне выбраць?

— Я і гузік на месца прышыю.
Як пыляжа каўнерык на шыю,
у рукавах саграюцца рукі,
пажвавеюць ў няўдалага рухі.

Пойдзе ён па святочнай нядзелі,
прытуляць да кашулі гэтай дзевак,
закаханым прытворыцца міла.
Я кашулю за так хлопцу мыла...



Нёман — сцяжына спешная,
лёгка падбрыквае пожнямі.
Краю слязіна першая,
шчасця майго — апошняя.

Долі сівой не тоячы,
дуб памірае стоячы.
Вее спакой на бровы
вецер з гулкай дубровы.

Човен хвалі расхіствае,
хлопцаў адчайных гойдае.
Смелых астудзіць пырскамі.
Поўны людскімі нягодамі.

З двух берагоў Нёмана
гэтулькі лёсаў наломана.
Песня з гарчынкай болю.
Ды з адгалоскам бою.

* * *

Нібы стамілася пушча...
Нібы стамлёная птушка...
Толькі апоўнач застогне,
зрок утапіўшы ў прадонне
зеленавокай крыніцы...
Тоіцца гэта ў крывінцы.
З ветрам ляціць па гасцінцы
ў кожнай прывялай пясчынцы...
Золкам нясеш на вудзільне...
Гэта прысніць табе пільне?

## РЭКІ

### 1

З парога роднага дому
рэчкай Гаўяй цяку ў Нёман.
Звітыя з ім у адну вяроўку,
прадоўжым вандроўку.

Што з вадой сплыло,
ці прыпомнім мы!
У якім ні гарэлі полымі!
Хто прыдумаў нашы імёны —
вораг ці сябра верны?
Жывім поплаў зялёны —
чуткія нервы
істоты малой — Беларусі...

Прыцісну да скроні русай
твой бераг мурожны квола —
чуецца голас...

Гэта здзічэлы прадзед
ножык усадзіць
між лапатак суседа
за ахапак душнага сена,
што прыдзяліла Гаўя.

Бераг плыве пад нагамі.
Чалавек распластаўся на выспе.
Мурог суніцамі выспеў.
Векам пазней прысела —
статак пасецца.
Майстра на штукі — хлопча
забыў пра сваю гавяду,
коўзкі бераг нагамі топча,—
Гаўя мяняе хаду.

2

У Гаўі палошчуць крылцы
гусачкі з вёскі Залейкі.
З вуліцы вёскі Залейкі
чуецца голас жалейкі.
Вуліца ў вёсцы — Гаўя —
зыбаецца пад нагамі.

— Падвязі ты на чаўне,
толькі не
акуні.
Карагод каля варот
павялі акуні.
Цёткі-плоткі
не пускаюць з губаў плёткі.
П'юць гарэліцу
лянівыя ліні.

У даліне
пахне сена.
На далоні
задуменнага падбелу
сонца села.
Светлы месячык над вадой
марудна п'е сырадой.
Ад пены малочныя вусы.
Ячмень натапырыў вушы.
— О-о-х! —
Баравік пралупіў мох.
Прыхапіўшы ў руку муражынку,
жанчына гоніць сцяжынку.
Вяртаецца перад ноччу
ў вулей пчала з медазбору.
Грамы́, як каты́, вуркочуць
на вуха бору.

Плешчуцца поўныя рэкі —
дзяцінства арэлі.

### 3

Загарэлай, спрацаванай, босай,
тут мне думаецца найчысцей,
дзе драчы-падлёткі пад пракосы
шыляцца ад крыкуноў-дзяцей.

Дзе, збудзіўшы сонца на дасвецці,
промні ў Нёмане казулі п'юць.
Дзе жанчыны, як малыя дзеці,
адначасна плачуць і пяюць.



Зрабі мне маленькую ласку —
прабай пра мяне казку,
уяві мяне ў казцы чароўнай
Купалавай Бандароўнай.

Мне трэба, каб ты пахваліў.
Трэба, каб ты паквяліў.

Пачаў:
— Не касі вачыма
капрызнай адной жанчыны...
Вось-вось заплакаць збяруся...
— Знаёмай маёй, з Беларусі.
Што бровы, бы крылы ў чайкі,—
старадаўняй адной
крывічанкі...



Хіба мне сніцца?
...Цвітуць суніцы.
І чэша плечы
шурпатай карою
сасна карове.

І кветка мая
чароўна пахне.
Хто сэрца мае,
той шчасця прагне...

Захочаш — ласку
ў прыполе гушкай.
Мядзведзю казку
прабай на вушка.



Закіпела бульба ў чыгуне.
Хай пабулькае крыху і ачахне.
Прывязі па жытнім моры на чаўне
дзве планеты неспакою ў вачах мне.

Будзе віцца песня жаўрука,
абарвецца ў ядронай бульбе.
У адважных і дужых руках
я здзяцінею, нібы бабулька...



Багі маіх сцяжынак босых
даўно не ходзяць па нябёсах.
Жывуць і грэшаць так, як людзі.
А іншых у мяне не будзе.

Люблю смяротных іх — людзей,
хоць спатыкаемся радзей.
І не сляпы ў мяне давер
да іх, як некалі даўней.

Часцей патрэбна ім сама.
Гару душой не за дарма:
людскою шчырасцю багата...
Ёсць лепшая на свеце плата?

Я іх памылкі паўтараю.
Прад іх бяссіллем заміраю.
Расчаравалася?
Ды не!
Сябры заходзяць да мяне.

## ЗНІТАВАНАСЦЬ

Булькне крыніца
на дне ручаіны вузкай,
звонкай ракою зазвоніць мацней.
Кажаш, ты бачыў такія
ў мясціне літоўскай ці рускай?
Толькі не тыя напояць штодзённа мяне.

Лепшых з аптэк,
памацнейшых не ведаю лекаў,
чым водар хваёвы каля ручая.
Няма анідзе зімкі, вясніцы і лета
пяшчотней, чым дорыць штогоду зямелька мая.

Што б учыніла
без полагу зорнага даху —
вынайшла б людзям ці іншыя мне?
Што б заспявала? —
Тут казкі з наіўнага страху...
Песню жаўны,
што жар-птушкай гарыць на сасне.

Змрочных паданняў
аб роднай зямлі не кажыце.
Скарбаў не злічыш, не зважыш дабра...
Ціха свяці перапёлцы,
блакітны агеньчык у жыце!
Кланяйся хвалям,
журботная ўдоўка-вярба!

* * *

— Добрыя людзі,
пусціце пагрэцца...
Цішы няма дзе падзецца.

Стыне на ганку
да ранку.
У сэрцы ні кроплі надзеі
вытрымаць голай і босай.

У хаце — гром і маланка
адно непадзельнае дзеляць —
нябёсы.

Ціша
як трэці лішні...



Чаго ж вы, госці, памоўклі?
Ці ў гарэлцы языкі памоклі?
Ці калом стаў у горле пірог?
Ці такі ўжо высокі парог?



Ускінуўшы рукі, як ветразі,
паплыву па засмяглым абшары
насустрач сварлівай, нявётлівай,
плаксівай марудзіне-хмары.

Пальне як з вядра. Яліна
шурпатай карой абдыме,
зацягне ў дрымоту смалістую.
Хай дождж вакол елкі дыбае!

Буду ў прасторы волкай
вярцець скакалкай-вясёлкай.
Закіну яе на вольху,
пад душам халодным войкну.

Накрыўшыся золкай даллю,
шчасліва ў стагах замру.
Праз сон жураўлю загадаю:
«Хмаркай завесь зару!»



Між намі падзел зямнога?
Аб гэтым няма размовы!
Табе па калені ў моры,
а мне і ў рацэ замнога...



Высокую ноту бяру я,
праўда мною кіруе,
выводзіць да бойкіх дарог.
Слухае толькі дабро.

Са злом шукаю расплаты.
Пакуль набяруся духу,
прыходзяць дзёрзкія думкі,
стройныя, нібы салдаты.



Сакавік захлюпаў на дарозе,
на грудку пад соснамі падсох.
Булькнуў сок крыніцай у бярозе,
захадзіў у скронях дзіўны сок.

Круціцца планета, круціцца планета.
Хмельная ад сонца галава.
Скептык мовіў:
— Дзіўная кабета!
Што згубіла тут, на паплавах?

Грэе ў вуснах кволенькую рунь,
прыручае жаўранка да рук...
Сон-траву сустрэла: «Добры дзень!»
Як жывое, туліць да грудзей...

* * *

Жыць не магу іначай.
Лягчэй, калі я заплачу,
чым як смяюся. Балазе
тады сумленне не грызе
за ўсе пакуты свету.
Даруйце слабасць гэту!

Ці маю права я на смех,
калі не ўвесь смяецца свет?

* * *

Не мары ты мяне зморам,
адпусці сініцу за мора.
Пакуль тут вятры і слота,
птушцы палётаць ахвота.

Хоць адзін разок залячу я
туды, дзе вясна вячуе,
туды, дзе сонца начуе.
Тугу па далях залячу я...

## СТРЫМАНАСЦЬ

Падымацца санліўцы былой —
шчэ промень не бліснуў.
Меней дбаць пра выгоду,
болей думаць пра блізкіх.

Ведаць — не толькі ты
вырасла спраўнай і дужай.
Не з вясёлай бяседай,
застацца з ціхаю дружбай.

Упэўніцца, што не адолець.
Самае вартае выбраць.
Залішне не надрывацца —
час гэтак выйграць.

Раўней і свабодней рухі —
нібы між калдобін гразкіх...
Не плакаць на долю.
Не марыць аб грушках райскіх.



Я свае бяссонныя ночы
з кута ў кут перакрочу.
Без святла, без агню
пераверу, перамеру
мерку жыцця не адну.

Сяброўцы параджу.
Дзіцятка пагладжу.
Перагутару ў думках з раднёю.
Памаўчу са сваёй раўнёю.

Паганю бяссонніцу пасвіць
на жоўтым лубіне.
Спішыцца яна
на руках любага.



Скінуць клопат употай.
Ахінуцца травою.
Акунуцца лістотай
у цішу... Трывогу —
толькі б Нёман не высах,
рыбы-келбы вяліся,
калыхаліся лодкі
і ветразь быў лёткі...

Паплыве нерухома
поўным
рэчышча дня...
Хай спяшаецца Нёман—
глыбіня, глыбіня...

## ЛІВЕНЬ

Над крыламі-мастамі Гродна
спакойнае дыханне грому.
Па кронах з лісця і лілей
з лупцоўкай лінуў дождж смялей.

Давай нырца з-пад хмар, бяжы
вышэй — у схову цемнаты.
Разлучаць зыбкія масты.
Злучае лівень дзве душы.

* * *

І я, нібы маленькі муравей.
Панёс мяне, панёс лісток палётны.
А ў сэрцы — па зялёнай мураве
плывуць, як хмары, белыя палотны.

Любоўна іх закручваць у сувой.
Хістацца кладцы па тугой рацэ
ды завіхацца пранiку ў руцэ.
Ды бегчы рэху па зямлі сівой.

Ускінуць стомлена сувой на плечы,
апёкшы ногі аб мурог высокі,
сцяжыну слаць...
Па той сцяжыне бегчы
з усходу і аж да заходу
сонейку...

* * *

Расту,
расту
у дубоў на вачах
на ціхім дажджы.

І кастры растуць,
нібы на дражджах,
зялёныя...
І расінка трашчыць.

Па чым варона гаруе?
Скідаю на мох страх.
Лячу ў прастору —
вось-вось згару я
на росных кастрах.



Прачнулася толькі шчырасць.
Яшчэ двурушніцтва ў змроку.
Выбегла з хаты жанчына
насустрач аблоку.

Смокча туман ручаіну.
Туман, нібы парасяткі.
Матуля шчаслівая сыну
гатуе яечка ўсмятку.

Сын у прыпол яе туліць
твар, нібы спелы ранет...
Пакуль што ў прыпол да матулі
хаваецца сын ад ракет...

## ІНТЫМНАСЦЬ

На цёмнай елцы воблачка павісла.
Пад белы поўдзень разраслася вішня.

Пакуль намотвае прамень на завязь
прырода,
а ў душы не спее зайздрасць,—
хай будзе і заўсёды, як было
у нашым свеце,— ні драбніцы лішняй:
мелодыі святло, дакладнасць ліній,
а пад акном зялёнае крыло...

Нічога не прыдбана ў нашай хаце —
ні куфра поўнага, ні перамог яскравых.
Ды мы валодаем такім багаццем.
якога нельга ні купіць, ні справіць:
нікчэмнасць шчыры наш куток не ганьбіць,
і прагавітасць вогнішча не тушыць.
І не баімся мы заўчаснай сцюжы.
Не хісткая сцяжына пад нагамі.



Выпалю з градак пырнік.
З ранку і да цямна
гэтулькі працы пільнай
спорыцца — я не адна.

І служка ў мяне рагатая
і мой памагаты певень
ноччу пабудзіць спевам.
Рупнай працай багата я.

Турботы пушчаў, бароў.
Спешка бяссонных вятроў.
Адпасвіць пчолак на грэчцы
і выкупаць сонейка ў рэчцы.

Сялянскую ведаю ўцеху —
паехаць наўскач на рэху,
на стог закінуўшы граблі.
І каб навальніцы гралі.



Падарыць табе рэчку з жоўтым дном,
з мурожным берагам, блакітным дахам,
з лазовым кустам, з пявучым птахам
ліпнёвым сонечным духмяным днём?

Навокал рэчкі пчаліны звон.
На даляглядзе пяшчотны лён.
З другога краю — натоўпы дрэў.
Пацешыў вока і падабрэў...

Табе прыношу турботу толькі.
Табе дарую адны згрызоты.
А з абяцанак ці многа толку?
Яны мана для душы...
— Ды што ты!



Стаміўся перад захадам
дзянёк.
На плот прыпёрся,
як сівы дзядок.

Прыжмурыў вочы
перад ноччу яркай,
зацягваецца
крэпкаю цыгаркай.

## РАДЗІМЕ

Не проста даваць клятву
Радзіме на вернасць да смерці.
Ступіць на спрадвечную кладку,
глынуць чабаровага смеху.

Чым з ветрам весці гаворку
пра невычэрпнасць мовы,
вазьму яе спелую гронку
і буду шаптаць замовы.

Продкаў маіх сумленне —
то працы натхнёнай мэта.
Хай маюць усе пакаленні
роду Радзімы прыкметы.

Няхай жа сейбіты гуртам
сеюць падзольныя гоні.
Хай песні на ўсю магутнасць,
з душою адкрытай — госці.

Слабінку адну маеш —
шчырасць да людства працы.
Умееш касіць і прасці,
наіўна маўчаць і марыць.

Мне цёпла, прытульна, лёгка.
Ніщто так не грэе погляд,
як світка з твайго лёну,
зялёны акраец поля.

Хай сіла ў чатыры столкі
маё скруціць карэнне —
перад Радзімай толькі
апушчуся на калені.

## БУЛАНЫ

Дрэмле драўляны скакун ля блакітнага ложка
хлопца, што ў марах па соннаму свету вандруе
з аўтаматам, які ён здабыў пад стракатаю елкай.
Добра яму ездзіць па росных сцяжынах,
рэзкай чаргой з аўтамата жабак палохаць,
адпачываць ад паходаў пад пільнай аховай,
спаць і расці з нецярпеннем, пакуль не паклічуць
на службу салдата... Збор на вайсковым двары.

* * *

Па мураве нячутна скачуць конікі,
апрануты аднолькава, як школьнікі.
Нібы пружынкі, пстрыкаюць пад неба.
Аленцы аж карціць ім крыкнуць «но»!
— Бабуля Тэкля, раскажы што-небудзь

пра малюпатых спрытных скакуноў.
— Звядзі павекі, можа, ўбачыш ты,
як шые прадзед Юрка хамуты.
Зацяжна пыхкае пад нос цыгаркаю,
мармыча песню сумную, цыганскую.
А цыганы яго нібы пачулі,
свае раскошныя бароды чухаюць:
— Ці многа, пане, з хамутоў заробку?
Ты выйдзі з хаты глянуць на жаробку!

А хто мяняе, ў таго хамут гуляе...
Але мяняльшчыку бяда малая.
І дзеду Юрку каб толькі гандаль.
Ну, выменяў нарэшце —
глянуць ганьба!
Хрыбет, што нож.
Не сесці без сядла.
Бы на канцэрт, сышлося паўсяла.
«Каб гэта працягнула колькі вёрст,
ёй трэба крапівы напхаць пад хвост».

Адпасвіцца кабылка, скура гладка.
І пчасцейка малое — жарабятка.
Расло, нагамі брыкала, буяніла —
надзея наша з лысінкай, буланае...
Твая матуля расла паслушкай.
Была нявопытнай зусім пастушкай.
Адпыніць коней за ўсіх са збожжа,
ад стомы ног перастаўляць не можа.
Прывесці коніка дадому — мукі.
Якраз напалі авадні ды мухі.
Падвёўшы спрытна пад бераг рэчкі,
на спіну ўсцерабілася жарэбчыку,
як п'яўка, учапілася за грыву —
у хмары конь рвануўся з-пад абрыву.

Я на падворак выскачыла — божа!
няшчасце ад дзяўчыны адхіні!
Адчайны да дурноты толькі можа
скакаць на неаб'езджаным кані.
Яздок і конь аднолькавага росту.
Трымалася, пакуль ён мчаўся проста.
Як матане ў адзін, у другі бок!
Як гопне ў пожню коннік, бы клубок.
На лес памчаўся, зваліўшы ношку.
Дзяўчына збіла бок, звіхнула ножку.
Два дні ляжала пластом у ложку.

Хіба ж улетку надоўга зляжаш?
На трэці дзень паклыпала на пашу.
— І нічагуткі са мной не сталася.
Паправілася — зноў на ім каталася.

Аб'ездзіла каня ў маленстве маці.
Такі быў ладны буланай масці.
У грывах косы, раўчак на спінцы.
Імчыць, што вецер, і раптам спыніцца,
як укапаны, з вялікай рызыкі!
І толькі ходзяць па скуры дрыжыкі.

Хай на кірмаш у нядзелю едзем —
устанем позна, усіх суседзяў
на паўдарозе пакінем недзе.
Не трэба пугі, навошта лейцы...
Трушком як з грузам. Наўскач улегцы.
З ім і за плугам нястомна йшлося.
Прамчаўся лёгка па нашым лёсе.

Вайной каня забралі партызаны.
Дамоў дарогу не забыў Буланы.
Задрэмле коннік у сядле не раз,
прачнецца неспадзеўкі каля нас.

Да роднай хаты цягнула коніка.
Абодвух і сагрэем і накормім
і за вароты выведзем прад свет.
За імі вецер замятае след.

Бязлітасная да жыцця вайна.
Усюды гойсае здзічэлая гайня.
У роднай хаты-пушчы на парозе
наш партызан на немцаў напароўся.
Свінцом гасцей няпрошаных прыняў
і сам паспадзяваўся на каня.
Яму даверыў непрытомны долю.
Буланы хлопца прывёз дадому.
Абодва ў ранах — і конь і хлопец.
Мая дзяўчына хусціну схопіць,
драўляны тупель набасанож.
Наўпрост праз Нёман у пушчу, ў ноч...

Павезлі хлопца на падводзе рана.
Буланы дома сканаў ад ранаў.

Калі забойцы гналі свет да скону,
краіну нашу на кавалкі рвалі,
трывогу білі капытамі коні,
і коннікі дзяцінства ратавалі.
Крывёй плацілі коннікі пароўну
за хлопчыкаў на скакунах драўляных
і за маленькіх конікаў зялёных,
што пстрыкаюць на сонечных палянах.

## МАЛОЧНАЯ РАКА

Трэба ведаць і нам, дапраўды,
як пры месяцы кужаль пралі,
як жыццё каля печы тупалі
ў самаробным драўляным тупелі.

Сягоння Тэкля адвяла кароўку.
Павесіла на вушаку вяроўку.
Балюча сэрца сціснула віна:
у памяці ўдавы ўсплыла вайна.

Ці выжылі б, каб не было каровы,
на праснаках, замешаных карою?
Кусты, аер касіла па начах,
насіла, крадучыся, на плячах.

Як гаспадар пераступіў парог,
тады кароўка ўспомніла мурог.
Прыйшоў ён хворы, ранены з вайны...
Ізноў сіроты з маткаю адны.

Мужчыны шкадавалі.
Рана хлопец
набраўся сілы, ўзяў аб корме клопат.
У хаце — холад або цяпло —
не гасла масла, малако цякло.

Сырок у палатнянежькай адзежцы
сціскаўся часта ў клінку на дэнцы.
А завітаюць госцікі здалёк,
у бокі рукі
ды на стол збанок.

Жанчына будзіць птушак на дасвецці.
Звініць струмень тугі аб дно дайніцы.

П'юць сырадой з шумочкам ранкам дзеці
і кошка лашчыцца каля спадніцы.

Тугі, салодкі, пенны вадаспад
з-пад пальцаў дужых пайшоў на спад.

На досвітку звініць ёй у вушах.
Здалося, што звініць пусты бляшак.
Як звыкла, падхапілася таропка.
І кропка...

Выходзілі каровы і рыкалі.
Сівы туман лізалі языкамі.
Навокал Тэклі хмурыя пасталі.
Панура мутным зрэнкам праз драму
глядзелі на яе, нібы пыталі:
— Чаму Рагулі няма? Ча-му-у-у?

Зайшлі суседкі суцяшаць нібыта.
— Ды вунь ідзе, бы п'яная, праз жыта.
Збыла карову малочным ліпнем.
Цяпер згрызота да сэрца ліпне.

А Тэкля, знерваваная, знямоглая,
з гаспадаром параіцца на могілках.
Слязу змахнула. Сэрца б'ецца гулка.
Перад вачамі стаіць Рагулька.
Світанне сонна на зямлю цярушыцца.
Дзяўчына па расе пасе цялушачку.
Мяжа радочкамі двума скрамсаная.
— Мая рагатая, мая пасажная...

Харошы звычай быў у нашых матак:
пасаг дзяўчатам гадаваць — цялятак.
Чужая хата не такая мулкая,
калі ў хляве свая кароўка мукае.

Свякроўка стогне, вохкае на печы.
Свярбіць ёй язычок і ныюць плечы.
На печ смятаны шклянку падасі:
— Мо памаўчыш, як смачна паясі.
Туды-сюды па кроплі — знік надой.
Сама скарынку запіла вадой.

У вёсцы трэба так пражыць злаўчыцца:
ад хаты ні на дзень не адлучыцца.
Як адхінуцца выпадзе далёка,
хто іншы выдаіць — не поўная даёнка.
Цёк сырадой, як цёплае цячэнне.
Не запускалася Рагуля да цялення.
Мароз няўзнак забарабаніць клямкаю
пад Новы год,
прыводзіла на сцюжу
цыбатае, лабатае, нядужае
цялятка рыжанькае з белай плямкаю.

Яно па хаце ножкамі мялёдзіла.
Пяклося незвычайнае малодзіва.
Натуры скваппныя суседак раніла:
— Такое тлустае! Такое ранняе!
А Тэкля рада ўсіх пачаставаць:
— Малым нясіце пакаштаваць.

Хоць злом бывае плоцяць за дабро,
ды Тэкліна галоўка зла не помніць.
Бяжыць да студні з пустым вядром,
нямогленькай цабэрачак напоўніць.

З вяршком сунічак гладыш нясе,
па жмені ўсім сустрэчным натрасе.
Няўдалым, хворым дакапае бульбу,
свае барозны схавала ў гурбу.

Пасецца статак на духмяным лузе.
Скубуць кароўкі мурог з расой.
Яны вады крынічнай напіліся.
У поўдзень пацягнула ўсіх на сон.

Пастух прыўзняўся з зёлкавага пуху
і пругка стрэльнуў у паветры пугай.
Каровы ўзнімуць рогі, бы кароны,
і панясуць, паважныя, ў кароўнік.
Падключыць «елку» дужая рука,—
запеніцца малочная рака...
Матулі зашчабечуць да дзяцей:
— Пі малачко, пап'еш — і падрасцеш.

## ПЕВЕНЬ

Узляцеў на паветку,
крыламі залопаў.
— Ку-ка-рэ-ку чалавеку!
Нарадзіўся хлопец.

— Мацуйся, малец,
на лёс круты.
Дзе ж нашы куры?
Пайшлі ў кусты.
Там ліс вялізны, зубасты, рыжы
паловіць іх і костачкі паліжа.
Так многа ўпаляваў ужо з-пад плоту,
што гадаваць іх адбіў ахвоту.

Хіба Антона выслаць на злачынцу?
З пражорным лісам зможаш разлічыцца?
Пакуль наш ваявода стане дужым,

каптан чырвоны вывесім на грушы —
так навучылі некалі мяне.
Пражора нашых курак праміне.

Глядзі ж, каб певень не дзюбнуў вока —
адрос ад пеўня хлопчык недалёка.
Хай певень вучыць сваю сямейку,
заступіцца за курачку-няўмеку.

Паважна певень пазвоніць шпорамі,
а хвост гарыць каляровымі пёрамі.
Чырвоны грабянец яго высокі.
Навокал шыі вянок з вясёлкі.
Калі ж на плот ваяўніча залезе,
закукарэкае — віхор па лесе.
І пеўні адгукаюцца навокал,
дзядуля-бор абвее бараду.
— Ці адгукнецца наша курка-кока?
— А куры запяваюць на бяду.

Крычалі куры на вайну бясконца,
на плот пастаўшы на захад сонца.
Скруцілі бедным шыю не адну,
усё ж яны наклікалі вайну.

Тады і на курэй напала немач.
Як прыйдзе ў хату ненажэрны немец,
нягеглы з выгляду, нібы калека,
як загалосіць:
— Матка! Яйка, млека!
— Бяры, каб удавіўся ты,— кажу...
Лавіў няшчасных курак, што каршун.

Чаму бабуля кажа ўсё пра страх?
Чаго палохацца? Ты — смелы птах.

...Кругленькая бочка —
ані дна, ні вечка,
ні акна, ні вочка.
Што гэта?
— Яечка.
Бабулін голас такі напеўны.
Унучак скача верхі на пеўні...
У сне.



# IV. ПЕРАКОНВАЕ СЭРЦА Ў ЦУДОЎНАСЦІ СВЕТУ

## НАСТРОЙ

Ступіла ў чэрвені на звонкі мост,
забыўшы пра свае зямныя справы.
Перабягала з левага на правы.
На драўляным коніку
мяне мой ветрык нёс.

Усё было бадзёра,
свежа, проста:
сады і стрэхі,
вежы, Нёман, прыстань.

Над верхавінамі мігцела кола.
Дзяўчаты, хлопчыкі каталіся вясёла.

Гайдаўся мост у такт
бяздумным гулям.
І мой настрой лунаў
над лёгкім гулам.

Работа клікала дамоў не з ласкаю.
Я ведала, што мільгане,
як ластаўка,
якую вольты з правада сагналі,
настрой святочны
і знікне недзе.
Але спускаўся на веласіпедзе
да рэчкі сын
і промнямі сігналіў.

## ЖАНОЧАЕ

Хіба я не сучасная жанчына?
А вось маёй адсталасці прычына —
прыёмны мой пакой,
мая дзяржава — кухня,
дзе пры цяпельцы ў дзежцы цеста пухне.

Я дзейнасць пачынаю на світанні.
Дарэчы, філасофскія пытанні,
ці траціць нервы на дзяцей і мужа,
не ўзнікнуць, покуль накарміць іх мушу.

Сяброўкамі лічу сястру і маму.
Сяброўкі па вучобе выйшлі замуж,
прапалі хто куды, звілі ўжо дзесьці
свае гняздзечкі —
каханы, кухня, дзеці...

Рашучыя паходы ў магазіны.
Краёчкам вуха я лаўлю навіны —
падзеі свету суадносна лёсу
маіх уладароў звонкагалосых.

Хваробы злыя шчэрацца па свеце.
З бяссілля сэрца абальецца сумам,
што плён палёў,
і рук маіх, і думак
не ўвесь на тое, каб не хварэлі дзеці.

На свет з'явілася карміць і песціць.
Напружаны заўсёды зрок і слых.
У самы радасны, у самы горкі міг
узніме голас:
— Мама, дай паесці!

## КРЫЛЫ ЧАКАННЯ

З'яўляецца твой вобраз, як стыхія.
Якое шчасце — іншыя глухія,
не чуюць, як грымяць ва мне разрады
твайго маўчання,
тваёй любві і здрады.

Не чуюць, як звініць ва мне ціхутка
усмешка, голас, напамінак, чутка,
як вее ветрык у глушы пяшчоты
ад вольных рухаў тваёй істоты.

Ты выступаеш незалежна ў часе.
Ты сам сабой.
Але якое шчасце,

што ў горадзе, на даляглядзе, побач
працуеш, думаеш, не спіш за поўнач.

Твой рытм ва мне куе,
сціскае скроні.
Якія цёплыя ў надзеі промні!
Якія лёгкія ў чакання крылы!
Ды злева, у грудзях, узлёту згуба:
малая птушка дзяўбе балюча дзюбай.
Пяе тугу без голасу, без крыку.



Я мрою, быццам я лячу на торп.
Ты да мяне кідаеш сноп на сноп.
І вось
спачынак па таку адзвоніць воз,
зашклёны ветрам дах... і цішыня...
Хто гэта ў нас адняў?

Мы бабак не паставілі з табою.
На волю лёсу
кінулі калёсы,
здалі тарпы без бою,
паехалі мы ў горад шматгалосы.
Духмяныя тарпы растуць пад неба.
Не ты і не мяне,
другую — нехта
на зыбкай вышыні рукамі хоп!
А мышка шмыг з-пад рук у важкі сноп.

## ПТУШКІ
## НАД СТАРАЖЫТНАЙ КАЛОЖАЙ

Птушкі крычалі штовечар,
як бы вынайшлі «кра» ўпершыню,
тройчы рабілі кругі,
кранаючы кроны Каложы,
енкам прасілі аб нечым,
выпівалі да дна цішыню
і не садзіліся вечар, другі...
Чаму нас іх крык не трывожыў?

## ШЭРЫЯ СОНЦЫ

*В. Я. Жуку, хірургу*

На струнах нерваў другія гралі.
Тваё прызванне слязіну сцерці.
Штодзённа ходзіш па вострай грані,
па зыбкай грані жыцця і смерці.

Стаіш над прорвай на ломкай кладцы,
дзе птушаняці прыткнуць нагу.
Умацаванне — тонкі кетгут.
Змагаюцца пільныя пальцы.

Хоць боль і плач, смага і голад
і ныюць раны на змораным целе,
а зловіць слых твой ранішні голас —
і вусны зросіць кропля надзеі.

У белым пекле, засмяглым, сонным,
адкуль на свет без пакуты нельга,
узыдуць вочы, два шэрыя сонцы,
цяплейшыя, чым тое, што ў небе.

## ВОЧЫ

*Л. І. Хоравай*

Бачу ў жанчынах саперніц,
не толькі сябровак.
Вы, Любоў Ільінічна, выключэнне.
Вылечылі дзіцяці яснасць,
вачэй свячэнне,
дзве валошкі блакіту
з-пад жытнёвых насупленых бровак.
З чым параўнаць па спрыту
Вашы чулыя дзве рукі?
Крылы, здатныя выбавіць
святло з чорнага віру.
За бескарысце аддзякуюць
толькі даверам шчырым
два светлякі,
два возеры,
два мацерыкі...

## МОВА ПЕЙЗАЖА

*М. Плужніку*

То ж мы прывыклі прыбядняцца толькі,
што рамкі абмяжоўваюць палёт.
Спасцігглі да расіначкі вытокі
паводкай стрэснай злучаных балот.

Бярозы брод цераз раку павезлі
абы-куды ў прастор вялікі, светлы
і назаўжды ні з месца,

толькі ветрам
рашчэшуць косы...
Лясункі ў лесе.

Па суравой планеце пойдуць хмаркі,
і Нёман пацячэ,
і поўдзень яркі
аж стоміцца...
І дрэмле ноч, як сажа.
О, зрокавая музыка пейзажа.

## ГРЫША ГАРНАВЫХ

Абрысаваны на шэрым граніце
профіль палітрука.
На скрыжаванні Нёмана
і вуліцы яго імя
крок ступіў за мост —
яго назаўжды рака.
Галоўны крок.
Апошні левы бок.
Чырвоную траву прымяў.

Прыходжу да цябе, Грыша Гарнавых.
Прыходжу ад некаменных, жывых.
Ціха ўздымаюся на сумныя сходкі.
У гэтым годзе мы з табою аднагодкі.

Бачу зноў у пыле
пясчаны гасцінец,
вы ехалі доўга.
Машын не ўмела лічыць.

Вы мне прывезлі бясплатную школу —
жаданы гасцінец.
Лекара — басаногасць, баязлівасць лячыць.

Калацілася ад несвядомасці,
мокрая была шчака.
Мама з другога боку крычала:
— Пад колы не лезь, пачакай!

На тваім скрыжаванні
грукат машын да дня.
Навошта салдату з граніту
каменная цішыня?
Цешыць каменнае вока
людская мірная праца.
На тваім скрыжаванні, Грыша Гарнавых,
твая праўда,
якую нёс па гасцінцах адчужанасці
на еднасці мост
да рашучага кроку,
да апошняга бою.
Разгарачыўся, падняўся на поўны рост —
закрыў ад кулі сяброўства працоўных сабою.

Грыша Гарнавых,
хто мае права зайздросціць табе?
У трыццаць шэсць
тратуары і травы таптаць ахвота.
Але ўзяты з боем адказны рубеж.
Да прыходу галоўных сіл
не падвяла цябе рота.

## ВОЛЬГА КОРБУТ

Гнуткая
ўзнікне ў прасторы
у дасканалым паўколе,
здзіўлены свет паўторыць,
як сальта, імя —
Оля!

Лёд на планеце крохкі.
Усмешкі крывой ніводнай.
Так зробіць да славы крокі
дзяўчынка ўпартая з Гродна.

## МОСТ

Жаданне ў мяне неадольнае проста —
прайсціся з мужчынам ад замка да моста.
Пагутарыць шчыра пра ўсё. Пра мяне.
Хоць раз не між намі рака прамільгне.

Нарэшце сустрэча.
Ці з гэткім настроем?
На беразе Нёмана
нас было трое.
Хто лішні?
На хвалях тайком варажы!
Ён з сябрам спрачаецца пра віражы.

Ён, хітры, дык байку пляце незнарок,
бы мне, летуценніцы, выдаць урок:
мінулі каленек абветраных дні —

спакусныя думкі далёка гані.
Пра сталае думай, паводзь сябе строга.

Вяртайся самотна
да моста старога...



Наабяцае ў добрым гуморы
скарбаў зямных, не змясціць у каморы.
Золатам-срэбрам стан падпяража.
Скажа,
што масла хлебам намажа.

Вось і цябе правялі на мякіне.
Вось і папалася ты ў пераплёт.
Цешся ўпотай: можа, пакіне
ён у спакоі... Наадварот.

І за лучынку
знойдзе прычынку.
Ягоная вычынка
таней за аўчынку...
Лепей было сем разоў замарыцца,
чым з непамысным раз пасварыцца.

Але рашылася — раз назаўжды:
і на дзвярах і на вуснах — завала.

Лезе праз фортачку, просіць вады,
хоча спытацца, чаго зазлавала.

## САЛОМІНКА

Нарэшце ты — неперАможна горды!
Прызналі стадыёны і курорты,
жанчыны, камеры, аэрапорты.
...Сяброўка шчырая не з іх кагорты.

Як скулішся ў прадонне на скаку,
як засмяюцца ў спіну ездаку,
тады я працягну табе руку,—
трымайся за яе,
як за саломінку.

## ХІТРАЯ ГАВОРКА

— Абутак мой ледзве ліпіць.
А ты мяне не будзеш лупіць
чаравікам па галаве?
— Што ты выдумаў, чалавек?
— А талеркаю не расколеш
мой бедненькі чарапок?
Хацеў памыць талерку —
астаўся ў руках чарапок.
А мячыкам па макаўцы?
Мячыкам не балюча. Ён мякенькі.
Пракалоў яго з перапуду.
— Ні талеркай, ні мячыкам, ні чаравікам
не буду.
— А домам? А горадам?
А планетай Зямлёй?
Не бойся, я не пашкодзіў планету.
Зрабіў падкопчык пад прызбай у дзеда.
Дзед, вугал падпёршы, прамовіў:
— Аёй...

## СНЕГ

Закалыхалася —
гуленькі-гушкі...
Сеюць муку нябачныя мельнікі.
Лётаюць, лётаюць
лёгкія гускі,
белалобыя і гуменнікі.

Хай ім не зведаць
у выраі гора!
Званіце ім, ветры,
у кляновыя гуслечкі!
Гыля-гыля, родныя гусачкі!
Ваша пер'е ападае на горад.

## НА ДОСВІТКУ

На досвітку ад холаду дрыжыць,
бы кацянятка,
горад мой любы.

Як самаўпэўнена басуюць трубы!
Разводзяць рукі
мінуўшчыны крыжы.

На старажытным камяні прысядзь,
неўтаймаваны спадарожнік,
роздум,
утульна захініся лугам росным,
як даматканай світкай Кастуся.

## ПАРТРЭТ

Нараджаюцца хлопцы.
Падрастаюць —
і ў войска.
Сірацеюць іх скверы.
Пані Казлоўска —
каларыт гэтых сквераў,
наіўны і мудры,
у такім элегантным,
хоць паношаным, футры,
у сукенцы мінулага
пышнага веку
забягала студэнткай у бібліятэку...

Як жа наша сучаснасць
да яе пасавала,
да жывога цянёчка
вялікага свету!

Горад кланяўся ёй,
горад так яе ведаў.
І спяшалася зранку
галоўка сівая.

Прывыкаем да твараў,
не толькі да родных.
Прывыкаем да постацяў
і да рэліквій...
Хлопцы з войска прыходзяць.
Міс горада Гродна
пераехала ў іншы,
у самы вялікі.



Салодкае кароткае жыццё.
Усмешнае, калі красой цвіцём.
Бязлітаснае, як апалі кветкі.

Старэнькія кабеткі,
ах, какеткі,
каля сівога сябра-аднагодка
спыніліся на казачных усходках.
Усходкі казытаў абцас Баторыя...
Ад замка ў вір ступаем па якіх,
манерна абапёршыся на кій...
Іх затрымала смешная гісторыя.

Смяецца мудры вачэй прыжмур.
Не знае жартаў спрадвечны мур.

## ПАЯСОК

Перасыпаю сонечны пясок,
вучуся простай шчырасці ў Купалы.
На кросенцах, дзе гукі не ступалі,
сную, не дыхаючы, паясок.

## РАДАСЦЬ

Ад зялёнай травы адарвалася,
падхоплена крыламі радасці.

Не штурхнулася так, як трэба,
каб на дол не сцягнула хаціна.
Не падскочыла аж пад неба,
як Церашкова Валянціна.

Чую: бацька клепле касу
нерытмічна... Куды яго ўменне
прапала? Гадочкам пазычыў
па пракосу, па жмені.

Бачу: маці бяжыць па двары,
шчэ не страціла лёгкасць.
У дзяцінстве ад іх дваіх
навучылася лётаць.

Над раллёй у канцы выраю
падкінулі бацькавы рукі,
на якіх і памочнікі выраслі —
дзедавы ўнукі.

Каля роднай вёскі мне міла.
Не ўгледзяць далёка мой след.
Не дазнаецца тлумны свет
таямніцы маіх крылаў.

# КРОСНЫ

У раніцы, у леце, у прыродзе
сядзела на бярозавай калодзе.
Вакол ад кветак, ад росаў бела.
Шчэ толькі сэрца істоту грэла.

Не варушыліся, драмалі цені
і людзі дасыпалі. Толькі пеўні
выводзілі свае чатыры ноты.
Нічога не азмрочвала пагоды
маёй натуры... Праўда, нейкі птах
гартанна прадвяшчаў абстрактны страх.
Прарэзаў неба, растварыўся ў соснах.
Снавала промні на тумановых кроснах
спрадвечная зямная ткалля —
сонца,
матаючы вясёлкавы сувой
на круглы шар зямны, як на навой,
маўкліва, засяроджана, бясконца.

Разгладжваю сівы сувой далонькай:
не скамячыць бы ў вечнасці далёкай,
каб ён нашчадкам не быў каляны.
Пакуль у вочы сонцу можна глянуць —
пакласці на аснову свой уток —
сцяжыну палявую, слоў вiток...

## ВЯСКОВАЕ

Адчынім дзверы да вясковай справы...
Раса шчыміць у пальцах —
кожны жвавы.
Усе —
ад дзіцяняткі і да дзеда —
у полі.
Тут людзей зрадніла лета.

Які спрадвечны цуд!
Вясковы люд —
навідавоку кожны крок і рух.
Вядома ўсім — з кім сварышся,
хто друг.
Заблытаўся —
разблытаюць твой жмут.

## ПЕРШЫНСТВО

Сінічка я,
але зракуся мерак
заніжаных,
мае высока стропы.

Ды жораў паляцеў
на дзікі бераг
раней мяне,
і ён не збіўся з тропу.

Закрэслю ўзлёт.
Пачну сябе нанова.
Страх адганю
і смех, даверны, свойскі.

Я адчыніла дзверы
ў хату слова —
на покуці
дзяцюк з той самай вёскі.

## ФАЛЬКЛОР

Дзе на месцы палацяў
будуюцца ў спешцы палацы,
дзе месца сенсацый
на кожнай зялёнай палянцы,
заіскрылася песня
расінкай на елчынай лапцы —
скрыпяць мае лапці...

У людзей працавітых
усмешкай адгавеліся вусны.
Хай палашчаць вясковую ластаўку
шчырыя вусы —
то скупую слязінку,
то з яснага неба гром...
Як сучасна быць гусляром!

Не прыдумаць цяплейшага краю
за родную песню.
З ёй маўчу і смяюся,
за яе памру і ўваскрэсну.

У мінулым,
у будучай славе
ў народаў у ласцы —
скрыпяць мае лапці...

## НАПАВЕР

Навуку бацькі вывучыла цвёрда:
— У свет ідзі, ды самастойна, горда
ступай. Запомні запаветы роду:
не пазычай у тыдні недароду.

Не пазычай у халады і спёку,
свае магчымасці трымай на воку.
Памылкі прывядуць цябе ў адчай —
чужога выйсця не пазычай.

...Я ўсё раблю, як ты гаворыш, тата.
Але перад табою вінавата.
Твая ў натуры воля, непакора.
Цябе ж калісьці навучыла гора.

Не пазычаю, праўда, я ў людзей
ні вопраткі, ні думак, ні надзей.
Не адчуваю і ў душы нястачы.

Усё, чаго шукаю, што цярплю,
дало мне чалавецтва без аддачы.

З людскіх баразнаў
тку сваю раллю.

* * *

Намоў сябе
да слабых быць лагоднай.
А тое,
што зрабіць неверагодна,

пачні хутчэй,
выконвай да канца
з упартасцю апошняга байца.

Намоў,
што вечна быць
на гэтым свеце.
Не бойся, не дрыжы
да самай смерці.

## НАВАЛА

Радні маёй сумная сходка.
Захварэла родная цётка.
Няма ніякага сродку,
каб вылечыць родную цётку?

Аплакваем горкія весці.
Гадаем: везці — не везці
ў бальніцу? Лішка ці цотка?
Памрэ ці паправіцца цётка?

Пачалі наракаць на лёс.
Да чаго яе лёс давёў!
Не жыла, гаравала ўдавой.
Не стагнала прад светам — і вось.

Сябе здаровай лічыла.
Дзяцей гадавала, лячыла.
У калгас ірвалася ходка.
Была працаўніцай цётка.

— Сядзець, сашчапіўшы пальцы,
падвёўшы апошнюю рыску?
Са смерцю трэба змагацца,
трэба пайсці на рызыку.

Болю цётачка не баіцца.
Дык ёсць абласная бальніца.
Трэба хутчэй яе ратаваць,
а не ў труну рыхтаваць.

Натоўп пашумеў і замоўк.
Дзвярам у зубы — замок.
Умомант прымчала таксі:
— Спяшайся, дачушка, вязі.

Уладкоўвайся, цётка, на ложку.
Пачынай маўклівую лёжку.

Прыхінула з пакорай галоўку,
а ў думках доіць кароўку.
Рукі без рухаў нямеюць,
як светла, ляжаць не ўмеюць.

— Ды я і не хворая, зрэшты!
Пакупалася ўпоўдзень у рэчцы.
Пастаяла ля стомленых вербаў.
Шкодны ветрык мяне і падвеяў...

Мая літасцівая цётка —
высокай напругі частотка.

Як ёй веру ўсяліць у лячэнне,
у папраўку, у палягчэнне?
Агурочкі прыносім з грады.
Дзе дастаць ёй жывое вады?

Пры сустрэчах з адчаем гаворыць
пра мучэнні суседак хворых.
Як у садзе, бальнічным раі,
няшчасныя зелле збіралі.
— Дапаможа нам,— кажуць,— лепей,
чым тое, што выдумаў лекар.

Як усхліпвалі ў шуме крон.
Тут жа ўсім уліваюць кроў.
Што чужая кроў, то не родная.
Не сагрэе чужая, халодная.

Пярэчыць пачнём дрыготка,
ды не чуе пярэчання цётка.

Як умелі мы ў ладкі пляскаць,
ад жыцця весялосць беручы!
А бяды расчынілася пастка,
раўнавагу як зберагчы?



Дзе ткуць павукі
дываночкі на пожні,
на золкай зямлі,
дзе, як сосны, згарым,
хай будзе апошняе слова
апошнім.
Хай будзе апошняе слова тваім.

У лесе, дзе ўлетку
ад ягадаў цесна,
над борам, куды мы

адправімся ў вырай,
хай вырвецца шчыраю
першая песня.

Хай новая песня
без нас будзе шчырай.

## НЕПАЗБЕЖНАСЦЬ

Паслухай,
як маўчаць снапы,
як на былінцы вецер грае,
які на словы луг скупы,—
маўкліва зёлка памірае.

Спакойна прамільгне стагоддзе.
Сусвет абновіцца спакойна.
Чаму бязвольна і пакорна?
Усё памерана ў прыродзе.

Аблокі — сыну.
Бацьку — яма.
Прыроду не расчуліць лямант.

## МАЛЕНСТВА

Нарвём у бульбе бярэмя лебяды,
каб за гультайства нас не дакаралі
матулі,
і бяжым па жалуды
пад дуб, і ніжам жалуды ў каралі.

Паказыталі шыю паўгадзіны.
Памроілі аб нечым на сучку.
І парсючку рабому дагадзілі.
І цешымся, што смачна парсючку.

* * *

Як пачынаецца?
З таго, што прачынаецца,
акенца ў свет даверу прачыняецца,
і вецер веку, як людскі прыліў,
натхненнем чалавека акрыліў.

Імчыся з распасцёртымі рукамі,
пакуль не выскачыць
на сцежку камень.

## АДКАЗНАСЦЬ

Зусім не проста перад людзьмі
праўду вяшчаць.
Адказна ставіць не псеўданім,
а прозвішча.

Людзі будуюць,
косяць, і жнуць,
і скародзяць поле.
Ім усё роўна, што ты там баіш
...на першы погляд.

Але, між іншым,
пазбыўшыся спраў,
што баяцца адкладу,
паразважаюць:
кажаш ты праўду,
а можа, няпраўду.

Ці ты, як газеткі пішуць, народны
і суслу ссаў у лазовай калысцы?
Ці, як пляткараць,
прышлы бязродны?
Ці многа з баек тваіх карысці?

Прыкінуць: прагноз
прыбытак прынёс
або ломаны грош?
Паспее вылушчанае табою зерне
ў калоссе адкрыццяў вырасці?
Людзі заняты...
Працуюць лепш або горш —
залежыць і ад тваёй справядлівасці.

## ЧАС

Не існуе спрадвечнай істоты.
Пні, кусты праганяе прагрэс
з ручаін, ад крынічак пяшчоты,
ад гаёчкаў, далочкаў у лес.

Пацішэў бору гоман.
І плытчэе задумлівы Нёман.
Не хлябчы яго, летняе сонца!
Не муціце, жураўкі, да донца.

Думкі, погляды зменлівы прыкра.
Іншы вобраз вазьму сабе ў прыклад.
Ноччу думаць — бяссільна і кава.
А ў юнацтве было як цікава!

Нават сны свой колер мяняюць.
Як жа хутка дні, тыдні мінаюць.
Нібы ў казцы, усё гэтак сталася:
ад маленства тры ўзлёты да сталасці.

Між дзвюх дат працяжнік і кропка.
Накрэслены графік няхітра.
Лёс сплануе таропка.
Час напіша і вытра.

Больш ніякіх цудаў не будзе.
Ад зямлі не чакаю, ад неба.
Разважаю ўпарта аб бунце,
а раблю заўжды так, як трэба.

Ідэал мой нязменны ў жыцці!
Твой агонь і цяпер мяне паліць.
Нешта ты нязвыкла прыціх.
Непрыемна, калі цябе хваляць?

Як мяняюцца вершы!
Першародны іх сэнс. А раней
перачытваеш ноччу і верыш:
незнаёмы пісаў пра мяне...

Толькі тая ж рабіна
над бабуляй расце замест крыжа.
Толькі тая ж рабіна
цётку, маці, мяне закалыша.
Толькі тая ж хаціна
між аблокаў жытнёвых і бэзу.
Толькі тая ж краіна —
як пакліча, пад кулі палезу...



Яшчэ дзіця валтузіцца ў пялёнцы,
у шчырым сэрцы кропелька на донцы
любові да матуліных вачэй.
Штомесячык струменьчык гарачэй.

Вось чалавек!
У сэрцы ўмесціць мора
гарачай ласкі да зямлі, дзе мова
не чуе рокату жывога мора,
і навальніцу злосці,
каб нягоду,
што ўносіць завяданне з недароду
матулінага краю, ліўнем змыць...

А іншы — каб сабе гняздзечка звіць.



Пацяплею ў праменні зораў.
Пад пявучай сасной забарую.
Прагну кроплю з гаючых азёраў,
што стварыў Бялыніцкі-Біруля.

Чаркі, асветлены ветахам,
чарамі напоўнены з верхам,
так глыбока, навечна маўчаць.
Працінае маўчання пячаць.

Не адвесці воч, не расстацца.
Словы ў сэнс празрысты збяру:
ільняное радно, Беларусь
і любоў — таямніца мастацтва.



Жывучы далёка ад сястры,
захварэўшы крышку, знемагуся.
Грукаюць у шыбіну вятры,
чулыя, як рукі Беларусі.

Ціха папрашу чужую цётку:
— Адчыніце, калі ласка, фортку...
Насцеж вокны, дзверы і душу!
Свісту, шэпту, шчэбету прашу!

Абарвіце шэрых хмараў шторы.
Ніжай, ніжай апусціце зоры!
Я пагрэю каля зор далонькі...
Маці Беларусь, не кідай донькі!
Тут прысядзь. Пабудзь са мной даўжэй.
Добра ўжо... Пачулася дужэй.

## АБАВЯЗАК

На досвітку дзверы адчынім
паціху: матуля, даруй...
Паклікала нас у шляхі-далячыні
на службу дабру Беларусь.

Мы ёй, як матулі, паслужым
і верай, і сілаю рук.
Падцягнем лясы за зялёныя вушы,
каб рос да нябёс кожны сук.

А мы ад прыроды не трутні.
Што трэба рабіць, нам відно.

Ачысцім балот каламутныя студні,
паданнем пакінем адно.

Напеваў дрымотнае рэха
адвеем ад трэску грамоў.
Яе маладыя крынічныя рэкі
нічым замуціць не дамо.

Мы ёй падаруем з пакорай
пракосаў валкі і вянкі.
А самі натолімся толькі спакоем,
што сыдзе пасля на вякі.



Такая вясновая
выпала восень.

Здаецца, нядаўна
дзесяць плюс восем.
Здаецца, учора
згулялі дажынкі
і вочы яшчэ
не замглілі дажджынкі.

Віецца жыццёвая лінія проста.
Збіраю плён
на ніве сяброўства.

У сэрцы маім,
да куточка занятым,
зялёным радком
усходзяць зярняты.

## ЗАМОВА

Адзвінелі ручаіны ў сакаўных
мурагах.
Адспяваў натхнёныя песні салоўка.
Сіратлівая рачулка
ў абмялелых берагах
хлёкае нясмела...
Толькі слоўка,
як гаючая расінка,
вусны абросіць.
Усяго не хапала.
Усяго стане досыць.

Як адужаць, знішчыць
у самой сабе знямогу?
Каб нікога не паклікаць
на дапамогу...
Толькі шчырую сястрыцу —
толькі мову.

Каб другія пра мяне:
— Вельмі дужая! — прамовілі.
Пра нясмелую, слабенькую,
загоеную моваю...
Пра замоўленую замоваю.

* * *

Няма платоў і загародкаў
і зносін дасканалых сродкаў
між пунктамі «дабро» і «зло» —
ёсць саматужнае цягло.



Не ведаеш амаль што чалавека.
Калі ж агорне раптам небяспека,
а ты яго не браў у суд за сведку,
вы разам не хадзілі у разведку...
Яго кране людская радасць, боль?
Там хлопчыкі гуляюць у футбол.
Дзяўчаткі на пяску малююць класы.
Даведацца — не трэба многа часу —
ці ён абыдзе асцярожна збоку
дзяцей... І мяч упаў непадалёку.
Як чалавек падкіне хлопцам мяч,
як адгукнецца на дзіцячы плач,
лічы, такі не здольны на злачынства.
Лічы — ты ведаеш яго з дзяцінства.

## ГРОМ

Піць даюць з вядзерца градкам.
Курчацца дубкі.
За машынай ці за статкам,
нібы жарабкі,
уздымаюцца гасцінцы на дыбкі.

Нібы ў пустцы, сухавей гудзе на дудцы.
З грушы дулькі, з галавы страсае думкі.
Просіць хмарку у райцэнтры аграном
і вучоных праклінае перуном.

Бабка моліцца спрадвечна
без пракляцця:
— О, збавіцелька калгаснага багацця!

Захіні яго ад засухі рукой!
Смагу нівы і паветра супакой.

Ад змяркання да змяркання
плача каня.
І напоена скацінка і рыкае.
Бор засмяглы, бы здзічэлы, як звроў —
абудзіўся ў трыдзевятым царстве гром.

* * *

Ды гэтак чалавека акрыліць,
каб без аглядкі бег
варочаць горы!
Ды сэрцу лепш,
калі яно баліць
у радасці вялікай,
а не ў горы...

## КРЫНІЦА

Пагорачкі за вёскаю Ласосна.
На лабавінцы, як віхрынкі, сосны.
Сярод вятроў сваю гайдаюць долю.
Снег прапускае ногі аж да долу.

Наіўны паляўнічы ці мастак
валтузіцца між гурбаў проста так.

Замілаванасць полем
зменіць стома.
Пагоркаў хваля
абарвецца строма
аб Нёман, што тугія абцугі
скрушыў, аддаў марозу берагі.

І то не ўсюды —
жывуць крынічкі,
струменьчык невычэрпны, невялічкі,
у спёку і ў мароз заўжды такі,
казыча пяткі Нёману, бакі.

Спявае пра вясну, пра новы рост.
Любой істоце шчырай гляне ў рот
і не паскнарыцца, не наракне,
не буркне —
на поўны твой глыток засмяглы булькне.

Глытай удосталь. Сам жыві вось так
наіўна — паляўнічы ці мастак.



Спакой перад мяжой жыцця і смерці.
За сінім шклом акна — грымоты смеху.
І адчувальны на бязважкім целе
бяздумных аблачын сівыя цені.

А ў глыбіні душы не так і дрэнна:
маленства і заход — пясочку горка.
А хлапчаняты атакуюць дрэва —
на тоненькім сучку сядзіць вавёрка.

## СПРАДВЕЧНАЕ

Перабіраючы світанняў нітку
зялёнымі шлячкамі падарожжаў,
бясконцаму жыццю аздобу вытку,
на скронях паясочкам упрыгожу.

Няхай сабе не модна, але ўсё-ткі —
сціскае скроні сціплая аздоба.
Убор такі насілі нашы продкі —
іду як старажытная асоба...

## ПАСТУХІ

Лавілі вялымі рукамі пужкі.
Сны адганялі пастухі, пастушкі
ды шчабяталі зранку, нібы птушкі.

Каровы, прагавітыя на золку,
з травой хапалі ранішнюю зорку.
Тушылі ноздрамі расінак лямпачкі,
падключаныя да кожнай лапачкі
на дубчыку, на былцы, на рамонку...
А пастухі развязвалі гамонку,
што ім паклалі мамы ў торбы з лустай.

Закусвалі азябласць скібай тлустай,
недасыпанне — пульхнай бульбай печанай.
Зноў падступалі да загадкі вечнай:
што ўзнікла першым: яйка? Можа, курыца?
І хто з малых шпарчэй са стога скуліцца?

Зямля паскрыпвала на смольнай восі
ды спраўна чаргавала лета — восень.
Стругаліся нязбытных лёсаў стружкі.
Даўно ў прасторы адгрымелі пужкі.

Павырасталі сейбіты, шафёры.
Хто ходзіць пеўнікам, хто не ў гуморы.
Хто, як з фальклору Тодар і Тадора,
папраўдзе дзеліць лапаць і абору.

Ды павялічылася чарады птушынай
з дапытлівай каманды пастушынай!

* * *

З гадамі змрачнеем на светлай зямлі.
Бурчым і дзяцей сваіх ганім.
Няўжо гэта мы калісьці маглі
вясну абуджаць дыханнем?

Гарчыць гарката на засмяглых губах.
У скронях завея курыцца.
Настане пара, заблудзіўшы ў дубах,
зялёным лісточкам прыкрыцца.



Як жа спакусна жыццё пабяліць,
выслаць калдобіны
белым сувоем!

Як жа не проста застацца сабою!

Дзе ж вы, сябры,
калі мне забаліць?

## РАХУНАК

Пражытаму дзённы рахунак раблю.
Хто мне трапляе на вока?
Людзі, якіх аддана люблю.
Людзі, якія навокал...

Людзі, якіх абмінаю,
навокал завязлі ў мане.
Сяброў штодзённа мяняюць.
Што ім змяніць і мяне?

Шчырыя людзі ўбачыцца рады.
Наспех не ўмеюць падказваць парады.
Як іншай чакала ад іх дапамогі,
сябе прад сабою не ўнізіла трохі?

Жыццё — не вандроўка па шчодрым бары.
Бывае, такія спляце лабірынты.
Чужы пераход напавер не бяры ты.
І наспех замшэлай сцяны не буры.



Драбносткі быцця
мяне гоняць, як крыгу,
сціскаюць і раняць.

І людзі чытаюць,
як простую кнігу,
мой боль, маю радасць.

Што маю наўме,
тое выкажуць губы —
сакрэтаў не маю.

Залішне сур'ёзна
дарослыя гульні
да сэрца прымаю.

Паплачу, засну,
забуду праз ноч,
дзе ўчора быў крыўды цянёк.

Даверліва ў вочы
заглядваю зноў,
нібы дзіцянё.



Праясняцца
начныя думкі днём.
Вядзерца перакулена ўверх дном.

Гаршкі, збанкі
паселі спаць на плоце.

На частаколінцы, на тонкай ноце,
заснула песня, звіўшыся ў клубок.
Маладзічок ёй лашчыць левы бок.

Не знойдзе ў цемры
сэрца суцяшэння.
Падкажа ранак
яснае рашэнне:

каб стаць багатай, гэтак трэба крышку —
зайсці ў здзіўлення свет...
Чытаю кніжку.



Пакоціцца месяца жоўтае кола
за далягляд, дзе самотна і гола,
дзе полымя зяпкай спалоханай, рыжай
апошнюю песню асеннюю зліжа.

Маркотны ліст на ліпе апошні
з ветрам крыху пагуляе па пожні.
Хай будзе ўсё начыста сабрана.
Усё спачатку ізноў
заўтра рана...



Я ведаю не модную рамантыку:
зашыліцца ў куток, чытаць граматыку.
У цішыні гадоў маліцца слову.
Перабіраць па нітачцы радочкі,
бы ткалля ў нічальніцах «агурочкі» —
узор забыты...
Пачасы — у кошык.

Не павярхоўным словам ткаць аснову,
напружанай увагіварты пошук.



Ці варта таргавацца з-за драбніц?
І не далічана вясновых год,
не пражыта казачных прыгод.
І нехта выглядае лепш, ты — горш.
Галовы схілім перад векам ніц.
Перад маўклівай вечнасцю без меж,
якой паслужым — ты больш, я менш...
А можа — і якраз наадварот.



Сам-насам з часам,
з прыціхлым лесам,
са шчодрым летам
і з цэлым светам
я стомленасць сваю лячу.

З берага ў рэчку лячу
з першым класам.



Не веру ў непазбежнасць схемы простай:
знаёмства і любоў, нянавісць — ростань.
Вялікі свет пачуццяў мае столькі,
іх не складзеш у дзве — чатыры столкі.

Магчыма, я дарэмна клапачуся
развагай аб'яднаць разлад пачуццяў,
няўлоўны рух душы даверыць слову?

Жыцця вясны бяздумную палову
іграла то адажыо, то скерца...
Ці разумею стук малога сэрца?



Ці бульбу з прысаку луплю,
ці слухаю бусліны клёкат,
таго найболей я люблю,
хто мне спраўляе большы клопат.



Сэрца — капрызнае вока.
Тут перспектыва не тая.
Сябра паедзе далёка —
не меншае, а вырастае.

Блекнуць штодзённыя справы,
праз сетку якіх мы глядзелі,
таму і не бачылі з'явы,
і застаюцца падзеі.

Мы упрыгожваем самі
аблічча знаёмага выраз.
Здаў ён галоўны экзамен
выпрабаваннем...
І вырас.

Далёка-далёка сёння.
Ветрам загрукае ў сенцы.
Стоіцца сцішана ў сэрцы
з бярэмцам гадоў асенніх.

## КЛОПАТ

Перакулю падушку,
як прысню цябе.
Думай аб жахах планеты,
аб трывожнай стральбе,
пакутуй за ўсіх калекаў,
лячы свету раны,—
не ўнікнуць маіх лекаў!
Ты зачараваны.

Я табой завалодаю,
не адпушчу.
Думаць будзеш аб тым,
аб чым я захачу:
на золку збудзіць расінка
натхнёнага салаўя,
запоўніць прорву маўчання
слязінка мая.
Ад самых пакутных думак
дам адпачыць табе...

А ты бажыўся —
не верыш бабулінай варажбе.

* * *

Што пацалунку грош цана,
што людзі чэрствыя —
мана.
Хто выдумаў такую казку?
Штогод расце цана на ласку.



Трымайце ў губе талент дыпламата
і словы спачування не кажыце.
Я атрымаю ўсё,
чаго я варта:
на даляглядзе бор,
сцяжынку ў жыце...

Прадонне беспрасветнасці ў акне.
І дома, нібы ў дальняй старане.
І Ваша спачуванне абміне...
Усё яшчэ наперадзе ў мяне.



Як шыбануў пярун,
што звер шалёны,—
ствол клёна раскалоў
на роўныя два клёны.
Імгненна з клёна
зляцела крона.
Аздобу гаю
шуганула ў Гаўю.

Скацілася сагрэтая вада
на нас, але адзення не шкада.
У маладосці высушым на сонцы.

Не страшна —
шчэ не ведаем пра стронцый.



Гэта ты мне не любы?
Як маглі такое вымавіць твае губы?
Неасцярожна прысак у вогнішчы варушыш.
Хіба можна прыдаць выгляд раўнадушша
першародным дзявочым пачуццям?
Няўдалыя жарты пачуўшы,
перастаўляю ўсё наадварот,
перахітрыць спрабую хітры народ,
самой сабе на злосць так раблю —
таму і ненавіджу,
што люблю.



Мільгнуў цянёк у мутным акне —
наш кароткі побыт.
І хто заўважыў — былі ці не
мы ў часе побач?

Якія вусны ты цалаваў,
вачам якім ты маліўся?
Каму ты стому сваю аддаваў,
калі змарыўся?

Якія кветкі мне падарыў,
слязу, бяссонне?
Якое жорсткае слова стварыў,
што плачу сёння?

## НЕДАВЕР

Сустрэцца і ў снах баюся.
Паддамся стоме нарэшце.
Штоноч ніяк не збяруся
цябе праз дрыгву правесці.

Збалелая і чужая,
іду да святла з ценяў,
хачу ратаваць у дзяржаве,
што з чатырох сценаў.

О, колькі ў снах маіх веры!
Пайшоў ты не ў тыя дзверы.

Адчай ледзяніць спіну.
Жахі — на шыі маністы.
Тулюся да соннага сына,
адзінага прэм'ер-міністра.

Пачуцці мае варты жалю.
Давер да мяне танны:
шукаем у сховах дзяржавы
магнітафон тайны.

## ЧАМУ ХАЛОДНА

У чыстым полі сняжынкі —
дзяўчынкі босыя —
з хмаркі на парашуце
спускаюцца абы-дзе.

Па белым абшары
коцяцца часу калёсы.

Сціскаецца сэрца —
каханы ідзе.

Бачу, не аглядаючыся,
чую, не чуючы голас,
прысутнічаю адсутна
з ім, дзе ні ёсць...
Раюся, не размаўляючы.
Учынкі мае — яго воля.
Вочы яго — святло маё
і маладосць...



Не, ты мне не чужы і не далёкі.
Адны ў нас дрэвы, рэкі і аблокі.
Іх абжываем, ганарымся імі,
любоў сваю адным назвалі іменем.

Не ты мяне вяртаеш да вытокаў,
да першароднага з ігліцай бору,
да недаверлівых, нясмелых крокаў,
дзе зноў не буду
сама сабою.

## ВОСЕНЬ

Сплю спакойна.
Восень у маім спакоі.
Цішыня ледзь чутна
ходзіць па пакоі.

Мой гадзіннік цікае прыглушаную ноту —
адзіноту, адзіноту,
адзіноту, адзіноту.

У грудзях маіх гадзіннік
сцішана шчэ болей —
адзіноту, адзіноту,
адзіноту з болем.

На заходзе сонца
я заходжу ў дрэвы.
На руках кляновых
сумна восень дрэмле.

Малявала пэндзлікам
на лістоце жылкі,
малявала вецер, лужынкі, сцяжынкі.

Колькі колераў, настрояў,
пераходаў, зменаў.
Многа працы ў восені,
у мяне не меней.

Не магу рашыць задачу:
шмат ці не гадзін
чалавек бывае з думкамі адзін.

## ХВАЛЯ

Справы, справункі —
прачнуся ледзь свет.
Не чую цябе —
чую сусвет.

Тлум засяліўся нанова сябрамі.
Будзень ці свята — ніякага зрыву.
Шчырасць сабрана, думкі сабраны,
раны залізаны — хваля адліву.

Цёпла ўсміхаюся промням і ліўням.
Дзівяць мяне дзівосы прыроды.
Грому ізноў адчыняю вароты.
Свет на табе не сходзіцца клінам.

Поўдзень спакоем душу напаіў,
як навальніца жытнёвую ніву.
Мудрая, шчодрая хваля адліву...
Зноў, як і мора, чакаю прыліў.

## Я ДОМА

З вамі я, людзі!
Вецер у коміне закалыхае, разбудзіць.

Мне ўсё пра вас,
вам усё пра мяне вядома.
Цёмным борам абкружана
шэрае поле — я дома.

Вольная, нібы душа.
Лёгкая, нібы аблокі.
Сумная, бы вока вадаёма.
Па пратаптанай сцежцы
ступаюць роўныя крокі.
Звязана крэўнымі вязкамі
з чалавецтвам — я дома.

Самай сардэчнай музыкай
са мной хлевушок рохкае.
Вочы цяплом затуманены —
я пры маме.
Адпусціла ў грудзях
закарузлае, чэрствае, крохкае...
Абняла мяне Беларусь,
запаланіла.
Трымае.

## З ЗАМІРАННЕМ СЭРЦА

Вандроўнікам
акінь вачмі здаля
абмытыя дажджом
разлогі, тракты.
Суцэльны лапушысты ліст — зямля
у ярках крапках ястрабковай траўкі.

Не ўзважыць плёну палёў на вагах.
Ашчаднасці да працы не згубіць.
Да людскіх спраў пранікнуцца павагай.
Падэшвы выцерці.
На шлях ступіць.

## ЗЫКІ ЦІШЫНІ

Думка,
што ўзнікне ў гармоніі з сэрцам,
прасветліцца ў слове,
праўдзівым, як наша прырода,

дзе кожны ставок
перапоўнены сонечным сэнсам,
у кожным кутку
істоту чакае прыгода.

Салоўчына радасць
лясной цішыні не разбурыць.
Ў птушыным бязладдзі
найлепшая зладжанасць хору.
Настройваю сэрца
вячыстаю музыкай бору.
Прымаю ў спакой
і патэнцыяльную буру.

## УЗАЕМНАСЦЬ

Ізноў да згоды не прыйду з сябрамі.
Паеду ў пушчу, сэрданька змару.
Істоту зноў па клетачках збяру,
як мама з татам некалі сабралі.

Дрыжу, нібы асінка на мяжы.
Пацешуся пахучых ягад зборам.
У самым шчыльным яднанні з борам
да спёкі прытулюся, да імжы.

Не разбуральніца, як і не злодзей,
нябачна застануся на прыродзе
гады, дзесяцігоддзі і стагоддзе.
Хоць на прыродзе, як не ў народзе...

## ВЯСНА

Знянацку рэкі скінулі ільды.
Ажно зайшліся дрэвы ад вады.
Кусты дык захліснуліся б, каб трохі.
Ды, вынырнуўшы з ванны, зацвілі.
Пралескам цесна ў лесе. А дарогі
звінелі, тупацелі і гулі.

Не шкадавала сонейка пагоды.
Прастора аж свяцілася ў блакіце.
Жыта бралася не ў трубкі, як заўсёды,—
жалейкі пелі з кожнай трубкі ў жыце.

Смяяліся крыніцы. Ярына
кусцілася на поўнае дыханне.

Жанчыны варты моцнага кахання.
Усе кахання варты як адна.

## СТОЕНАСЦЬ

Дзе таямнічы тэлефон падвешан
манцёрам-павучком
у сховах голля
негаманлівых вербаў і алешын,
пачуць не цяжка і далёкі голас.

А што ў цябе наўме,
аб тым маўчыш ты.
Я думкі чую ў каляровай цішы.
Нанізваю на павучковым тэлефоне,
на зялёным, у блакітныя гарошкі, фоне.

Згубіўшыся ў сярэдзіне Еўропы,
дзе шчэ грабуць граблямі сена ў копы,
я думкі любага свайго сяную
і па істоце крыху сумую.

Мінаюць тыдні, бы мікравякі.
Заплюшчу вочы — сню баравікі.
На досвітку адкрыты бачу неруш.
Туманна воблік твой.
Каму ты верыш?

## СПАЛОХ

Штоночы бегла да цябе праз бор.
У снах і марах бегла давідна.
І ты насустрач рукі мне прасцёр.
Між намі стала, як сцяна, вайна.

Сустрэчы бор дашчэнту вораг знішчыў.
Атручаны, знямоглы, абадраны
па прыску ты паўзеш праз папялішчы,
і галавешкі падаюць на раны.

У шчылінцы сяджу я, нібы мыш
пад венікам, пад снежнаю карою.
Яшчэ не дарасла, каб стаць сястрою.
Як страшна мне глядзець, як ты гарыш.

Згарэлі нашы скрыжаванні лесу.
Нам паасобку суджана да крэсу.
Усюды холадна, усюды дрэнна...
Марудна ападаю, нібы дрэва,
на здзірванелую сухую градку,
дзе град пясчынкай сончык прыбівае...

Дачка прыстане:
— Адгадай загадку,
калі сасна чырвонаю бывае?

## ПАВЕТРАНЫ ЗАМАК

Замшэлая паветка...
Успомніў даўніну:
з крышталікаў паветра
пабудаваў сцяну.

Ні трэскі, ні цавінкі.
Шматком ад хмаркі вымесці.
Пасцель пушынкай вымасціць.
Назад ні пуцявінкі.

Які каханы шчодры!
Паставіў стол, і вёдры,
і лесвіцу, і клямку,
як у сапраўдным замку.

Машынамі не ляскаў,
і не гудзелі краны.
Фантазія і ласка —
і замак змураваны.

У шчасці, у бядзе
займай любы паверх.
Каменны ападзе.
Паветраны — навек.

## РАЗВІТАННЕ

Абрываецца наша лета,
як шчымлівая сумная песня,
што прапеў чабаровы бор,
каляровай істужкай дарогі.

Пакацілася ў мора рэчка,
залатую схаваўшы рыбку.
Сосны ўвысь падкідаюць на лапках
толькі птушак, а хлопчыкаў — не.

Музыканты жвавыя ў нетрах
прадаўжаюць лупіць у літаўры,
ды няма натхнення іграць,
як ніхто не пляскае ў ладкі.

З-за ствала баравік цікуе:
ён прывык ад вачэй хавацца.
Як няма чаго болей палохацца,
то ці варта вылазіць з імху...

Пераспела лясное рэха.
Асыпаецца, як лузанцы,
на світанні ў мох. Мы паехалі.
Не будзіце, дзікі, наша рэха.

## *Водар і шолах*

### Цыкл

### КУПАЛЬНІК

Усмешка сонца ў лясным зацішку —
купальнік.
ап'яніў мяне крышку.
Пах настоены гаркавы
ўдыхаю. Не хачу есці стравы,
не хочацца кавы.

Стукоча сэрца, нібы дзяцел.
Марненька
тамілася нядаўна.
Кветка арніка —
цябе назвалі кніжныя мужы.
Адмаладзець душой дапамажы.
Пяшчотай аднавіць
здранцвелых нерваў клеткі.
Ва мне ратуйце жаноцкасць,
кветкі!

### ВАРВЯЛІ

Схмялелая ад паху варвялёў —
так называлі арніку бабулі,—
у глыбіні вятроў
чакаю буры,
у шэпце вяршалін шукаю слоў.

На расахатым дубе, на суку,
сініцы светла сварацца, як дзеці.
Магчыма, мне, а можа, іншай дзеўцы
вяшчае вечнасць шчодрае «ку-ку».

Астуджвае трывогі цішыня.
Мае сляды стракатыя, як сойкі,
прывялыя, прыціхнулі, як сосны.
Надоўга трачу адчуванне дня.

Ва мне спявае памяці крынічка.
Спякотным быў мінулы будны дзень.
Як добра ў лесе думаць пра людзей.
Я знікнула... Але хіба я знічка?

## БАЛЬСАН

Зноў пра бяссмерце паспрабую.
Каб цуг жыцця не разбурыць,
я за Прантысю, прабабулю,
сустрэну золак у бары.

...Нядзелькай светлаю хадзіла.
Бальсан, сармацкае кадзіла,
казельчыкі,
кацінy мяту
сушыць закідвала на мату.

Падол андарака каляны,
прапахлы ў кропе і каляндры,
трапаўся, да ўсяго быў падкі,
да лебяды, да злыбяды —
ніколі не драмалі складкі:

учэпіцца пэсцьдзесят пальцаў —
Адэлька і пяцёра мальцаў —
мае забытыя дзяды.

Не прапусціць такой раскошы —
сцяжыну ў бор працерабіць
праз росы, баравік у кошык,
крамяны, шчыры, не згубіць.

Не скінуць з жаўранка пасцелі?
Суніцы пад лістом спацелі.
Не дасняліць ад губ суніцу?

Шчасліва стомленай згубіцца
жывым сцяблом у збажыне...
Дажджом на край праліцца мне...

Але зублёны серп у рукі.
Спіна звярэджаная. Мукі
бабуля зжала за мяне.

## ПАРУШЭНЕЦ

Гібелі з непасільнай працы.
Той выжыве, каму пашэнціць.
Знямогласць давяралі знаўцы
крынічніку ці парушэнцу.

Прыкладвалі прыпарам болькі.
Звярэджанае грэлі цела.
Ізноў махаў сякерай цесля.
Прыроджаная вера ў зёлкі
Радзімы, у яе падножжа,
чаго ніхто змяніць не можа.

Цягнуўся дым, крывавы, даўкі,
сусветных папялішчаў трут.
Струпы зямлі заслалы тут
зялёнай посцілкай мураўкі.

## КВЕТКІ

Пасыпаў град, як шрот,
павеяла вайной.
Смерць звоніць ля варот.
Ці ж кветкі тут віной?

Пакуль праменням грэць
раскінуты палетак,
такая праўда кветак —
цвісці і не старэць.

## ВЕРАС

Маўклівае лона радзімы —
задумлівы верас.
Вымярзаў і гарэў,
але вырас і пахне...
Яшчэ раз
пакланіся яму,
пакланіся з маленства на вернасць.
Ён твае таямніцы не выдасць.
Куды ты слядочкі павернеш?

Падужэў у палях —
і зацесны матулін каптурык.
Пакіруеш свой шлях
да навукі —
разумны, культурны...
Мо паходзіш на ўласных нагах?
Мо абуеш катурны?

Толькі верасу пальцы
настрояць душы тваёй струны.

## ГАЛАДОК

З ускрайку лесу сонейка
прагнала халадок.
З-пад снегу выпырхнуў, як птах,
пархун ці галадок.

Лістамі-шыльцамі
казыча пяткі пчол.
Як цюцька, трэцца пыскаю аб ствол.

Паміж кустоў і шэрых гурбаў —
згода.
Зняменне, цішыня,
спакой, давер.
Нічога гэткага не прагнула даўней.
Пацешна,
што самой сябе так шкода
было, пакуль не прарасла на ўзлеску.

На крыўдзе дробязнай
пастаўлю крэску.
Адталым позіркам

шукаю бзумак.
Выходжу з бору
з пупышамі думак.

## ІМХІ

Гармонікаў маўклівыя мяхі
няроўна дыхалі, і вусны смягнулі.
Так развярэдзілі юнацтва сфагнумы —
зялёныя тарфяныя імхі.

Раскоша на матрацы з паралону?
Цвіце пасцель зязюльчынага лёну.
Імхі радзімы абніму шырока.
Стракоча ў галаве сасны сарока.

А туманы скачаліся ў сувой.
Не пачакалі коні сівай масці.
Адну малую не пускала маці
ў сасоннік.
А цяпер — праз бор самой...

## БАРАДУЛЬНІК

*Рыгору Барадуліну*

Паабяцаў стварыць ружовы лес,
ружовы смешны свет на схіле лета.
Мінаюць тыдні —
лес зялёны спрэс.
Цвіце шыпшына...
Дзякуй і за гэта.

Наабяцаў ружовых хмарак, ценяў,
сцяжын, а я паверыла. Ды годзе.
Вось зараніцы спелы сноп на ўсходзе
у перавясле светлых летуценняў.

Туман палі пакрые спакваля,
каб закаханым развітацца ўтульненька.
На сонечным сцябле расце зямля,
ружовая,
што кветка барадульніка.

## БАРВЕНАК

Вечар смужыць.
Спежачка слізкая.
Зрэнкам барвенка
градка паблісквае.

Зоры ў сявеньку
высыпаў месяц.
Будзеш служыць
у варце ля весніц.

Будзеш мне верным,
нібы барвенак,
дам табе венік
двор падмятаць.

Бедны мой невук,
тонкія нервы
будзем, як ніткі,
ў клубочак матаць.

Вельмі ты швыдкі.

## ЦВІНТАРЭЙ

Так зыркаюць
вачэй маіх звяркі.
Збіў з панталыку,
раздражніў і цешся.

Як вочны цвет
запаланіў гуркі,
нібы сівец
запаланіў грудкі,
заечым хмелем
апавіта сцежка.

Заечы хмель,
а ў кніжках пішуць —
вязель.
Ёсць рыфма ў песні:
будзеш ты, мой вязень,
пеленгаваць, як баравое рэха,
мой голас. А каб вобраз мой насіў
у сэрцы, не пасохнуў дзівасіл
па нізкіх берагах азёр і рэкаў.

Расце ў лугах
гаючы цвінтарэй.
Букет гаючых зёлак назбіраю.
Калі з'яўлюся, сэрца замірае?
Хай замірае, пакуль да раю...
Пі цвінтарэй,
кахай і не старэй.

## БРАТКІ

Кажу сабе:
пастой ты!

Як да жывой істоты
да здзірванелай градкі.

Два сінія, тры жоўтыя
пялёсткі — гэта ж браткі!

Няўжо глядзіць у вочы мне
маё маленства,
не змігне?

## КОНІКІ

На крутым адхоне
непазбежных спраў
стомленыя коні
між духмяных траў.

Вось адзін зялёны
на маёй далоні
п'е з лістка расу...
Конікаў пасу.

## КАРАВАЙКА

Пакуль гасцей паважных караван
да весніц панаедзе ўпераварку,
спяку табе святочны каравай,
а ты зладі мне птушку каравайку.

Без гэтай птушкі, як без першай дружкі,
нам нельга сесці за святочны стол.
Хітруй, ды абы-дзе не стаў лавушкі.
Над соннай рэчкай досвіткам пастой.

Такая птушка не пацерпіць пустку.
Зялёна-фіялетавую хустку
нядбайна носіць на спіне. Чарот,
адмежнік вадзяны, казлабарод
і кветкі мацярдушкі ёй да густу...

Прысядзе на бярэзіне старой
тады, як ты тугу сваю гукаеш.
Яна з'яўляецца, як не чакаеш.
З'явіўшыся, асвеціць твой настрой.

Адчуеш ты яе і ў цемнаце —
падкажа сэрца штуршком здзіўлёным.
Здарожаным, знябытым і стамлёным
яна прыносіць свята на хвасце.

З душой адмаладзелай запяе.
Яна да нас зрэдзьчасу залятае.
Залётная, але не залатая.
Я хораша прашу — зладі яе...

## ДЗЯЦЕЛ

Сасонку абняла —
пачула дзятла.
Дзяўбе дупло
ў сухім суку заядла.
Выстукваў дзяцел
азбукаю морзе:
раса-сляза
не змерзне на марозе...

## ЖАЎРАНАК

Я не пайшла палуднаваць дахаты.
Паклала стому на край прымяты.
З радзімай абнялася.
Поўдзень ляскаў,
гудзеў і дыхаў тэхнікай сялянскай.

Але жаўрук,
нібы ў стагоддзе коней,
сярод дагледжаных шырокіх гоней,
над пульхнай глебай
між сівой раллі
сцвярджаў свае правы на край зямлі.

Калматыя мядзведзі белых хмар
мне зрэдку ветрык
звейвалі на твар.
Не заглушала песня цыркуляркі
ні жаваранка, ні мяне, ні хмаркі.

## ПЕРАПЁЛКА

Кліч «піць-палоць»
настойлівы гэткі.
Хмарку за цуглі
вецер вядзе.

Рупныя птушачкі
полюць палеткі,
а пустазелле
расце ды расце.

Вельмі настырная
і перапёлка.
Зноў «піць-палоць» —
зноў перапалка.

## БАКАС

Ногі не чуюць
побач тваю хаду.
Шчасце штукуе
між намі бяду —
з водаправода
крынічку з драўлянай столі,
штучны смех-вадаспад
без ніякай патолі.

Ледзь заўважыла выйсце
з нервовага граю
ў лес, у якім на прагалцы
спелых суніц назбіраю.
Будуць духмянымі пальцы,

зграбнымі рукі.
Пашчырэю ад працы,
падабрэюць аб людзях думкі.

Свет гармоніі высню зноў
і на нашу долю ў запас.
...Тут схаваў у пах багуноў
чатыры яечкі бакас.
Ён нязграбны і пералётны.
Патаемны абшар балотны.

## ЗУБР

Ведаеш, аб якім я мару цудзе?
Хачу навучыцца верыць
у тое, чаго не будзе.

Мой белавежскі зверык!
Рыкаеш у заапарку
з калматай грывай на карку.
Здзьмухваць бы коцікі з вербаў!

Я табе ахоўную світку
з патаемнага слова
на кроснах вясковых вытку.

Павер, не шкадлівая слота
такому дужаму зубрыку.
Маё чарадзейнае слова
ў тваіх паўшар'ях не згубіцца,
непраходнае, як балота.

## ДЗІКІ

Лузалі жалуды дзікі.
Ішлі дубровай дзецюкі
ды пачалі ламаць сукі.
А мудры дзік раскрыў клыкі
і кажа:
— У панядзелак
вяртаюцца ад дзевак
усе на свеце дзецюкі,
не заступаюць ім дзікі.
А вы ламаеце сукі?
Дык вы дзічэй, чым мы, дзікі.

## ДЗЬМУХАВЕЦ

Нібы сапраўднага страуса шапка!
— Дзедка ці бабка?

Можа, паставіць на бабку —
выйграю страуса шапку.

Можа, даверыцца дзедку?
Ці шчасце ў адзетку?

## СКОЧКІ

Не так у дзяцінстве падскочу.
Звіхну ножку, не сплю ноччу —
сарве мама скочку

з магілкі бабулі,
прышарыць да болькі —
зноў у галаве гулі.

Скочкі —
продкаў вочкі.
Цвітуць зыбучыя пясочкі.

## ПРАЛЕСКІ

Дзе раннія пралескі
грэлі гурбы,
ад сонейка прыжмурваючы веі,
упершыню адважыліся губы...

Магла адважыцца
не даць ім веры?

Мы сталі смелымі
перад людзьмі і ветрам.
Дайшлі да згоды
з птушанём і зверам.

Кахаліся,
любілі да астатку
сусвет
і кожнае цялятка ў статку.

## ЗЯЛЁНАЯ ПЕСНЯ

Пераконвае сэрца
ў цудоўнасці свету.

Колькі зялёных адценняў
у сярэдзіне лета:
ад ліповага лісця
да ліповага цвету,
ад калматых ялін
да бурштынных кіпцюрыкаў лапак,
ад пяшчотнага лёну
да аўса шызаватых крапак.

...Ад вачэй зялёнага віру
у зялёную процьму жвіру.

## ЗЯЗЮЛІНЫ ЗЁЛКІ

Чаму ты, зязюля,
не гайдаеш калыскі?
Падкідаеш яечкі
ў гушкалку пліскі.
Гэтулькі ў лесе
расце тваіх кветак,
хопіць,
каб імі
прыбраць тваіх дзетак.

На сырых узболатках
чаруе цвет
зязюлін светнік або гарыцвет.
Усцеле калыску

зязюлін лён.
Зязюлін ключык адчыніць весніцы
малым пасланцам
чароўнай вясніцы,
пальецца ў барок
пчаліны звон.

Зязюліны панчошкі
на лапках у пчол,
пуховыя і з мядовым пахам.
Блакітныя,
белянца навакол
зязюліны ручнікі
пад блакітным дахам.

## ПЕРАСМЕШКА

Надвячоркам на сумежку
мы пачулі перасмешку —
лета стомленую ўсмешку
з жартачкамі ўперамежку.

Перасмешка ўмее так,
як арэхаўка і шпак,
завірушка-валасянка,
варакушка і аўсянка.

Перасмешка перасмешыць
рэмеза і салаўя.
Песня ў птушкі не свая.
І чужою нас пацешыць.

## ЖАЎНА

Вясёлая птушка жаўна
села на лапку сасны.
Збудзіла песняй адна
дрымотны закутак лясны.

Ды пачынала зарэць —
і дзень наступіў відушчы.
Жаўна перастала пець,
знікла ў зялёнай пушчы.

## ЗБАНОЧАК

Сцяжынка простая
да мудрасці народнай
бярэ выток у гарлячку збаночка.

Збаночак той падключаны на провад,
а провад той у возеры на донцы
заземлены, а возера вадою
напоўнена, ваду да дна не выпіць,
хоць дзёрзкая з'яўляецца спакуса
у маладой гарачай галаве...

# V. НАШ РОД ПРАД ТВАРАМ ЭПОХІ ВЫСТАЯЎ



## УРАЖАННЕ

Ах, развярэдзілі
гуслі, жалейкі!
Ад Беларусі знайдзіце мне лекі.

Лекі ад Біскупцаў,
Ведзьмаў і Шчараў.
Лекаў, ратунку
з мінуўшчыны чараў.

Важкасці, сталасці!
Вырвацца, вырасці
ад цеплыні, адкрытасці, шчырасці,
ад захмялення з бядрынцу і мяты,
ад галашэння над стрэшкаю таты.

Ой, адпусціце мяне на зары.
Не разглядзела навокал зямлі.
Не зазірнула далёкім у вочы.
Што за характар
здзічэлы, як воўчы?

Што за натура,
што за пакута?
Чым я да роднага краю прыкута?

## СПАДЧЫНА

Атрымала ў спадчыну на шчасце
прад людзьмі раз'ясненыя дні,
за гасцінцам —
расспяваны насцеж
свет даверны біскупскай радні.

Ці хінулася б душой па-свойску
да цяпла,
што ўгрэў маладзічок,
каб не бегла ў памяці праз вёску
з палатнянай казачкі дзяўчо?

Каб не мучыла аж да аскомы
слова —
ім няпэўнасць загаю...
Каб на повадзе не пасвіў Нёман
рэчку палахлівую Гаўю...

Каб не прывязала назаўжды
ад любві сама сябе на провад...
Ці спатрэбіцца нашчадкам споведзь
ранішняй надзеі і жуды?

## ТРЫ ВЕРШЫ З СЫНАМ

### 1. Шчырасць

— Мама,
каб пераўтварыцца можна было
напрадвесні,
якою зрабілася б птушкай —
гускаю ці амялушкай?
— Песняй.

— Я пытаюся: птушкай —
вандроўнай або пералётнай,
лясной ці балотнай,
палявою, чаротнай?
— Роднай...

— Аляпкай?
Яна пад вадой і на сушы...
— Ты і без крылцаў дужы.

— Мама, а ўсё-ткі:
птушкі гэтак высока.
Ты жураўліха ці соўка?
— Слоўка.

### 2. Давай памірымся

Я знішчыў незнарок
твае карункі.
Наўмысна не чапаў
тваіх брыжоў.
Не злуй.
Вазьмі сябе, матуля, ў рукі.
Давай мірыцца,
покуль тата не прыйшоў.

Не ўся работа зроблена
да свята?
Пачнём з табой,
дакончыш ты сама.
Давай памірымся,
пакуль не бачыў тата.
Давай памірымся,
пакуль яго няма.

Не шкодныя звяркі
балбатуны.
Я балбатун,
а ты — гіпапатам.
Прыляж, падушку з воблачка
падам.
Давай памірымся,
пакуль адны...

...А свет падобны
да сухой калоды.
Сякерай працы
на дзве паловы
расшчэплены,
як дровы на запас,
у клеткі складзены
нейтрон, свінец і атам,
запакаваны і нацэлены на нас.
Давай памірымся,
пакуль не бачыць тата.

### 3. Досвіткам

Яшчэ мы ў салодкай
былі паняверцы,
ты пяткамі ўверх
барабаніў па сэрцы.

Я марыла: вырасце сын
не малы.
Каб крышку ўдыхнулі
адвагі арлы!

...Над болем буслы
разлагоджвалі клёкат.
Бусельнік слаўся
барознамі ўпокат.

Пад босай нагой
выдыгаліся тупка
праз мох баравы
па зацішным бары

шляхі.
Як цялятк, рыкалі зубры.
Дабро наваколля
ўбірала, як губка.

Гаворка людская цякла,
як вада.
Сынок прастадушны, як мы...
І шкада.

## БРАТЫ

Губляюць сілу.
Мала маюць сілы.
Малодшы да старэйшага
у госці
прыходзіць.
Сядуць на краі магілы,
сагрэюцца цяплом
далёкай маладосці.

Са смехам прыгадаюць,
як аднойчы
адзін з іх конна
пераязджаў па ночы
раку,
гняды рухавы быў такі —
уздумаў легчы пасярод ракі.

Успамінаюць
хваробы, войны, гора,
ды аб сваіх дзяўчатах не гавораць.

Хвалююцца, згадаўшы пра выпадак,
як маці іхняя знячэўку
ў студню ўпала,
як выбіралася пакутна,
покуль дзеці
адны салодка спалі на дасвецці.
На бацьку крыўда стоена
дагэтуль.
Дрыготка пераказваюць дуэтам
дзядзькоў імёны...
Усіх не прыгадаць.

Тужліва змоўкнуць:
няхай спакойна спяць...

Забыліся з вачэй слязу абцерці.
Старэйшы словы ў шнурок збярэ:
— Пакуль што ўсе яны жывуць
у нашым сэрцы.
Памром —
і памяць аб іх памрэ.

## РОД

Наш род
прад тварам эпохі выстаяў.
Не адну абойму
вораг выстраляў —
так многа войнаў
бацькам перажыта.

Наш род
упарта сее ў полі жыта.

## ВЫЛІЧАННЕ[1] ПА ТАТУ

— Шчыра іграй
балесную ролю.
Не звар'яцееш ад болю.

— Не магу іграць
у абрадзе бяды —
затапіла да звычак тутэйшых брады.

---

[1] Вылічанне *(біскупскае)* — прычытанне.

Душыць тваё зняменне.
Стыне вячэрняга сонца праменне.
Адмежаваўся ад нас назаўжды.
Не ўтоліш смагі
глытком вады.
Не глынеш паветра,
якога забракла.
Не дала прырода мне брата.
На мужчыне трымалася доля наша.
Стаміўся.
Сашчапіў рукі.
Нашча...

Радзімка
над правым брывом
не напята.
Абарвалася струнка жылкі.
Замятае снежань сцяжынкі.
Прырода не вінавата.
Ці-та-та, лі-та-та, тата.
Ценька цілінькае вецер.
Да калючага буйнага вецця
гайдае памяць
арэлі гора:
узлёт — правал...
Мой тата — учора.

Зялёныя вочы,
што грэлі, як сонца,
зайшлі,
не ўзыдуць
на ўсходзе сенцаў.

Палаў,
залішне займаўся
погляд —

стухнуў грудочкам
прысаку-поля.

Сны адкрываюць мінулага полаг.
Сны ажыўляюць штоночы, як сполах.

Выйшаў мой тата,
вандроўнік лясны,
сябра вясны,
у памяць, у сны.

Тата зайшоў
у боль майго сэрца,
у ручаёк,
што абмые шчаку,
і сустракаць з дарогі дачку
раптам не ўзыдзе,
як сонейка, з сенцаў.

...Ва ўтульным закутку краю
каля маладзенькай бярозкі
жалейка ціха нячутна іграе
працавітай мудрасці вёскі.

...О, свет прасторны, як горад!
Залішне добрай
раблюся з гора.
Люблю, што цвіце,
шчымліва, што вяне.
Усё мае права
на існаванне.
Хто глянуць у сэрца
адкрытую рану
адважыўся,
хто і ў бок мой не глянуў.

Нашто гэта тата,
залішне добры,
любоў да свету
на памяць мне дорыць?
Не трэба.
Досыць.
Дазволь падрасці мне.
Цвярозым вокам —
праз дым жуды
і цвёрдым крокам
ступаць па радзіме,
з якою злучаешся ты
назаўжды.

Зямля твая хата,
а месік браток.
Ля гасцінца мой тата —
дзірванее грудок.
Выпіў студню надзеі,
гаркоту і смех.
Толькі сена касіў,
чалавека не кляў.

Дзве сякеры гадоў
падкасілі з камля.
Ад прыроды прыняў
нараджэнне і смерць.

## СЛЯЗІНА ДАЧКІ

Як сыдзе воблік мой за колы
твайго ўяўлення пра мяне,
як нехта, ветраны, вясёлы,
даверны позірк праміне,

закруціць кудасай-нязгодай
па гурбах згадак палазы,—
ці абярнуся я нагодай
сляпой гаручае слязы?
На свеце жорсткасці задужа.
Чарсцвее сэрца ад няўдач.
Без наракання!
Кволым душам
у камізэльку не заплач.
Шкадуй спагадных,
балазе
нясцерпна плакаць у радно.
Уваскрасі мяне ў слязе —
слязу ачысціш заадно.
Купалы томік і Хадыкі,
што берагла табе ў пасаг,
драсён згарчэлы, блёкат дзікі,
якімі прарасла пасля,
слязу бярозавага соку
з прадонне стомленых лясоў...
У іх імя
насі высока
гай беларускіх валасоў!

## СЯСТРА

Увішная руплівая пчала —
сястрыца, што гаючая крыніца.

Як сонейка
пайшло з паўдня хіліцца,
ласкавей да сястры
гарнуцца пачала.

## ПТУШКІ

Махне крылом пудліва смерці ява.
З Місур гасцінцам — фашыстаў лава.
А цётка Броня гоніць нас у спрат,
нібы авечак, па раллі ад хат.

Дзяўбе паўнеба крывавы птах.
Грук... крыкі... нема...
шквал бомбаў... жах...

Свінцовыя праныры-птушаняты
свіргочуць нудна,
цякуць за пяты.

Мы вязнем па калена ў пульхнай глебе.
Зямлю глытаюць вочы, рот і ноздры.
Стаілася на баразне, бы ў норцы.
Прыкрый ад птушак
шырокім крыллем, неба!

Шпурляе цётка нас у яму з лёту,
гняздоўем рук адводзіць кулямёты.
Татахкае адчайна птушка-сэрца,
на лес заваблівае ловы смерці.

Абселі птушкі агню яліны.
Гараць, ратуюць нас жывыя казкі.
Ад яміны, адкуль капаюць гліну,
як птушка, цётка адхіляе каскі.

Няма за роднасць
мацнейшай броні.

Іглічы роем
да цёткі Броні.

## САКІШАЎ КОЛЯ

Расстраляны,
у прах ператвораны
Сакішаў Коля.

Русы, каштанавы, чорны
чупрыны тваёй колер?

Быў ты высокі, дужы,
шыракаплечы —
так мне бачылася,
здзічэлай дзяўчынцы,
з печы,
куды загналі мяне
крокі фашыстаў, кленчы.

Ты адчыняў нашы дзверы
шырока і смела.
У прыглушанай грукатам хаце
адразу святлела
ад усмешкі, ад голасу,
ад зіхацення зброі.
Здагадвалася несвядома —
так заходзяць героі.

На вялікай вайне ў герояў
вольныя крокі, замашкі.
Сцягваў з печы пушынку,
хапаў пад апашкі.

Ты б падкінуў пад воблакі,
апусціў бы ў пярыну снягоў.
Каб сустрэць цябе на панадворку,
апрануць не было чаго.

На дзіцячы мой розум
ты мовіў сур'ёзна:
— Дануся!
Падрасцеш, пакуль страляніна.
Як зглёдзець, я завіхнуся
і знайду цябе тут, за комінкам,
на тваім улюбёным месцы.

Не баяцца,
не хлюпаць носам
партызанскай нявесце.

Прытуляў мяне, засарамачаную,
да ладункаў сваіх пяшчотна.
Падміргваў старэйшай сястры —
ды гэта цяпер не істотна.

Як мне хацелася
ашчаперыць цябе рукамі надоўга!

Урываўся ў мой страх,
раствараў яго —
і ў суматоху,
у перапалку, у гром,
на вогненныя скрыжалі,
у цемрыва за акном,
дзе знічкі ценяў дрыжалі.

У яве маёй, на печы,
мізэрнай дзяржаве,
ішло адступленне
да стану зацятага жаху
і чаканне, чаканне...

Яно зацягнулася неяк
да канца страляніны вялікай,
да пасівелых веек.

Памяць не захавала
ніводнай жывой рыскі.
Не даюць уяўлення
кінастужкі і абеліскі.

Сняцца хлапечыя твары —
каторы з іх блізкі?

Не паўтарыўся ты
ні ў явары, ані ў птаху.

Пачуццё засталося —
адаграваеш ад страху
ненадзейнай схованкі печы.
Трапеча крылцамі воля.

Расстраляны
з Дакудава Сакішаў Коля.

## ПАЛЕССЕ

На шчочцы жытоў радзімка
сітніку. Радасна грэюся
сітнікам — сумам радзімы,
дзяцінствам радзімы —
Палессем.

Смагу любові ўтоліць,
запрытуляе, загладзіць...
Захочацца пешкі адолець
купіну на даляглядзе.

Кругам паважных бусло́ў
плаваць над прорвай у зыбках
долаў.
У прысмаку слоў,
як журавін на зубках.

## ЗЫБКІ

Нашы вёскі пастарэлі.
Дзеўкі ў горадзе.
Сялянкі
зыбкі кінулі на стрэхі —
прыдаліся на буслянкі.

## КАЛОДАЧКА

Таргавацца з жыццём
і адчайна рашыцца —
заліхвацка націснуць
на кнопачку тую.

Разгарнуць перад вёскай,
як гармонік, натуру —
набалелую радасць
нагам і задымленым стрэхам...

У зыбучы пясок
ля старога гасцінца
на высокай, на чыстай,
гаючай расінцы
знікнуць рэхам...

Ах, мамачка,
ах, цётачка!
На гармоніку грае Калодачка!

Рэжа польку,
нібы больку
замаўляе.
Мяне хлопцы не бяруць —
замалая.

## РЫСКА

Край, перапоўнены
прысмакам працы і ласкі,—
пералескі, суніцы,
калючы ядловец і мох —
выпіў бы прагны нагбом,
як гаючы бальзам, каб мог...

Цябе на жалейцы
зайгралі хлопцы-падпаскі.

Спелі ў прытоенай песні
зязюлі, жанчыны...
Тваё паветра саткалі
жаўранкаў крылцы.
Доўгаю дзюбаю бусел
На дзёрне-скарынцы
выклепаў лялечныя пагоркі, лагчыны.

Тваe палотны-гасцінцы
ў расе зараніца купала.
Сувой раскруціў на святло

навукі
лекар Скарына.
Можа, аблогам пыліўся б
на гарышчы Зямлі, як старызна,
каб не ўдыхнуў душу
чараўнік тутэйшы Янка Купала.

* * *

У маёй біяграфіі датаў не шмат —
вёсны, кусцікі бэзу, пад вокнамі хат.
Не перажыта
рызыкоўнага паварота.
Не заступіў дарогі
насарог або слонік...
Наталенне душы маёй —
мова народа.
І захопленасць — кніга:
граматыка, слоўнік.

## СВАЯЦТВА

А Тадэвуш Касцюшка і Костусь
Каліноўскі
з нязломнае косткі,
гадаваліся на ўзгор'ечках каляных
Марачоўшчыны і Мастаўлян.
Там буяў на касцях касталом.
Крэўнасць за славянскім сталом.

Род Кастулі з Лідчыны ўсенькі.
Прад магіламі дрыжалі каленькі.
Прад чужынцам не стаяў на каленях.
Моцнае, відочна, карэнне.
Сеяў і касіў — не крані!
І не карчаваў карані!

Нам, учэпістым, вандроўнік зайздросціў.
Тут ляжаць нашых прадзедаў косці.
Мы на роднай зямельцы не госці.
Мы — спрадвечныя і з маладосці.

## СТРОМА

Пад покрывам цямна
нямы палёт палёў.
Палёг маўкліва лён.
Заснула збажына.

Баляць разоры ніў.
Халодных зор,
як прыску.
Збавення не прысніў,
бо не да сну вятрыску.

Сляды, сляды — у свет
прасторы па аўсе.
Усё адкрылі ўсе.
Згубіўся ранні след.

Каля кастра ўначы,
каля жывога ценю
наіўную навучы,
як узляцець у цемру.

## СУЦЕХА

Падышлі да азерца,
у якім апалонікаў зграя пасецца,
на дне колькі карасікаў.
Рыбакоў болей.
Жанкі задаволены доляй.

Ад вясновага водару — асалавей!
Дзюбку прапаласкаў салавей.
На сцяблінцы, на кветцы —
булькание, свіст.
Салавей — што ні ліст.

Танюткі званок
уліваўся ў песні раку.
— Жаўранак! — я шапчу.
Пярэчыш:
— Позна жаўруку.
— Жаўранак!
Хіба можна заснуць увечары
пад салаўіныя шчырыя чары?

За чалавекам палюе
атамны апалонік.
Замірае сэрца
ў салаўіным палоне.

## ЗЯЛЁНЫ ПТАХ

Зялёны птах
з палоскай жоўтаю удоўж крыла.
Згубіла страх,
разгубленасць перамагла.

Выглядваю штодзень
з акна цябе.
Ужо дзяўбе
крупінкі раннія маіх надзей.
Паветра дзюбкай чысціць між галля.
Не страшна сцюжа, золь.
Затоена любуюся здаля.
Мінае боль.
Сініцы, амялушкі і гілі
таксама гронкі слёз маіх дзяўблі.
Спагадліва чырыкалі ў галлі.
Зялёны птах маю журбу гаіў.

## ЗГУБА

Здрадзіў таварыш...
А быў — хоць да болькі...
Спакойны, як сон маладзенькі...
Не бойкі
і не пусты,
не мякінай напханы...
Горай баліць,
чым як здрадзіць каханы.

Ні абяцанак,
ні клятваў,
ні путаў...

Як маладзік,
знік за хмарку,
і пуста
стала на светлай прагаліне дня.

Цэбар маўчання —
ні вечка, ні дна...

## СУНІЦЫ

Завабілі здзічаць
сунічныя вандроўкі.
Крыклівы бор дзяўчат
і ўсе твае сяброўкі.

Ты шчодрая, што бор.
Сябровак просіш:
— Гляньце!
Ды на маёй палянцы
насыпаў нехта зор.

Удзячныя сяброўкі
стракочуць, бы сарокі.
Выспелі суніцы —
знікаюць таямніцы.

Падскоквалі пад горку
і ножкі і збанкі.
Матуля на падворку
глядзела з-пад рукі
і дзякавала бору:
паслаў на дзетак змору,
мурзаценькіх прывёў
увечары дамоў.

## ПАДЛЁТНАЕ

Прабегчыся,
нібыта Нёману пара.
Дыхае Радзіма.
Уздымаецца пара.

Абуджаецца зялёнае пакаленне.
Парасткам, сцяблом
з нутра зямлі бурэнне.

Чырвона-бурыя каташкі таполі.
Абходзіць грак
гаспадарскай ступою
палеткі, раструшчвае
камякі глебы,
спрабуе, ці тлуста, на дзюбу...
Не грэбуе.

Цёпла душы між птушак-зязюлек.
Як дачушку, гукаю ластавачку пад стрэшку.
Тупаю па звонкім спеўным арэшку.
Свіцяцца пупкі
з-пад зялёных кашулек.

## ГАРОДНЯ

На шлях радзімы несмяротны
дыхнула жарала байніц.
Ссівелае чало Гародні
ад войн крывавіць і баліць.

На шлях гісторыі гаротны
чужы паставіць крыж спяшаў,
ды беларускай мовай роднай
спрадвеку гоіцца душа.



# VI. ДЗЕ ХОДЗЯЦЬ БАСАНОЖ

## ДЗЕ ХОДЗЯЦЬ БАСАНОЖ

Як гэта роднаму бору шанцуе:
полечку дожджык ля елак танцуе.
Мокнуць на лузе
лапкі грака.
Кошык лазовы,
на донцы рака.

Ад валтузні з ветрам ахрып
плот,
што малой мне
падставіў свой хіб,
хату і тату
бярог ад дажджу...

Што ж я са словаў
плот гараджу?

Ма́ю адвагу
зірнуць сабе ў вочы?
Жыць па-птушынаму,
а не па-воўчы?
Кладку пакласці —
сытых шкада.
Сыты, здаволены —
гэта ж бяда!

Простыя,
дужыя
з вёскі асілкі
праселі на сенакасілкі,
болей не менцяць на досвітку кос
і не ратуюць вясковы мой лёс.

Там ахмялеў
ад багунніку вужык,
купіны сонца
падклаў ён пад вушы
і сакаўныя дурніцы, ажыны
ніжа
на гнуткі хвосцік
вужыны.

## ЛЁС

Моўчкі зоры сышліся на веча,
аніякага знаку здаля.
Нам назначана, любы,
сустрэча:

век дваццаты,
планета Зямля.

Без твайго існавання —
руіна.
На высокім цярпенні згару.
Як пазнаць,
падказала краіна:
— Каго любіш?
— Люблю Беларусь.

Мы істоты адной —
дзве паловы.
Дзе ты —
ў слоце, у стыні, цяпле?
Не знайду —
увасоблюся ў словы.
Толькі словы на месцы цябе.

Урадлівую шчодрасць загона,
прамяністага неба блакіт
без цябе не прымаю.
Не згодна.
Без цябе
ўзнагарода —
нябыт.

## СІНІ КАМЕНЬ

Сын лесніка
дзяўчыну сустрэў
каля просекі.
Быў на дзяўчыне
каптанік з паркаліку просценькі.

Першая жменя суніц,
гаворка вачэй.
Слухаюць двое —
зязюля кувае званчэй.

— Што гэта ў бор паглядаюць
журботныя вочы? —
бацька спытаў.—
Палясоўшчык —
пасынак воўчы.
Пойдзеш за ім,
не чакай ад радзімы прывету...

Кажа:
— У лесе:
гняздзечка аўсянкі праверу.
Несла дзяўчына
паўз сонныя завадзі раскі
да запаветнай сцяжыны
надзею і ласку.

Несла па чэрвеньскім полі.
Каля рабінкі
бацька дачушку дагнаў
стрэлам тугім з карабінкі.

Выбег насустрач ляснік,
спяшаўся штосілы.
Там, дзе дагнаў яе стрэл,
спіць камень сіні.

Б'ецца з-пад каменя
чысты струменьчык вады.
З лесу ляснік
перанёс леснічоўку сюды.

Хата да хаты.
Замовы гаілі вякамі
комінаў дулы
засценка
з назвай такой —
Сіні Камень.

## ХАДЫКА
## І ЖЫЛКА

Уладзіміры —
Хадыка і Жылка —
вы найраднейшыя мае браткі.
Заменяць гутарку вашы радкі.
Праз бяздараж слова
віецца сцяжынка.

Дакранаюся,
як да рук мацеры,
як да прытульнай
з дзяцінства печы.
Не навучылася
шаптаць пацеры,
дык памалюся
на вашыя песні.



Даўно цара пасталець.
Духмяны хлеб на стале.
Ласка світальней хлеба.
Вочы мае і неба.

Між імі —
хмараў разгон
і хмары
тваіх валасоў.
І з незапомных часоў
звоніць вятрыска ў звон.

А ты далёка паехаў
ад сэрца свайго —
спарыша.
За тысячы гнуткіх рэхаў
цябе завяла душа.

Дарвецца,
куды захоча,
у свет бясконцы,
як век.
Твае неспакойныя вочы
глядзяць з-пад маіх павек.

## ТАК СТАРТАВАЛІ

Так стартавалі,
як самалёты:
я — нецярплівы вецер,
і крыло — ты.

Так узляцелі
пад ясны золак.
Так прыглушыў
нястрымных сэрцаў
грукат.

Так верым
толькі ў моц
вясковых зёлак.
Гаруем аб нядолі
горкіх грушак.

## ЛІДСКІ ЗАМАК

Дзе зліваецца рэчка празрыстая
Каменка
з невялічкай балотнай рачулкай
Лідзейкай,
ля падножжа змрочнага
Лідскага замка
праз гады
не пазнала сябе,
маладзенькай.

Кураня,
ад вясковых адбіўшыся рук,
першы раз неўдалужна ступіла на брук,
перад будучымі пералётамі
апякла гарляк
з непрывычкі лёдамі.

У балотнай Лідзейцы
апырскваюць скроні
жаўрукі,

што ўпалі з-пад хмар.
Абмялілі ў рачулцы прадонне коні
крыжакоў і беглых татар.

Што ж спрадвеку тварылася
ў Лідскім замку?
Тут чужынец няпрошаны
грукаўся ў брамку.
Навакол рассяваючы беды,
вежы замка ўзарвалі шведы.

Пералётны хан Тахтамыш
начаваў, мурамі прыгрэты,
як мыш.
Хапала яды і сну яго войску,
покуль Вітаўт няўрымсны
не звёў іх на Ворсклу.

Сцены замка —
народу верныя служкі —
не лічылі смяротных страт,
як паставілі тут
салдаты Касцюшкі
васемнаццаць сваіх гармат.

Камяні не баяліся згубы
ад світальных дзён Гедыміна
да дзён, як фашысцкая міна
аб муры пакрышыла зубы.

Ад знадворку,
ад бруку і да скляпення
непарушна ў адзіным звяне ляглі
упрытык сотні тысяч каменняў,
паўтара мільёна дробных цаглін.

Тут мае прыгонныя продкі
«салідныя» мелі сабе заработкі.

Не цураліся продкі працы —
будавалі багатым палацы,
кармілі палацы хлебам.
Сон марыў самiх
пад адкрытым небам.

Пад рыззём гадавалі долю-надзею,
вучылі плаваць сваю дзятву,
кідаючы з моста
ў рэчку Лідзею.
Лідзея цякла
праз балота ў Дзітву,
Дзітву прытуляў да грудзей
бацька Нёман,
разносіў па краі вясновы гоман.

## ВАНДРОЎКА ПА ГАРОДНІ З УЛАДЗІМІРАМ КАРАТКЕВІЧАМ ВЯСНОЙ 1965

— Ці памятаеш,
як нас запрасіла гісторыя
і мы сустрэліся ранкам
каля замка Баторыя?

На нас не зірнулі сфінксы
Аўгуста Трэцяга з брамы.
Падышлі да руін,
прыселі
на скляпенняў строгія рамы.

Як быццам здалёк аднекуль,
з глыбінь таемных вякоў,
забіты ў семнаццатым веку,
апошні рыкае тур.

Глядзелі на левы бераг,
адтуль напор крыжакоў
спіхнуў плечуком каменным
у Нёман магутны мур.

У фарным касцёле апосталы
пяты век выступаюць на сходзе.
Каторы з раскрытай кнігай,
да цябе падобны, Валодзя.

...Тут Браніслаў Тарашкевіч
наіўныя добрыя вочы
сляпіў у турэмнай цалі,
запісваў нам правілы
беларускай граматыкі,
каб памылкі направілі,
што натварылі, наспех
натуючы апаўночы справы...

Ігнат Дварчанін,
другі беларускі пасол,
за езуіцкім мурам
прадаўжаў сваю сцежку вязня.
І Піліп Сямёнавіч Пестрак
па-блазенску з трыбуны лясне:
— У Гародню ездзіць люблю,
у турме тут карміў прусоў.

Ад вуліцы Каліноўскага —
чыстага бору струна.
Снуецца з Нёмана горад,
як ніткі з верацяна.

## ЖЫЎ У ГАРОДНІ
## ЛЕКАР ГАЛЮН

З Вамі сустрэлася б часам
у ціхім завулку,
лекар бясплатны,
які лекаваў у прытулку.

Лекар Галюн.
Мы тут бегаем жвава
наўскач.
Тлум —дасканалы артыст,
знікнуў глядач.

Зранку заводжуся,
нібыта з ключыкам цацка,
лыпаю вейкамі,
покуль не выйдзе завод,—
я ці змагла б
задарма
ўзапар колькі год
дзеткам чужым
у галодныя сэрцы ўглядацца.

Як Вы збалела ўвайшлі
ў адкрытыя вочы,
ранім паветрам дыхнуўшы
наспех спярша?
Ведалі сродак
супраць бяспраўнай ночы.
Птах над зялёнай Гароднай —
Ваша душа.

# ЦЕНЯМ КАСЦЮШКІ[1]

Цень Марачоўшчынскай
даўняй таполі[2]
ценем Касцюшкі
вандруе па полі.

На ўсходзе сонца
лагодна пакратае
прытулак сноў спрадвечных
у Кракаве.

Перад заходам
ціхенька ўзлезе
на дольны камень амшэлы
ў Залессі.

Гаючаю засенню
спыніцца ўдзень.

Дзе нарадзіўся,
блукае цень.
Дзе зброяй люд бараніў
ад бяды,
перад жывымі
крочыць заўжды.

---

[1] У Залессі, на радзіме Агінскага, на камені высечаны словы: «Ценям Касцюшкі».

[2] Ад сядзібы Касцюшкі засталася толькі таполя.



На маладой планеце многа дзіў
тварылася, а ты мяне збудзіў,
каб азірнулася знутры вакол:
рачулак чыстых
пульсавалі венкі,
вятох рассейваў зоры,
бы з сявенькі...
Радкі цыбулі...
Радочкі сёл...

На золаку гарачая імгла.
Дымы ўставалі ў вёсачках
зашчыльна.
Дамоў вятры вярталіся.
Жанчына
тут разгубіцца акурат магла.

І камень цвіў,
і папаратнік цвіў,
і кавалí-кавáлі,
пелі соўкі.
Між зор — ані альтанкі,
ані схоўкі...
Ісці назад?
Які святы наіў!

Любоў мая, не патушы агню.
Няхай пяюць тваіх настрояў слонкі!
Мы дабяжым да сэрцаў.
Мы не зломкі.
І нам няма звароту ў мітусню.

## КАВАЛЁК

Як вясна вярнулася здалёк
у маўклівы куток вясковы,
мой сярэбраны кавалёк
абяцаў мне выкаваць падковы.

Завіхаўся кавалёк,
не корпаўся.
Рэха сакатала ў свет няблізкі.
Галкі ў лужыне купаліся
ў Копысе.
Каля Нёмана дрыжэлі пліскі.

Я прасіла шчыра:
— Мой нялоўкі!
Радасны, пацешны, гаваркі!
Выкуй мне блакітныя падкоўкі,
каб заззялі,
нібы дзве ракі.

Як іду зялёнаю мяжою,
свет вачэй не зводзіў каб,
а ты
проста палюбі мяне душою
моцна, патаемна, назаўжды.

Малаточкам
ды па накаваленцы
грукае ад серады да пятніцы.
Грукае суботай і нядзеляй.
Надта адмысловы ўзор зацеяў.

Мусіць,
кавалёк перастараўся.
Пошчак па бярэзніку ад груку.

Ці падкоўка пстрыкнула на ясень?
Ці падковы цокнулі па бруку?

— Як жа, падкажы,
няўдачу выправіць? —
ён слязіны сцалаваў са шчок.
— Як не ўмееш ты
падкоўкі выкаваць,
выкуй мне свой ясны двайнічок.

* * *

Статкі белых аблачын
з неба скінулі цень,
але радасці маёй не ўраклі.
Светлай радасцю маёй
сагрэўся белы дзень,
весялей і аблачыны паплылі —
на паўсажня хутчэй за вецер,
зачапляючыся ценем за вецце.

Борам плылі —
пацямнелі ад бору,
полем плылі —
напаілі разору.
Радасць маю аддалі збажыне.
Стала ўдвая радасней мне.

Зразумелі мой настрой
асака і рагоз,
так наструнiлiся ўвысь
аж да ясных нябёс.

Узляцелі б за аблокі
і рагоз, і асака,
закранулі б там высокі
перапеў жаўрука.

## ЖУРНАЛІСТ КІРКЕВІЧ

Яго друкавалі газеты.
Газеты жывуць толькі дзень.
Зрываў з мінуўшчыны цень.
Шукаў старыя легенды.

Грэў парасткі вершаў,
лісты.
Распагоджваў світанак імглісты.

Можа, скептыкі нават кпілі:
— Ахвота ж купацца ў пыле
архіваў,
праблемы нялёгкія
ўзнімаць —
збалелыя лёгкія!

Ездзіў, бегаў і лётаў —
у вайны
у цемень гротаў.

Друкаваўся ў «Гродзенскай праўдзе»,
дазвання ў гушчэчы падзей.
Газета ўмірае праз дзень.
— Пераходзіць у думку,
браце!

Дапрацоўваў сваё пісáнне
ў звышнаселенай цішыні
калідора бальнічнага,
— Саня!
У архівы табе — ні-ні!

У адказ усміхаўся чыста:
— Напішу «там» хроніку пекла.
Перад праўдай адной
слаўся лістам,
аж пакуль пяро не аслепла.

Прынямонне кнігаўка выпіла.
Разам з роднымі свет патужыў.
Гаравала газета сціпла.
Тут радком лішні дзень пажыў.

Адпачне між людзей смяротных
у Гародні.
Пешай хады
дзвесце вёрст да Дзяляціч родных,
дзе над Нёманам спяць дзяды.

Ля падножжа славутых вежаў
сталіцы Вялікага княства
Літоўскага
ў шэпце вершаў
лісткамі
пад музыку птаства
у густой вечаровай смузе
спее плод яго працы —
музей —
Адаму,
тутэйшаму родам,
паэту славянскіх народаў.



Твая сяброўка —
дарога —
гула ў разгойданым голлі,
грушай даўчэла ў горле.

Чаму я глянула
строга?

Прайшла пацалункаў аскома,
з хлопцаў даўно не кпіла.

Знячэўку глянуўшы міла,
ахаладзіў, як Нёман.

Пабег да Шчыбы,
да Шчары,
як чэрвеньскі вецер вясёлы,
па баравым абшары...

Сябры твайго лёсу —
колы.

## ЯК ВЯРНУЦЦА ДАХАТЫ

Так далёка занеслі ногі.
Як вярнуцца дахаты?
У сустрэчных спытаю дарогі.
Кожны справай заняты.

Як вярнуцца дахаты?
Спытаю ў памяці,
сноў.

А навошта? —
заспрэчыць памяць.
Каб на золку з хаты ізноў?

Як вярнуцца дахаты,
не ведаеш,
дуб расахаты?

Калі ты не баішся страху,
пацямнелае сонейка даху
можна згледзець
з майго макуша...
Ад высі ў пятках душа.

Як вярнуцца дахаты,
дзе сарока цікуе з дзічкі,
каля прызбы цвітуць чаравічкі
ў суладдзі кропу і мяты?

Там кудахтаюць куры на седале.
Там пра долю матуля ведае.
Там на вербніцу,
нібы вербачка,
распушылася маё сэрдачка.

## АШМЯНКА

З краямі поўнымі,
як шклянка,
лагоднай змейкаю
Ашмянка
градой Ашмянскаю
цячэ...

А нехта
знік з маіх вачэй.

Чытаю кнігаўку,
бы кніжку.
Ашмянку
папракаю крышку,
што,
рассняваная ў прасторы,
здаецца
дзікаю,
пустою.

Стракаты конь жальбу скубе
з яснотай,
яснаю да болю:
лепш нешчаслівай быць
з табою,
чым нешчаслівай
без цябе.

## У ГАЛЬШАНАХ

Па летапіснай рэчцы Карабель
не плавае вялікі карабель.
Відаць,
і мы тут пасядзім на мелі.
Смуга пагоркаў.
Напрадзём кудзелі.

Палезлі зранку
на крутую,
ды не на тую горку
мы з нашым Сашам...

Не аб гэтым
пачалі гаворку,
ці ў хвалях летапісных Карабля
калісьці мылі ногі караля.

Калошы з Сашам
не падкашам —
я расу люблю,
ты адчуваеш тут сябе —
кумам каралю.

Туга жураўкаў і буслоў
і ў нашых сэрцах, Саша.
Але мой пошук шчырых слоў
не стаў бядою нашай.

Шукаем шчырасці зязюль,
рашучасці, пашаны.
Але як смела адусюль
бягуць шляхі ў Гальшаны.

Сярод снапоў, спякоты жытняй
смяяліся да слёз:
нашто на плошчы старажытнай
выграшаць наш лёс?

## ГАНУЛЯ

Паміж платоў і вербаў Гудагая
Ганула вуліцу перабягае,
як птушанятка, на аднойназе...
— Ці ёсць у Вас што даўняе...
ў музей?

У пыле на гарышчы гаспадарку
агледзела і з седала «марнарку»
ў бабулі выцыганіла...

І танна
«свайго сукна» бурнос
купіла Ганна.

Калі ж назад па вуліцы вярталася,
то гаспадынька кожная пыталася:
— Мо трэба Вам абрусак ці ярмо?
— А бёрды мы ў прыдачу аддамо.

— А вось, што лён часаць,
ґустая шчотка.
І сырадоем пачастуе цётка.
І за Ганулян хлопчыкі чародкай.
І падалася вуліца кароткай.

Крылатых броваў прыўзніме дужкі:
— Якія ў Вас прыгожыя нясушкі!
Як не шкада ад кожнай па яечку,—
сябры пераплываюць Вашу рэчку...

На звонкай маладой высокай хвалі
таргуецца Ганулі, шчыра хваліць
жаночы талент вёскі Гудагай.

Ганулі, сонейка, дапамагай!

## АСТРЫНА

Як запавет, небакрай.
Перысты след руна.
Птушак узбуджаны грай
іграе ля Астрына.

Ружай цвіў малачай.
Гулкі, як звон, званец.
Церпкі ручай,
як чай,
з хмелю яго вянец.

Водар любові...
Чаму
смачна дымелі дымы?
Там закрывалі карчму,
як зґаладаемся мы.

Але даўжэў няўзнак
наш малады цяняк,
нацягнуты, як струна,
на вулачкі Астрына.

## ПЕРАКАЗ

Мяне вучылі цёткі:
— Чаму ты хмурыш броўкі?
Пакрыўдзілі?
А ўсё-ткі
не бегай да сяброўкі.
Паплач паціху з горачка —
і божа барані!

Яна ж табе так горача
клялася ў дабрыні.

За непагаддзю, слотай
сонейкавы выгляд.
З любой непамыслоты
прыдумаецца выхад.
Пакуль не прыйдзе свяцейка
ў душу,
пабудзь здаля...

Даруй,
мая прыяцелька,
ім веры не дала.

Няпраўда так балела,
што і душой згалела,
скранула словы-авадні.

Няпраўду лечаць
толькі дні.

* * *

Працярэбліваецца
разоркамі вузенькімі —
ад козытаў каласоў
не бароніць шыю сарочка.
Мераць сваё шчасце вусікамі
і барадавачкамі гурочка.

На басэтлях гарбузоў,
што на плоце павіслі,
брань басовыя ноты.

Захмялець ад костачкі
спелай вішні.
Усміхаюцца прадонню ясноты.

Са светлай галавы,
як ліпнёвае сонца,
сакаўное цёплае слоўца.
А яшчэ не выспалася галава,
пабягу,
каб Нёман пацалаваў.

А каля нашай
на хвасце сарочыным хаткі
певень пасе па аўсе курапаткі.
Каля гары —
саламянага стога —
сонейка ловіць
зайчыка залатога.

А мы з сястрой матуліну слязу
страсём з душы на сухую лазу.

Жyравель загасцінскай студні
крылаты.
На манарцы Нёмана
бору зялёныя латы.
Пад паветкай неба
грому вясёлы рогат.

У людскі вадаспад —
з бацькавага парога.

## НЕЧАГА

Нечага,
чысцей, чым слязіна жывічкі,
ад сутоння да сонцаўставання
нечага шукаючы,
прамачыла чаравічкі.
А чаго —
не ўяўляю дазвання.

Каля прызбы цвіце гардавіца —
высокая і ружовая.
Шчарбатае церла
відук перажоўвае.
Сумота ў вачах дваіцца.

Як свежай вясны,
такой навізны!
Пад ранняй зарой
будан навясны.
На мяжы здзіўлення
і захаплення
нечага,
як пастава аленя.

* * *

Ані святочнасці, пі навіны.
Дык уцякайма з табою адны
поплавам
хмарам наперарэз
у векавечны загадкавы лес.

Да падвячорка схаваемся ў спла́хнумы.
Грэемся на сукаватай калодзе.
З ціхага лесу
нікуды не пойдзем.
Спешка, згрызоты —
каб яны спрахнулі!
Моўчкі паслухаем тут
канапельку.
Што кідаць словы ў кут,
нібы ў пельку.
Хай самалёты варочаюць глыбы
неба, аж нема лыпаюць шыбы
не абагрэтай суседчынай хаты,
дзе пасяліўся конік стракаты.
Шчодрых дарункаў
лета не выдасць,
то падмацуем сваю працавітасць.
Не працавітым —
капейка цана.
Вызначыць сутнасць праца адна.



# VII. АБНІМАЮЦЬ РУКІ БЕЛАРУСЬ

## ДНЯПРО Ў ЛЯЎКАХ

Крутая сцежка ў папаратнік пала.
Да плыннай хвалі песняй даляцелі,
каб акунуцца. Дняпро — Купала,
Іван Дамінікавіч Луцэвіч.

Дняпро ў Ляўках на правы бераг рвецца,
узбураны, на шыр праз буралом.
Дняпро — бяскрайняе Купалы сэрца,
ад родных ніў да вечнасці паром.

То шчырыя купалаўскія вершы,
не маючы да сэрцаў перашкод,
плывуць ракой, натхняюць люд тутэйшы,
ператвараючы яго ў народ.

То песня рамантычная Купалы
плыве ракой магутнай напрасткі
да чалавецтва, да вышынь, да хвалы,—
і не змялець ёй, вольнай, на вякі.

Нам смеласці прад светам не хапала —
руплівай нацыі, не гаваркой.
Мы назаўжды, пакуль плыве Купала
любові паўнаводнаю ракой.

Плыве Купала — душа наросхрыст.
Глыні любові з неба-гладыша.
З табою мы асуджаны на ростань.
Дняпро.
Купала.
Мы.
Адна душа.

## ТРЫ ЖУРАЎКІ

Самотныя тры жураўкі
пасярод спалавелай атаўкі
пілі сырадой раўка
ля вёскі Ярылаўка.

Гарлякі, як жалейкі, пілі.
Крыламі ўзбівалі палі,
як падушку ўзбівае маці.
Спінка далечы шэрай масці
над праёмам нябёс, над пожняй,
над бязмерам даліны парожняй.

Таямніча.
Адчужана.
Родна.
Мімалётна і незваротна.

Бегчы згэтуль, карку на злом,
ці схавацца пад шэрым крылом?

Беларусі камяк даўкі.
Не прайшла юнацкая спазма!
Шыя нівы.
Ссівелая пасма
крылаў сажалкі...
Тры жураўкі.

## СЛОВА

Разбіваецца слова
аб прастору,
як пташка:
пранік, церніца, прасніца,
матавіла, барташка,
апалушкі, пярэтычкі,
дылі, білы, сявенькі...

Колькі слоў паўмірала —
бабулек сівенькіх.

Над нябытам — драсён,
васілёк лугавы.
Толькі пчолы прадоўжаць

існення мароку
ў шчырай суполцы непрымятай травы
над спрадвечным прадоннем
цішы і змроку...

Можа, словы ўзышлі
на няўстойлівым грунце?
Нават дробнае слоўца
эпоху вярстуе.

Швагер добра, зычліва
за чаркай жартуе:
— Ці забылася ты
старадаўняе —
брунцік [1]?

## ДРУКАРЫ

Нашы продкі,
паважна гамонячы,
жыта дбайна сеялі тут,
дзе Кузьма і Лукаш
Мамонічы
друкавалі Літоўскі Статут.

Абрамлялі яго ў пазалоту,
быў заказ у друкарні пільны,—
друкары высокага лёту —
скарбны княства
і бурмістр Вільні.

---

[1] Драўляны гузік *(стар. бел.)*.

Канцлеру княства
Сапегу
на чысцюткім аркушы снегу
паказваў шрыфты-абновы
гравёр Грынь Івановіч.

Справу мудрых продкаў
пачэсна
прадаўжаў сын Кузьмы
Лявон.

З цэлым краем думаць сумесна —
сеяць зерні слоў
на загон.

* * *

Яшчэ не прачнуліся хлопцы,
што будуць жорстка вучыць.
Пакуль мяне школіць спахопяцца,
баюся ваўкоў і ваўчыц.

## НА ЗЯМЛІ ПРАДЗЕДАЎ

Але з намі што можа стацца,
акрамя таго, што павінна,
у закутку, дзе мох, баравіна
легендарны слядамі паўстанцаў,
на зямлі, плугамі ўзаранай,

пераплеценай рэчкамі шчодра?
Гэта з Людвіка Нарбута ранаў
разлілася ціхая Котра.

Мілавіды, Дубічы, Свіслач,
дзе расплата хмарай навісла.
Пупавінка зямлі — Якушоўка,
тут зрабіў хлапчук першы крок.
На бяспраўнасць узвёў курок.
Узбраеннем была дубальтоўка,
вілы, цэп,
сякера і склеп.

Сірата, пасталеў ранавата,
заступіцца за бедных гатоў.
Ён прыйшоў у Гародню да брата,
тут сустрэў атрады братоў.

Каліноўскага крылы — радкі
палымянай «Мужыцкай праўды»
далятали ў глухія куткі
і выводзілі ў бой атрады.

Шматпакутная наша зямля
спачувала ім, як магла.
Сосны гонкія за Азёрамі
абступілі балота Святое,
каб не выдаць тайну пастою
касінераў Лянкевіча. Зорамі
барвавелі паўстанцаў сляды,
каб вярнулася сонца сюды.

Сірацелі пясчаныя ўзлескі.
Серакоўскі, Здановіч, Далеўскі,—
мала вас, каб змагацца з катамі.
Многа вас саслалі на катаргу.

Хто з паўстанцаў уцёк з астрога,
не хаваліся па бярлогах,—
суцяшалі іх смутак гарматы,
супакойвалі барыкады.

Мураўёва падсобнікі з лаянкай
катавалі люд без прысуду,
а «Мужыцкая праўда» маланкай
свяціла бяспраўнаму люду.

Заклікаў Каліноўскі з пятлі:
— Мой народзе! Вочы пратры!

## АРХЕОЛАГ

Амаль сялянская доля.
— На цэлае лета прапаў?
— Толькі прыехаў з «поля»...
Улетку ў «полі» капаў.

Вярнуўся ў запыленай куртачцы,
а ў башлыку на выгодзе,
як ракі ў кашы, курчацца
і шамацяць стагоддзі.

Абступіць яго чародка
дапытлівых хлапчукоў,
ён пэндзлікам, потым шчоткай
змятае пясок з чарапкоў.

Што яму ноччу сніцца —
жуковіна, завушніца,
хацінаў сляпых камяні,
што зніклі ў зыркім агні?

Дзівосны занятак які —
ісці ў адваротным напрамку,
местам дарыць па за́мку,
дарыць гарадзішчам вякі!

## ЗАМАРАЗКІ

Падковы коней,
бы пячаткі,
на заінелай руні
скрозь.
На кожны парастак
мароз
надзеў
бялюткія пальчаткі.

## МІХАЛІШКІ

Міхалішкі!
Падзей далёкіх гора
у лепцы з мармуру
пахаладзела.
А мне баліць
маё жывое цела,
бо я бяду сваю
сустрэла ўчора.

Усёй да дна не выпіла бяды я.
А пацалункамі —
не наталіцца.

І так баляць мне рукі маладыя,
няма яго,
каб моцна прытуліцца.

Міхалішкі!
Усё ў мінулым тут:
і тры з паловаю вякі пакут
прыглушаны. Мінуламу лягчэй.
Зніміце камень з маіх плячэй!

## СТАТКІ

— Ужо на прасторы цёмна.
Куды бяжыш без агляднкі?
— Гізуюць мае статкі,
хвалі сівога Нёмна.

— Цябе ваўкі не нагналі
праз шэры бор нацянькі?
— Шукаю Нёмана хвалі —
з крутымі рагамі быкі.

## У БІСКУПЦАХ

Лёс закінуў мяне на кругі,
дзе пад месяцам дрэмле калоссе.
Чым валодаю, тут пачалося —
процьма шчаснасці,
бездань тугі.

Вось іду па шырокай шашы,
а раскрылена сэрца,
як птушка.
Ля калочка пасецца цялушка,
мой знаёмы валун пры мяжы.

Прытуліўшыся шчыра, прысядзем.
Косіць Ядзя атаву ў лагу.
— Памагай табе божанька, Ядзя!
Я з ахвотай бы, ды не магу.

Быў мой бацька трывалы мужчына,
мог за лета лугі пакасіць,
ды мяне і бяда не навучыла
ні касіць, ані лаcomplex прасіць.

Мне і ў горадзе хораша з вамі,
працавітая жнеек сям'я.
Акаймована жыта лясамі...
Тут гадуецца людскасць мая.

Вымяраю па біскупскай мерцы
час занятасці, радасці час.
Змарнавала б у горадзе сэрца,
каб яно не лунала між вас.

## ПРЫЛЁТ БУСЛОЎ

Наўздагонкі:
— Холадна!
Абуйся!
— Не!
Пагрэю лысінку
грудка.

Прыляцеў з-за мора
верны бусел
дваццаць пятага сакавіка.

Варажу —
не заплятаю косаў,
на суровы кужаль
не гляджу.
На ўраджай арэхаў
у нябёсаў,
як у таты грош,
прашу дажджу.

Не падпальвае матуля ў печы,
коўдру ніў падпальваюць —
салому.
Бралася на золак —
з буралому
вылез нехта буры,
як старэча.

Каб пасля ўхіліцца
беспрытулля,
птушка, віць гняздзечка
перастань.
Кажуць, што звіла гняздо зязюля
ў гэты дзень —
кукуе без гнязда.

Прагнецца вясновага здарэння,
сэрца аж самлела ад чакання.
Нібы сонейка,
сястрыца Рэня
нарадзілася на звяставанне.

Хочацца ўчапіцца
ветру ў грыву,

каб імчацца ў свет —
абы-куды...
Тварам у прыпол радзімы —
ніву...
Прадвясновы ранак малады.

## НАІЎНАСЦЬ

Ходзіць сталасць
без хітрыкаў?
Не...
Ад нясталасці,
як ад граду,
уцякаю —
яна ўва мне
і няпраўду
прымае за праўду.



Думкі мае паляцелі
за летам у вырай.
Між рэбраў мастоў
тахкае Нёман выдрай.

Цемра — на шлях.
Спудзіла цемру-птаху.
Размова з людзьмі
ад размовы з сабой
адцягнула б увагу.

У галаве — крушэнне,
у галаве — галалёд.
Некалі тата сказаў бы,
куды мне падацца:
ці ўбок адкласці задачку,
на саначках пакатацца,
ці пашукаць рашэння
ноч навылёт...

Некалі Нёман
прарочыў хады-дарогі.
Мог быць адказам камень,
што скінула круча пад ногі,—
нават не спудзіў думак,
іклы драпежна шчэрац.

Як мне цяпер?
Куды?
Пачаць спачатку яшчэ раз?



Паэткам трэба зведаць
многа болю.
Ты шчодры —
маю ад цябе патолю.
Гадую боль
у покуце пад столлю.

Запоўніў болем да краёчкаў сэрца,
нібы яно кляновае вядзерца,
нібыта ў сэрцы
дубова дзенца...

Баляць мне
маладыя нашы словы.
Баліць нязбытнасць
юнацкіх мрояў.
Баліць душа,
што ты, белагаловы,
такі высокі,
знікнуў за гарою.

## ЧУЖОЕ ВЯСЕЛЛЕ

Чужое вяселле —
вясковым танцорам пацеха.
Пераапранаецца свет,
увачавідкі сыцее.
На кані заязджае ў хату.
Здае ўсе клопаты
свату.

Чужое вяселле!
Гармонік сцягне ўначы
з пасцелі.
Сярод пахмелля —
галодны — скачы.

Лаві вачамі
выпадковых воплескаў град.
Выпадковаю роляй
цябе надзеліць абрад.

Твае баяры-сваты
з шаластунамі з-за мора

не прыехалі на вараных.
У пляткарак няма размовы,
аб табе не гудуць
камарыкі на басэтлях.

Кавалер,
з кім ты скачаш полечкі
на чужых вяселлях,
у такт адгукаешся
на тахканне бубна-сэрца,
пазнаеш па дыханні
ў таямнічых сенцах,
не чакаеш на сцежцы,
якая вядзе праз грады
ў свет насміхання,
маўчання і здрады,—
як на чужым вяселлі
ці староннняй радасці рады?

* * *

Я за статкам
па няблізкім полі
і за гэтым
і за тым ішла.
Мы з табой не ўбачымся ніколі,
мы з табой сустрэнемся пасля.

Вецер на сівым папары летам
валасы твае,
як лён, паслаў.
Мы з табой убачымся са светам.
Мы з табой сустрэнемся пасля.

Будуць прадчувальна
нашы мацеркі
бедаваць.
Твая па мне ўздыхне.
Мы рассыпаліся, нібы пацеркі,
зноўку ў супрацьлеглай старане.

Патаемна па табе смылець
сэрцу,—
хто не дасць такога права?
...Як мяне не будзе,
ты паедзь
за гасцінец
і звярні направа.

* * *

Тут грудочак ціхага прыпыну,
шчырага вяртання ў забыццё.
Татачка, нашто мяне пакінуў
на такое светлае жыццё?

Люд вакол прыветлівы, харошы.
Многа буду цешыцца яшчэ
Прытуляюся да агароджы —
не прывыкну без тваіх плячэй.

## МЕСЯЦ

Пра малады жаночы сорам
успомню —
абальюся варам.
Яскравы месяц па-над борам
глядзіць тваім вясёлым тварам.

Над стромай цішаю нямой
мне з неба свеціць
месяц мой.

Іду ў халоднае прадонне —
спяшаюся за рэчкай Быстраю.
Маё цярпенне ў рэчцы ўтоне.
Скажы ты:
— Я масточак выстраю!

У спачуванне
рэчкі Простай.
Мяне лукой абніме Томба —
слязіна, праца,
тлум і стома.
А ты падоўжыш нашу ростань.

Паспачувае мне Граўжанка:
— З якой ты вёскі,
гараджанка?
На чарацінцы каля Грыўды
да сонейка зайграю з крыўды.

Дубы магутнымі рыўкамі
нахабна цягнуцца да зорак,
каструбаватымі рукамі
абняўшы сцішаны прыгорак.

А патаемны змрок маўклівы
пытае: хто я?
З кім я?
Дзе я?

Вясёлы месячык зычлівы
смяецца, вабіць
і не грэе.



Нарэшце выспелі брусніцы —
лясных выжарын завушніцы.
Збіраю завушніцаў гронкі,
звіняць званочкі
ў посуд звонкі.

Звіняць,
падскокваюць аб дзенца.
Забытая...
Куды падзецца?

А дзятлік спешліва дзяўбе
дупло — і схавішча
і посуд.
А я прыдумваю не помсту —
як прытуліцца да цябе.

Чаму б табе хоць не прысніцца
між спелых знічак-завушніцаў,
дзе дацвітае верас, мятлік,—
не мой
таксама ўвішны
дзятлік?



У летуценнях
вёсны надта сонечныя.
Наяве
вёсны абагрэты сончыкамі,
грамамі
і таўкачыкамі польнымі,
чаканнем радасці —
канікуламі школьнымі.

А хто быў ты?
Кім я была —
не помніцца...
Збавіцелькай тваёй
Была палонніца.

Загадак многа
пад цыганскім сонцам —
так месяц называецца,—
на моцным
сіберным ветры...
Вечар ці світанне?

Далёка захапленне
ад кахання?

Астудзіць вусны май —
каму паскардзіцца?
Няўжо адно на людзях
праўда праўдзіцца?

## ВЫПАЎ СНЕГ

Не паланіла
малойца
ў кватэры
ні бляскам вока,
ні смакам вячэры,
спрадвечным сродкам —
прысухай, варажбой,
мясцкомам,
ананімкаю,
кляцьбой.

...Зарэла.
Выпаў снег.
Па снежнай белі
паехаў.
Выстыў след.
Сляды пабеглі.
Лёс-коннік
зацугляў
вятры ў дарогу.
Званкі крыніц
замовілі
знямогу.
Здарожанасць
дашчэнту ласку зжэрла.

Ты — ува мне,
а я ў табе
памерла.

## ГОРКІ

За маем-небакраем горад Горкі,
куды студэнты ходзяць на вячоркі.
На палатніне возера абраз
красуні, марыў аб якой Тарас
з Парнаса... І святочныя бярозы.
Самотны барэльеф з халоднай бронзы
аздобіў сумам бібліятэку...
Хацелі з кніг фашысты паглуміцца.
Ды кніжнік ратаваў свой скарб ад здзеку,
спаткаўшы ў пыле пасярод вайны,—
прывёз у Горкі з горкай стараны,
паставіў зноў на родныя паліцы.

— Дзям'ян Раманавіч [1], дзень добры,—так кажу.
— На жаль, мы з Вамі не былі знаёмы.
Ды ў кожным, вернутым дадому, томе
чытаю і пра мужную душу.

Найперш душу імкнуўся вораг знішчыць,
імкнуўся вораг знішчыць нашу памяць.
Але адваявана кніга Вамі.
А ў кнізе лёс Тараса з Пуцявішча.

---

[1] Былы загадчык бібліятэкі Горацкай акадэміі Д. Р. Новікаў знайшоў у Германіі ў канцы вайны свае кнігі і прывёз іх у Горкі.

## ПЫТАННЕ І АДКАЗ

— Вашы яцвяжскія вочы
рассейваюць водбліск прарочы,
баяцца толькі ўдовінай ночы,
а той,
хто свет замарочыў
калісьці,
даўно...
Аднойчы,
хто ў прысак за Вамі
скочыў,
прад Вамі
на вечны спачын,—
не ведаў ён іншых жанчын?

— Ды калі б з іх
якую адну
сюды прыцягнуў
парог яго хаты,
расцалавала б яе.
Быў ён вартым,
калі не адной мне
сэрца крануў.

## ДАЧЦЭ

Сцяжынай
між нябёс,
кастроў
і крыг

ідзі,
мая дачушка,
ганаровай!
Сваціся
на вачах
зямлі суровай
такой жа,
нібыта ў вачах маіх.

## ШТРЫХІ СПРАДВЕЧНАГА

*Алесі Чарняўскай*

Сялянская хата.
Гасцінец не збіты.
Цвікамі дажджынак
прыбіта кастрыца.

Страха саламяная,
вогнішча бытта.
Вандроўных спытае:
— Вы брат і сястрыца?

У хаце жанчына
вазьмі ды ўрані:
— Шукайце паўсюль
сардэчнай радні!

Людзей прывучалі
ў сялянскай хаціне
да хлеба і солі,
нішчымнага духу

пад музыку сіверу,
пад замятуху...
Шчырэюць размовы
на шарай гадзіне.

Спрадвечнай
сястрынскай любові пачынкі.
Чарнявае прозвішча
светлай дзяўчынкі.
Бялявыя скроні
чарнявага таты.
Спрадвечныя сцежкі
ад хаты да хаты.

* * *

Прад навальніцай радасці не кленчу,
не слухаю развагі галасоў,
сукаю думкі ранкам і падвечар,
як серабро з кудзелі валасоў.

Або сапу, як стылая зіма,
штоноч пытаюся ў начнога неба:
чаму аб тым тужу, каго няма,
а хто заблізка, таго не трэба.

Ты сена б'еш у ёмкія пласты?
Як гром, свавольна льецца лівень смеху.
З твайго кутка не дакаціцца рэху
за трыста дзевяноста тры вярсты.

...Настрой злінялым вераб'ём са стромы
вясновай лужыны зрабіў нырца.

Няма калі дамоў забегчы —
Нёман
спяшае да найглыбшага канца.

І льецца воблакам светлагаловым
у два жывыя вадаспады рук,—
так неабходна пачуццё над словам,
цяпло вясны, каб заспяваў жаўрук.

## СТРАТА

Зайшлі за небакрай бяды абдымкі.
Гляджу я на цябе,
як на абраз,
нібыта бачу апошні раз...
Трымацца трэба,
не шукаць падтрымкі.

Трымацца, як трымаецца скала,
якую дзіка ўспененыя хвалі
стагоддзямі адчайна падбівалі,—
скала іх вытрымкай перамагла.

Збянтэжанае мора спыніць бег...
Як быццам засароміцца сябе.
Я — не скала.
Чым крыўдаваць, схілюся...
Апошні раз на вочы памалюся.

Мы развіталіся, каб свет нас бачыў.
Вядзе мяне пацiху між людзей

мой кожны дзень,
нібы апошні дзень...

Шукаць, каб ашукаць?
Ды, лепей страчу.

* * *

Да цябе,
як голлечка да сонца.
Горача малюся на зару.
Вусны зацалуй мае да донца.
Пакахаю,
восенню памру.

Нібы птушка,
як пчала на кветках.
Ты да крэсу.
Небыццё — наш крэс.
Ветрык з нівы
ў шэранькіх шкарпэтках
да мяне праз фортачку залез.

Зруйнаваў душы маёй пагоду,
збунтаваў спакой,
пазбавіў сну.
Сын усходу і дачка заходу,
паміж сэрцаў —
Беларусь адну.

Разам да апошняга дыхання
ў ельніку,
на сонечнай мяжы.

Песні — дзеткі нашага кахання —
на яе прасторах будуць жыць.

Песні — дзеткі,
словы — нашы ўнукі.
Спеў чароўны я не разбуру.
Да цябе працягваю я рукі —
абнімаюць рукі Беларусь.

Роднае празрыстае паветра
аж трымціць у целе і ўваччу.
Захварэлі безнадзейна светла.
Я дык папраўляцца не хачу.



Ды паддалася я ўгаворам —
возеру і зорам,
і андаракам белакорым
бяроз,—
аж думаць сорам.

## КРЫЧАЎ

І садралі скуру са звяроў,
нацягнулі на маіх сяброў.
У дзяцей і матак на вачах
ганчакі загрызлі Карпача.

Ставілі крыжы на раздарожжы.
Хто канаў,— таго тапілі ў Сожы.

На рацэ затор крывавых крыг.
Сож разліўся ад сяброў маіх.

Вешалі за рэбры на крукі.
Заганялі, змочаныя ў серцы,
пад пазногці чорныя пруткі
і падпальвалі — мы грэлі сэрцы
змучанай няпраўдаю зямлі.
Нас знішчалі.
Знішчыць не змаглі.

«Пакараў» народ мяне па-свойску —
растварыцца ў ім, а я не з воску.

І бабулі ўнукаў так вучылі:
— Як цябе спытаюць: бачыў, можа?
Ты адказвай: дзед і я — Вашчылы.
Тут Вашчыл, як рыбы ў тонях Сожа.

І дагэтуль мне не здрадзіў Крычаў.
— Ва-сі-лёк! Ва-шчыл-ка! — маці кліча.

## ВУСНЫ

Тваіх маёвых вуснаў
цаціва
з рукамі, вельмі спрытнымі,
ў хаўрусе.

Ты мог бы вуснамі
зацалаваць
жанчыну
з вечаровай Беларусі...

Відаць,
праз вусны
на той свет збяруся,
ад хмельных вуснаў
уяўленне раю...

Я іх у іншай
не адбіраю.
Я проста паміраю.
Паміраю.

## БАРБАРА[1]

Як там было папраўдзе
з прыгожай Барбарай?
Наваліліся на закаханых
зайздроснікі хмарай:
і кашталян Вільні
Рыгор Вяршыла,
і ваяводу Кракава
помста разварушыла,—
ад усмешкі жанчыны прыгожай
палітыка зблытацца можа!

Нечуваны на свеце выпадак —
сам князь і кароль
палюбіў і мужчынскае слова
стрымаў перад ёй.
Атруцілі Барбару,

---

[1] Будучы жонкай Вялікага князя Жыгімонта II Аўгуста, Барбара з роду Радзівілаў (1520—1551) схіляла свайго мужа да беларусаў.

ці так даканаў яе боль?
Не пад сілу змаганне
за край непрыручаны свой
у шаснаццатым веку...

Праз адно пакаленне,
калі Юры Хадкевіч у Любліне
стаў на калені
і Вялікаму княству
штылетам пырнулі пад бок,—
нібы выпіць далі
атруту вядзьмаркі Апёк.

А лісты закаханых —
узор беларускіх слоў —
захаваліся, іх перачытваюць
з розных нагод.

Можна ставіць гуртом на калені
безабаронных паслоў.
Але нельга паставіць
гуртом на калені народ.

## У СУСЕДНІХ КРАІНАХ

У шляхотных настроях — адліга.
На балотных абшарах — таксама.
Каралева Польшчы Ядзвіга
За Ягайлу выходзіць замуж.

З Вільні ехаў жаніх у Кракаў.
З ім вялікае войска і світа.
Паміраўся часова Вітаўт.

А за войскам крук чорны кракаў,
прадчуваючы,
што браты
не вязуць між сабой дабраты.

Шлях у Кракаў з Вільні кароткі.
Жаніха апярэдзілі плёткі:
крываваты, брыдкі і варвар.
Апаганіць паганствам Вавель.

Князь прыехаў пакорны,
скароны.
Гэтак мала прагнуў —
кароны!
Прад каронай паклаў на вагі
жмудзь,
Русь Чорную і яцвягі.

Нашы продкі на тым вяселлі
мёд пілі,
марцыпаны елі.
Прапівалі мову Літвы,
ды не прапілі галавы.

Бачыў позірк Ягайлы хітры
перамогу Грунвальдскай бітвы.
І як быццам ведаў сакрэт,
што ў сівыя часы і заўсёды
не кароны злучаюць народы,
а змаганне яднае свет.

## МІХАЛ ГЛІНСКІ-МАЖНЫ

З Турава выехаў зрана.
Апаўночы ў Гародню загрукаў.
Галава Забярэзінскага Яна
пакацілася каменем па бруку.

Хай папомніць здрадлівы ліхвяр
востры меч сапраўднага майстры!
Чые воі галовы татар
каля Ліды збіралі ў кайстры?

Заваруха між вяльможных пачалася,
як памёр Аляксандра. Магнаты
выбраць Глінскага маглі велькім князем,
ды ад зайздрасці пазбавілі улады.

Падсыкнулі Мажнога ліхвяры:
до іграць яму першую скрыпку!
Жыгімонт дабрадушны стары
абадраць дазволіў гетмана, як ліпку.

Быццам пад шчытамі Пагоні
не Мажны гарцаваў па абшары!
Як пад Клецак сталі крымскія татары,
запыніў ён варожыя коні.
І чатыры тысячы вояў,
нібы ў мех сыпануў — заняволіў.

Крыўда мучыла горай, чым рана.
Двух братоў — Васіля і Івана —
кліча бударажыць галоту
па ўсяму палескаму балоту.

Славы, незалежнасці прагнуў,
крывуляючы сцяжынай крывой,

родны край — невылечную рану —
заліваючы братэрскай крывёй.

Праз стагоддзі ўспамінаць непрыгожа.
Вось Шамячычам абкружана Ворша.
Ваяўнічы дух абкружанай Воршы
за сляпую нянавісць не горшы.

Хоча ў Тураў вярнуцца назад,
не жадае вялікіх пасад.
Перабежчыку даверу няма —
утаймоўвае гонар турма.

Як прайшло маладое тлумленне,
супакоіла старэчая пара,
памагаў пляменніцы Алене
гадаваць Івана Грознага, цара.

Ваяваў даўні род сам з сабой,
падбухторваючы люд на разбой,
сам сябе асудзіўшы на звод.
Неўміручым застаўся народ.

* * *

Гускі дадому лятуць,
адгавеўшы зіму.
Гускі ўсё ведаюць,
што адбывалася тут.
Вітаўт прыдумаў закон,
і згодна яму
сам над сабою
здраднік выконваў прысуд.

Здрада на гэтых прасторах
змяталася ў смецце,
часам праз плот пералазіла
квелай нагой.
Вітаўт не мог зразумець,
чаму гэта трэці,
не вінаваты ні ў чым,
павінен забіць хоць каго.

## ПА ДРОГКАЙ ГРЭБЛІ...

Паўночны ветах,
як абрыкос,
паволі коціцца
ўвысь наўскос
праз патаемны
абшар нябёс...
Па дрогкай грэблі
грукоча воз...
Я ручаіну
дзявочых слёз
знячэўку кіну
табе на лёс...
Вясёлкі хустачку
мне прывёз...
Па дрогкай грэблі
грукоча воз...



З неба сэрца твайго
на ясноту вачэй маіх
слота.
Палахлівая радасць
слязу праганяе пад спуд.
Не кахаеш?
Не шкода?

Між намі —
сняжынак яскрота,
неразбуджаны рогат
грымотаў...
А зоры маўчаць,
як на цуд.



Даруй пагарду
да твайго рамяства
таму, хто здалёк
адварочвае нос,
каму на вуснах яно —
як жарства,
хто да красы яго
не дарос.

Яно зачыстае на зямлі,
не для надзённых патрэб:
на ніве нябёс калі-нікалі
спее слова, не хлеб.

## НОЧЧУ ЧАРНІЦЫ СПЕЛІ

Ноччу чарніцы спелі.
Ранкам збіралі ў лубок.
Конікаў, птахаў капэлі
тлум адганяў убок.

Цешылі ногі надзеяй —
выпрастаць іх на мох.
Не мелі шчэ ліхадзеяў,
поўдзень нас перамог.

Пабеглі, не чулі сэрца,
падштурхваў імшаны дол,—
зачэрпнуць нябёс вядзерца,
высыпаць маме на стол.

## АЛЕНЬ І КОНЬ

*Ані*

У Сіцыліі гэта нагода была,
у Гімеры,
у пяцьсот шэсцьдзесятым годзе
да нашай эры:
каб адпомсціць суседзям за крыўду,
гімерскія гаспадары
запрасілі Фаларыса прышлага
ў правадыры,
паабяцалі яму баявую ахову.

Але слова даюць тутэйшаму Стрэзіхору.
Гаварыў Стрэзіхор:
— Покуль стогнем не ў паняверцы,

я аб спрэчцы аленя з канём
раскажу вам, гімерцы.
Каб аленя дагнаць,
конь папрасіў седака:
— Сядзь на мяне,
зацугляй, паганяй — тады даганю.
Перамагчы аленя
ўдалося каню.
Ды не злез і коннік з сядла,
цуглі трымае ў руках.

## ВЯРТАННЕ

Бы з кастрыцы,
зрэбнай завірусе
у палон аддамся,
не загіну.
Думаеш, прапала?
Не, вярнуся
назаўжды ў забытую краіну.

Помніцца абвострана,
бы ўчора,
бы са мной было,—
прачнуцца дужай,—
адглынуць з каўша
халодных зораў
і павандраваць у свет
за сцюжай.

Змрочную душу
ачышчу ўсё-ткі,
пабягу я да яцвяжскай цёткі.

Мне адолець нацянькі не цяжка
бор бязлюдны...
Пачастуй, яцвяжка,
сырадоем, чабаровым крыху.
Чары патаемныя затоіш.
Толькі ты яе
штодзённа доіш —
з дзікай пушчы
дзікую зубрыху.

Як усё заблытана да ўтомы!
Вінаваты мы прад тымі?
Хто мы?
Адрадзіцца як наноў?
Стаць тымі,
не прычэсанымі,
не святымі?



# VIII. УЗЛЯТАЕ ЗА ВЫРАЕМ ЛЕТА

* * *

Зноў пачалося свята.
Табой галоўка занята.

Як сцішанасць прагне буры,
так я кожнай клетачкай скуры
прагну цябе.

Пад сэрца
хлынеш гаючым ліўнем...

Непрыручаная
асачынка ў даліне
аб ногі пыскаю трэцца...

Яшчэ б з табою
паплаваць мне
на маладзічковым чаўне.

Яшчэ ў тваіх абдымкаў
звяне...
Але вяртаеш мяне.



Ты на лета пакінуў мяне
ў краіне,
дзе гром уваскрэс,
дзе ў таемным начным кургане
лесуноў не паніпічыў прагрэс.

На царкоўішчах,
што пад лясы
па паданнях за кару сышлі,
зноў званы на званіцах гулі,
чутны душаў жывых галасы.

На развалінах замчышча Крэва,
Мураванай Ашмянкі шкілеце
разрастаецца пастраху дрэва.
Як вужы,
забабоны па следзе...

Раскапалі Чарняўскі, Ткачоў
курганы, тайнікі,
сутарэнні.
Здані душ у цялесным істненні
у палётах начніц, крумкачоў.

Між стагоў перастпелай саломы,
утаропіўшы бельмы на месяц,
на палетках калгасных
заломы
спрытна ведзьмы, чаруючы,
мецяць.

Як страхоцце і звод праміне
між цвілых балацяных віроў,
як звядуць лесуноў,
ведзьмароў,
ці захочаш дрыжэць за мяне?

## АЕР

Глыбокае,
улетку ледзяное,
маўчання церла —
возера лясное,
зачаравана ведзьмамі спрадвек,
і не ўбрыкнуць яго
струмені рэк.

У калаўроце,
у крынічным коле
на хвалях не паплаваю ніколі,
рукою нават не хісну аеру.
Нячэрпанае возера даверу.

На роўным беразе
спакойна, ціха,
ні лодка, ні вясло не замуціла,
ніводнай крапелькі не пырсне,

не пральецца
з прадоння,
патаемнага, як сэрца.

А пры самюткім беразе лілея.
Да грунту цягнецца
чарэньчык па вярсце.
Сарві, аддай мне,
інакш змялее
з гадамі наша возера.
Расце...

## У ДЗЯТЛАВЕ

У Дзятлаве —
стаўкі,
сады.
На плошчы
домікі, як цацкі.
Мільгнуўся
нехта
забіяцкі —
кальнула ў сэрца:
гэта ты!

Штурхнула думка:
дабяжы!
Ды падкасіліся калені.
Той азіраецца
ў здзіўленні —
прыгожы,
ясны
і чужы.

## У СЛОНІМЕ

Колькі навокал таемнай красы!
Туліцца возера да Альберціна.
Я над вадою адна, як націна,
а за вадой на пагорках лясы.

Тут берагуць каралінскую ліпу.
Бачыў такую?
Крылатая ўся.
Нават вясла не пачуеш ты ўсхліпу —
ёсць забарона
лавіць карася.

Дрэвы магутныя мне спачувалі,
толькі ў дубоў запыталася ўслых:
як увасобіць
азёрныя хвалі
у глыбіню
пяшчотаў тваіх...

Бераг туману
пацягвае піпку,
сэрца вярэдзіць
дзявочы наіў:
раптам мяне,
як здзічэлую рыбку,
ты б, недасяжны, ў абдымкі злавіў.

Але галоўка задумана склонена,
ветах зярняткі-мроі дзяўбе,
Шчара і то раздваілася ў Слоніме.
Дзе ж гэты горад прыкліча цябе?

Але не ўкіну
каменьчык папроку
з мосціка ў Шчару.

Кажу:
— Харашэй!
Лісся ў свой Нёман
вольна, шырока.
Мне да свайго
дакаціцца цяжэй.

## ДЫЯЛОГ З МУЖАМ

— Пашыю каптан каляровы,
згатую смачную страву.
Сама адпасу каровы,
а ты здабывай славу.

— Навошта гэта штуковіна,
ні вопратка,
ні карытца?
— Павешу на крэйку ля коміна,
хай блішча,
пакуль закурыцца.

Гарачая цацка —
слава,—
як жыхне —
палае страха,
займаецца покуць, лава.
Мужык не згарэў траха.

* * *

З хмарай дождж развітаўся
і рад
зноў расінай на хмару зірнуць.
Кім азораны шлях мой,
назад
намагаюся марна вярнуць.

Як падвеска на промнях сонца,
не махае крыламі бусел.
Я развазе насуперак
б'юся
зноў вярнуць любоў ветрагонца.

## ДОСЫЦЬ ХАЛОДНАЙ ЗІМЫ

Досыць халоднай зімы
з поўначы,
з нетраў,
звыш.

Калі пакіне нямы
худзенькі цвяк-спарыш,
згару на сухім галлі,
як спелых промняў цюкі.

А па сагрэтай зямлі
з сявенькамі зор дзецюкі.

І слова маё, можа,
пасее малодшы брат;
на аркушы нівы град
маё дамалоціць збожжа.



Маладзікова.
Ягадна.
Клянова.
Двух сэрцаў —
двух сусветаў прыцяжэнне,
як быццам нарадзіліся нанова.
Як быццам
гэта мае прадаўжэнне.

Але не мае будучыні тое,
што будучыні прад сабой не мае.
Над іншымі,
хто ў сведкі ноч наймае,
хай злітуецца сонца залатое.



Узышоў з адчаю палыну.
Маладыя лозы
точаць лёзы.
Мне яго не выкупіць за слёзы,
я з-за слёз
такога не кляну.

А куды мне кінуцца цяпер?
Ён з ясноты,
з цемрыва,
са здымкаў...
Як засну ў экватары абдымкаў,
так разбудзіць поўначы сібер.

А навошта сонейка замгліў?
Не ўталіць без вуснаў
вуснаў смагі.
Перад ім сусвет
кладу на вагі,
а яго вагар —
аж да зямлі.

Як пярун, з'явіўся апаўноч,
быццам уцякаў ад непагоды.
Быццам не для ўцехі-асалоды.
А пасля —
і сэрца не мароч.

А з таполяў снегу намяло.
Мой паўдзённы тлум,
нібы пустыня.
Смутак не суцешаны —
не стыне.
Ці грымеў пярун?
Ці не было?

* * *

На забытым сонцам
азярцы,
да якога ты
выпадкам збочыў,
што табе
мае сказалі вочы?
Зблыталі пачаткі і канцы.

Нас абараняць
ніхто не згодзіцца,
ды з табой убачыліся мы.
Нават і гара з гарою
сходзіцца.
Мовай гутарыць
сусвет нямы.

Любы мой,
якія мы з табой
маладыя і зеленавокія.
Самалёты
скручвалі ў сувой
белых воблакаў
палотны волкія.

## МЯСТЭЧКА

Мястэчка, куды мяне закінуў лёс.
Не лёс...
Мужчына мяне завёз,
які мне вочы засланіў тады,
каб адпусціць так лёгка назаўжды.

Мястэчка.
Схоў маёй слязы салёнай.
Там хлопчык бег па вуліцы зялёнай
з партфелем.
Весела.
З канца ў канец.
Тырчаў за кожным вухам дзьмухавец.

На дзьмухаўцовым жывым каберцы
ля цэркаўкі драўлянай
з пеўнем куры
хадзілі.
Маладзіўся ранак хмуры.
А так бязвоблачна было на сэрцы!

На кладцы — не падскочыла з лагчыны —
мяшчаначкі пацвельвалі з мужчыны.
Вясёлы, богу невядома чый —
ён так марнуе сны мае ўначы.

Я не прызнаюся ні перад кім,
дзе, на якой слязіне Беларусі,
мястэчка, у якое не збяруся.
Чаму ж так думаць хораша аб ім?



Любы мой!
Сцяжынаю зямною
ходзіш — пругкі,
малады і ўпарты.
Будзь адкрытым,
праведным са мною,
з іншымі —
любові нашай вартым.

Мне, як шчырай кнігаўцы на лузе,
без расінкі прагнуць і марнець.
Што ні ўчыніш на жыццёвым крузе,
кожны чын твой дойдзе да мяне.

Вуснамі,
алоўкам,
чуткі стрэлам.
Сэрца
вымерае
меркай часу.
Дазваляю быць са мной нясмелым,
а з Радзімай смелым да адчаю.

Можаш свята нашае не ўспомніць,
не прынесці ружаў ці вяргінь.
Толькі не праспі ты
ноч-апоўнач
крокі ворагаў і варагінь.

За ракой, за борам, за гарою
пагасціць запросіць край суседскі,—
будзь заўжды маёй душы героем,
будзь сапраўдным,
як Максім Гарэцкі.



Што недазволенага я зрабіла?
Шчыра жыццё маладое любіла.
Пікамі пырніку грады прабіла,
покуль гультайства ў раку не ўтапіла.

Коп'і ялін шуганула ў аблокі,
шоламам неба зачэрпнула Нёмна.
Мары дзявочыя —
спрытныя лодкі —
за далягляд паплылі патаёмна.

Што забароненага я рабіла?
Хлопцаў любіла,
дзядоў не любіла.
На вечарынкі хадзіла не з братам,
не давярала сакрэтаў дзяўчатам.

Мала над кнігай вочы сляпіла.
Многа сяброў па дарозе згубіла.

Што неймавернага шчэ натвару?
Мала маўчу, зашмат гавару.
Бульбу на кашу перавару.
Колькі зацятых перасвару.

Што прыгажэй зрабіць я змагла б?
Чысценька я чарэнь падмяла б
венікам, звязаным з елчыных лап,
хлеба духмянага шмат напякла б,
каб жа вясковы дух не аслаб.

* * *

Конь гняды
валачэ гурбы хмар
праз дрымучай маркоты гушчар.

Конь стракаты
прымчаўся здалёк —
замятухаю свет завалок.

Ды яшчэ не цягнуў бараны
па мяжы нашай
конь вараны.



Не прывязаны,
не прыкуты,
ад мяне не ўцячэш нікуды —
ані ў кут глухі,
ні ў халодны край.
За мае грахі
і мяне карай.

Не карай мяне
падарункамі,
а гарачымі пацалункамі.

Не карай падазрэннямі
хворымі,
а ласкавымі загаворамі.

Пакарай мяне шчырымі слоўцамі,
каб не сохла
за іншымі хлопцамі.



Благаю ў думках «партызанчыка»:
— Сваёй спакойнасці пазыч!
Цалую сонечнага зайчыка —
такі пацешны ён, касы.

Луг наўкруга перабягаю,
за мной шчаня перабягае.
З разгону кідаюся ў Гаўю —
дапамагае...

Спагадліва спаткаю хмарку,
даверна ўскіну галаву,
у мроях да цябе плыву
за хмаркаю —
сяброўкай змалку.

На золку падхаплюся рупна
на лоў, на пошук, на вывед.
Твая патоля недаступна,
мяне прытуліць белы свет.

* * *

Ішоў
вясёлы дожджык
па шашы,
шліфуючы няўзнак
чарэшні, вішні.

І мы з табой
няўзнак
на дожджык выйшлі...

І як ты, дожджык,
мяне ссушыў.

## НЕ ПЕРАСКОЧЫЛА

Пазвоніць,
каб сказаць, як навіну:
— Ты пераскочыла
круцёлку не адну.
Жартую:
— А круцёлка —
мне не прыяцёлка.

А ён, блазнуючы,
далей чаўпе:
— А працавітая была пчала,
не пераскочыла, аднак, сябе,
сама сябе не пераскочыла.

Удзячна сябравай хвальбе.
Хоць прыкладзі мяне да ранaчкі.
Не пераскочыла, аднак, сябе,
а так старалася штораніўкі.

А можа, той мяне сурочыў,
хто сам сябе не пераскочыў?

А самалюбства-пустазвон
падштурхвае:
— Бяры разбег!
Як возьмеш спешлівы разгон,
то пераскочыш і сябе.



І гармоніі і хімераў
лёс мне шчодрай меркай намераў.
Я памерла раней,
чым памерла.
Думак мак
меле макаўкі церла.

І сяброўка нялюбая — стома.
І няхай я згару,
як салома.
Што паспела,
зрабіла свядома...

Боль каханага з'еў і мяне.



Бурай начы бусак
зоркі лушчыў, як семкі.
Ранак —
вясёлы гусак —
выцягнуў шыю з цемры.

Як на вялікдзень яечка,
пакацілася сонца ля хат...
Плыла заспаная рэчка
паміж тумановых шат.

Сачыў хлапчына ад раніцы
за ледзяною шыбай,
хітрыў з някемлівай рыбай...
Шкада —
намарна стараецца.

## ДУБЫ

Падставіў
дуб свой карак
на злосны буралом
ды ловіць вырай хмарак
маланкавым брылём.

Дуб
на раўнюткай далечы,
цыгарку з громам смалячы,
нагробшы хмар ахапку,
купае ў хмарах шапку.

Дубы
ў дрымучым гушчары
ў суках раструшчваюць вятры,
трымаюць навальніц напор,
сабой закрыўшы цёмны бор.

Прад бураю маўчаць дубы,
хмар выпускаючы клубы.

## НЯХАЙ

Звядуць мяне са свету ліхвяры,
мая нялоўкасць
і нехадульнасць.
Вачэй
зеленаватыя віры
яшчэ сагрэюць
тваю няўтульнасць.

Няхай
ты крыху да мяне ачах —
касцёр гарыць не доўга
там, дзе слотна...
Яшчэ пагрэешся
ў маіх вачах
знячэўку,
выпадкова,
мімалётна.

Мітусяніны,
перапалак —
страх.
Дык пеўнем ходзіш,
мовіў, што ты, што ты!

Пагрэйся
ціха ў маіх вірах,
не бойся загарэцца
ад пяшчоты.

## МІЛАСЭРНАСЦЬ

*Іры*

Кідаецца неяк памаленьку
з болем —
гэткі свет абарані!
Запаліла свечачку
Аленку
ў покуці
забытай дабрыні.

Нехта заблудзіўся
ў цёмным лесе,
праз парог круты
не пералезе.
Некаму
на сэрца стаў
мядзведзь.
Свечачцы на покуці
гарэць,

Бачыць аж за трыдзевяць
зямель.
Валачыць жыццёвы свой
партфель.
Не забыць туды пакласці
крошак
для гракоў,
сабак,
бяздомных кошак.

## СОН НАД НЁМНАМ

Зялёнага Нёмана
дужка надломана.
У стозе на выспачцы
можна і выспацца.
Між красак і зёлак
ясна ад зорак.
Маладзічок
пад правы бачок.
Закутаю карак
пярынаю хмарак.
Пакінуўшы рукі

вятрам на парукі,
пад паскам сцяжы
лёг і ляжы.

А Нёман падсцеле
хваляў бярэмя,
заліжа на целе
стрыжані стрэмак.
Сардэчныя болькі
прыцішацца толькі.

## ГЯРВЯТЫ

Над шызаю дымкаю
вячыстых крон
жар-птушка з казкі
бярэ разгон.

Адкуль над шпілем ранняя імгла?
Адкуль пад крыллем
сонечная млявасць?
Чаму такая пышная яскравасць?
Ніколі я прыгожай не была...

Любові перапоўнена азерца,
здавалася,
ужо ідзе на спад,—
у новай форме ўрэзалася ў сэрца
мячамі позняй готыкі Гярвят.

Дзе нашы продкі бралі
тую прагу,
адчай, адвагу,

а настрой які,
каб у блакіт пусціць такую птаху
і затрымаць імгненне на вякі!

## СПЯРША

Усё так высока было,
таемна, празрыста спярша.
Гуло — не шамрэла быллё,
цягнулася ў зоры душа.

Ад раніцы дзень не марнеў —
і працы, і шчырасці шмат.
А хлопцы любілі мяне,
а зайздрасць не грызла дзяўчат.

І быў рызыкоўны намер
звярнуць сама меней гару.
А што засталося цяпер?
І ўсё я да сэрца бяру!



А ты ад змроку давідна
да зор вачэй не падымай.
Мяне прыдумала вясна,
дык і цябе прыдумаў май.

Рачулка Волка робіць круг
і акаймоўвае далок.

Між бараноў у статку рух,
а мы любуемся здалёк.

Ідылія на жоўтым дне
між дробных ракавін, пяску.
З такой пяшчотай да мяне
трымціць любоў на валаску.

...Крычыць папера на стале.
Вярнулася.
Перамагу.
Імчыся, блізкі свет,
далей!
Дагоніць ракавінкі гул.



Я маладосць адправіла ні з чым:
не трэба больш вярэдзіць
мне галоўку.
Ты адбыла ўжо тут сваю радоўку,
стаміла...
Дай мне выспацца ўначы.

Але не расквіталася з вясной:
як з недарэкай, дражніцца са мной,—
мужчынаў выстаўляе маладых...
Як зіркне іншы — перахопіць дых...

Але не адпусціла б, каб прымела,
з вачэй каханых шчырае праменне,
каб сполахам таілася ўваччу
і грэла сэрца мне...
Чаго хачу!

## ШЛЯХ

Каля прысад, сяліб
шляхі пралеглі ўдоўж,
увысь,
ушыр,
углыб
таемнасці гадоў.
Нелітасцівы лёс
і шчодры —
не пярэчу —
нам падарыў сустрэчу
у засені бяроз.

Стагоддзі храбусцяць
праз небасхіл імглісты.
Кароткі шлях жыцця,
ды вельмі камяністы.

Па ім прайшоў Багрым
і Бурачок Мацей.
Знянацку мы згарым,
ды шлях не замяце.

За намі
чысты след,
і зорны небасхіл,
і не прадонне бед —
разгон вясновых крыл.

## ЛЯ ГЛІНІШЧАЎ

Я буду бульбачку капаць,
з такой старанлівасцю брацца,
як на вячоркі апранацца,
каб незачэпу зачапаць.

Насыплю поўны кошык бульбы,
а пра мяне ўжо б'юць у бубны.
Мяне нікому не шкада —
непаслухмяную дзяўчыну.
Я палюбіла, як вада
паводкай стромую лагчыну.
Я адкацілася паводкай
у завадзь бульбы і бабуль.

Лупі з вачэй
прамой наводкай —
схаваюць Глінішчы пакуль.

* * *

Імя,
што з каркання варон,
бы нагавор,
бы кара,
плыве ў мяне з усіх старон,
як дажджавая хмара.



Я пападала са сну
проста ў абдымкі да сонца,
мама з яго валаконца
ткала сцяжыну-вясну.

Тата на стромкай сасне
зранку павесіў калыску.
Рэха гайдала вятрыску.
Татавы рукі пры мне.

Пралася сонцава пража.
Бег па суровым чаўнок.
Воран быў чорны як сажа,
але канчалася ноч.

## РАЗВІТАННЕ

Любы, не шкадуй мяне так доўга.
Каб да сэрца сэрцам не прысох,
супыніўшы коніка гнядога,
адпусці на нёманскі пясок.

Вернешся гасцінцамі старымі —
церпкі і гарачы, бы віно.
Берагам,
што мы з табой стварылі,
стромым і лагодным заадно.

З туманоў далінаачкі-даёнкі
напаі світальнага каня.
Нашых чыстых рэк

разгон далёкі,
паміж іх — любоў,
нібы канал...

Развітання
золкае світанне.
Перад светам стоеным стаім.
Як маё з адчаю сэрца стане,
дык чыё так блізенька з тваім?

А табе ж губляць нічога нельга.
Сам ты для знаходак,
не для страт.
Ты, як вецер, як прастор, як неба.
Ты, які мне трэба акурат.



Да цябе праз ясені, праз клёны
вышлю зорным вечарам
праклёны,
каб тваё немаладое цела
ля маёй падушкі маладзела.
каб твае натруджаныя ногі
толькі ведалі ў мой бок дарогі.
Каб змярцвела непатоля рук,
як не блізка сэрцаў перастук.

Каб твае салодзенькія губы
ад маіх яшчэ пасаладзелі.
Каб з табой ад стрэчы да загубы
на духмяным сене маладзелі...



Ты непазбежным быў,
як свежы ранак,
каб не разменьваць
чыстай пробы дні
на медзякі парожняй мітусні,—
лунаць у гуле перуноў, маланак.

Катайся верхі
на ветры далечы,
сяброў шкадуючы,
сябе не хвалячы,
не вымаўляючы,
касцёр высокі палячы,
імя маё з гарачага сумёту,—
я не хачу, каб зносіў ты гаркоту.

Жартуй з дзяўчатамі,
заўжды ў гуморы.
Не ўспамінай мяне на абгаворы
ні з рэчкаю,
ні з кнігай,
ні ў канторы...
Украдкай паглядзі на нашы зоры.

## ЛЕТА

Спаць паклалася сонейка нашча,
не напіўшыся з вуснаў смагі.
Зацвітала лецейка наша,
ды даспець не хапіла адвагі.

Узлятае за выраем лета.
З розным выраем узляцім мы
па шляхах, па якіх Пічэта
перадумаў шляхі Радзімы [1].

Статкі свойскіх сцяжын
Беларусі
уцякалі з табой
ад мяне.
Праз цябе я купалася ў скрусе,
праз мяне ты купаўся ў мане.

Падсцілаў фартушок нам луг,
не скамечаны фартушок.
Ні Дзвіна, ні Нарач, ні Буг,
ні зацішак,
ні мох,
ні стажок.

Сэрца з болю адкрыта
прад светам,
нібы неба, як дождж ідзе.
Не ўсміхалася я гэтым летам,
нават гледзячы ў вочы вадзе.

Не злую.
Баязлівец статны
даў мне шчасця,
на колькі быў здатны:
падштурхнуў з сянец —
і маўчок.
Я сама знайшла грашачок.

---

[1] Вывучаючы гісторыю, улічваюць дарогі, па якіх ішло войска.

Лета з казкі хохлік украў,
павярнуўшы на пошукі спраў.

Праз дзядоўнік у Навасяды,
Трабы...
Ракаў...
Ганнопаль...
Сянно.
Утамлюся — на пень прысяду.
Дождж ці град, а мне ўсё адно.

Я заплюшчыла вочы, нібы
здатна толькі табе на арэлі.
Найцяплей твае рукі сагрэлі.
Па сцяжыне ўдваіх па грыбы.



Сны пра цябе
раздражніла, як восы...
Ты застраміў няўзнак мае слёзы.

Слёзы свае
наніжу на шнурок —
як светлячкі,
асвецяць мой кут.

Рой сваіх сноў
адпускаю знарок —
трэба ж нагнаць
на цябе перапуд.

## ПРЫТОКІ

Бацька Нёман з прытокамі
Моўчадзь,
Гаўя,
Вілія,
Ведзьмачка,
Рось!
Дайце кроплю вадзіцы,
каб змоўчваць,
як рыкае ў бярэзніку лось.

Як Бярэзіна, Іслач твая,
між сябровак палашчуся я,
жвір згарнуўшы ў канец ля шчакі,
як малыя плыўцы-хлапчукі.

Так я марыла ўдалеч цячы,
але з родных бароў не ўцячы.

І такія былі ў мяне мары:
на прыгорках ля Свіслачы, Шчары,
Верацейкі,
Краўлянкі
і Кляўкі
пасадзіць закаханых на лаўкі.

Абнімаючы Сіту ці Грыўду,
прасці шэрых дамоў верацёнцы
на клубок звечарэлага сонца,
покуль з поля кароўкі не прыйдуць.

Толькі Нёмну ў палон я здаюся —
Котра,
Чорная Ганча,
Данутся...

## МУЗЫКА

— Гэй, музыка!
Зможаш мне
на адной зайграць струне —
на вясновай баразне
або на мачтавай сасне?
— А чаму ж бы й не!
— А на белай тапалінцы?
А на тоненькай сцяблінцы?
А на сонечнай пылінцы?
— Нават на сухой скарынцы.
— А на вострым частаколе?
— Гэта мы маглі і ў школе.
— Выйдзе з дудачкі габой?
— Само сабой!
— А ці выцісненш напеў —
злога сіверу павеў —
з беспрасветнае слязіны
надвячоркавай часіны?
— Так!
І вымалюю ноты
беспатольнай адзіноты...
— А каб з неба, як пярун?
— Можна, ды шкада мне струн.
— А пра лютую вайну?
— Не... Хіба адну.
— А няспраўджанае штосьці —
пра любоў, якая ёсць...
Ёсць...
Прыходзіла...
Няма...
— Гэта спела ты сама.



# IX. КРАЮ МОЙ НЁМАН

## ЛОТАЦЬ

Далонь вясны пазалаціла лотаць
у тых Масцішчах,
дзе няма мастоў,
дзе аблачынка з чатырох пластоў
на дубе, як вяртушка, будзе лопаць.

Свет запалоніць золкім бездарожжам,
дажджынкі зловіць у малечы рот,
за белалобым воблакам прыгожым
памчыцца ў Нёман і разбудзіць лёд.

Вясёлы трэск і вухканне праніжа
ваколле,
што аглухла за зіму,
а сонца па закутках снег паліжа,
таму што надта горача яму.

...Пазнала, што зязюля налічыла.
Ані загадкі-зорачкі...
І ўсё ж
бяжыць сцяжынай памяці дзяўчына
па лотаць у даліну басанож.

Вясны бурлівай шчырая сяброўка
не ведае ні горычы, ні зла.
Рабенькая, што божая кароўка...
Не верыцца, няўжо такой была...

## ПАСТЭЛЬ

Бор вушкі навастрыў.
Сасны страла
у белы мякіш хмаркі прарасла.

У студні вечнасці
напіўся жораў-дзень,
у далячынь высокую ўзляцеў.

У студню ўціснуўся начны прастор,
там датлявае
вуголле зор.

Табун туману ідзе на вадапой
праз луг —
дзе подбегам, а дзе ступой.

Жарэбчык радасці
праз рэчку ўброд
пабег па лузе ранішніх турбот.

Вось едуць кленічы
на сухарэбрай клячы...
Спрасонку плача
ў возеры гарлачык:
на слімака падумаў — насарог...

Анюта ранняй птушкай
праз парог
цягнула скрутак світальных вестак
пра сны апошняй ночы і нявестак.

Навіны Ганна трактавала танна,
прымеціўшы:
— Анюта ўсё ж — не Ганна.

Раслі пад воблакі
ствалы дымоў,
а бусел неба крыллем абдымаў.

А цётка Броня
бразнула вядром —
аж воблачка кульнулася ўверх дном.

Размашыстай хадой адмерваў час
Кузьмоў Ігнась,
па прозвішчу Бакас.

Глядзеў на сонца бацька,
як прарок,
схаваўшы думкі пад казырок.

Аладкі,
нібы сонейкі, пячэ —
адна матуля ўходжваецца шчэ.

# КРАЮ МОЙ НЁМАН

Шлях маіх продкаў,
шлях прамяністы і Млечны.
Ловіць драчыных падлёткаў
вецер надрэчны.

Плача надрэчны рагоз,
слёзы жанчын не ўрадзілі...
Шчасны мой лёс,
Нёманам вечным праўдзівы.

Шчырыя сэрцы
не дакрануцца да здрады.
Тутака сенцы
адчыняюцца словамі праўды.

Неба сагнуў у дугу
зрок бліскавіц тваіх востры.
Бурай дыхнуць на бягу
Нёмана конскія ноздры.

Стромай над вірам
стану, любоўю замглёна.
Выбрала вырай
і адляту ў тваё лона.

Хмельны ад гулу паводкаў,
ты не змялееш ніколі,
шлях маіх продкаў,
шлях маёй споўненай долі.

# ЗАЦІШАК

Дзе ад суніц гарэў узлеску схон,
заняты таямніцамі, Антон
нёс прад сабою прыгаршчы суніц.
Узлесак не хавае таямніц.

Францішак замаўляў лясную цішу.
Наіўна з цішай раіўся Францішак:
вярнуцца зноў на ядзерны рэактар
або мастацтвам гартаваць характар...

Спакой даўно пастаўлены на кон.
Як сказ пра старажытныя часы,
разгадвае старыя абразы...
І развярэджвае душу Антон,
як задуменна стоіцца пахмуры
каля стагоддзем зніштчанай скульптуры.

З малых гадоў
настойліва, без спешкі
яны Радзіму абхадзілі пешкі
як валачобнікі ці музыканты.
Пасля паглыбіліся ў фаліянты.

Незамутнёнымі вачамі молада
глядзелі надпісы звана ў Моладаве.
Верш з эпітафіі, што ў Астраўцы.
Мастацтва ў Маларыце, Івянцы.

Стаіліся разгублена ў зацішку.
Аб родных цудах напісаць бы кніжку!
Ці бескарысна любавацца збоку?
Душа не напаказ любому воку.

## НА АДНАСЕЛЛІ

У вёсцы на аднаселлі
ўгамоніцца хваляванне
у сэрцы, нібы ў музеі
прад іконай замілавання.

Бачу абраз бабулі
праз сівую кудзелю гурбы,
якую прадзе на шпулі.
Сон праллю цалуе ў губы.

Матулі няма калі прасці
на вераценцы словы —
сячэ на дрывотніку дровы,
частуе зіму ў нашай хаце.

Здаецца, сціхае вецер.
Просіць Марыю матуля:
— Прагай да беспрытулля
заваблены ў свет мае дзеці.
Я — вечна твая даўжніца.
Пакуль намяце сняжніца
на стрэхі сумётаў латы,
вярні іх здалёк дахаты.

## ХАТА

Ружы здзічэлі:
калючыя, нібы шыпшына.
Крэкча таполя —
раматус ёй круціць сукі.
Хату піхае вятрыска,

да змораных працай глухі;
зляцелі вароты —
падбіла машына...

Але жыве наша хата.
У хаце — сям'я.
Дзверы пяюць,
усміхаюцца ясныя вочы.
— Мамачка, вырвуся з працы,
на свята заскочу!
Смутку слязіну змахнулі
хата і я.

Куры, і певень, і кошка
ад золку да смерці
могуць чакаць
непаседы-дачушкі зварот.
І распластанае цела
з ног збітых варот...
Але ў матулі і ў хаты
хворыя сэрцы.

Тахкае болем сцяжына
ад іх да мяне.
торгае частка душы маёй —
родная хата.
З-пад валасоў пасівелых
глядзіць вінавата.

Ноччу да цёплай сцяны
прытуляюся ў сне.

## ПАСТУХ

Жыццё штодня падкідвала гасцінцы —
вайну, каросту...
Іржавы грош.
Падбрыквала маленства на гасцінцы
бычком,
які гізуе басанож.

Але бадзёрылі здароўем золкі.
Калолі ногі, як іголкі,
зёлкі.
І не было спачынку каля статку —
штоміг ад шкоды кідаешся ў схватку.

Цішэў настрой мурожнага закутка,
падобнага да старажытнай казкі,
дзе, сонейкам накрыўшыся, Падласкі
жавалі жвачку і драмалі пудка.

Пастух быў не падобны да ляніўца,
гатовы ў бой з лапчывай чарадой.
Яго старанне білася ў дайніцах.
Яго прыпеўкі пеніў сырадой...

Сярод праднавальнічнай глухаты
над вухам стрэльне успамінаў пужка:
— Са шкоды думкі выганяй,
пастушка!
Ледзь не праспала поўдзень залаты.

## НА ЖЫЦЦЕ

Ты тут вандроўнік, лірнік і ратай,
і можаш на цымбалах буры граць,
і колькі хочаш спаць...
Матулін край!
І за яго не трэба паміраць.

Шумі з сябрамі шчырай талакой —
з дубровай, з паўнаводнаю ракой.
Ідзі, куды надумаешся, едзь.
І можна тут ад шчасця анямець!

І радасці ў дванаццаць верацён
тут напрадуць, пакуль ты маладзён,
на ўсе
тры тысячы шэсцьсот шэсцьдзесят дзён,
ад продкаў перададзеных жыццём.

Ці ёсць адвага, каб сябе знайсці?
Як сонейку за лесам не зайсці?
З душою лёгкай не паліць кастры
і не згарэць бяздумна да пары?

Я ведаю, што долі не шкада.
У маладосці любім гарачэй.
Шугае нафта колеру вачэй...
І мова, бы крынічная вада.

І гускі гагаюць не за гарой.
І дзэкаюць авечкі і бакас.
Акцэнт наш як радзіннае таўро —
перад людзьмі гавэнда выдасць нас.

## ГАЛЁШЫ

Па хісткай кладцы абы-куды
пабег, абы дабегчы да канца,
З нядобрым свістам птушкі са свінца,
сасмягнуўшы, дапалі да вады.

Не разумеў ты гэты свіст варожы.
Заплакаў,
бо згубіў свае галёшы.

Ды кладку з-пад здубелых ног не страціў
і дапамог знясіленаму брату.
Убачыў маці.
Расказаў пра страту.
Ды за галёшы не ўшчувала маці.

Ад возера паміж кустоў прагалы.
Прыпаў да бору шчыльнага сцяны —
знясілены, разгублены і сталы
пад змрочнай таямніцаю вайны.

Нямецкі самалёт гудзе іначай,
і птушак выпускаюць з самалёта.
Ад страху лёд становіцца гарачым.
Найлепш хавацца ў роднае балота.

Кроў асабліва яркая на снезе,
а на балоце — рыжае разводдзе.
Найлепш хавацца у сваім балоце,
хоць гразь у вайлакі і ў вочы лезе.

З балота вырас,
як лясны пагорак.
Вайна дагнала,
як было за сорак.

## БЕЗЫМЕННА

Пахавана дажджом.
Шчырым ветрам апета.
Абалонку душы
праглынула планета.
І прапалі сцяжыны
у прадонне сусвету.
Дзень наступны
яе не чытаў запавету.
Ды пакуль над зямлёй
ціхі золак не згас,
не стамляюцца кроны
расці ў беспрытулле
і расказваць палеглым
легенды пра нас.
І шукае ў рацэ
свой адбітак матуля.
І на свеце трывожным
спакою няма...
Сувязная ваеннае мае імя.

## ВОБЛАКАМ СНЕГУ

Дам нырца ў пясчаныя хвалі —
галінка надломана.
На чабаровы грудок
узыдзе скочка-зара.
Не замгляцца зялёныя вочы Нёмана.
Не астыне блакітная кроў Дняпра.

Будуць купаць маленства
начоўкі ліповыя Нарачы.

Настоена Свіцязь празрыста
на чарадзейнай руце...
Не ўсцеражэцца Кастусь,
пра найлепшае марачы,—
падставіць сляпой страле
дуб свае грудзі.

Сагрэе поле
з блакітнага лёну світка.
Шчаслівыя вусны
глынуць баравога пітва.
Са шляхоў Клімука — Кавалёнка
выткуцца два
паясочкі на скроні,
ад сонца намітка.

Спрытна падбрыкнеш зубрыкам
з маладога Жодзіна,
вымытая, што бабёр,
заўжды ў бягучай рэчцы.
Вушкі краіны —
нафтавыя вышкі Рэчыцы.
Вочы з драўлянай плахі,
у лёхах знойдзенай...

З роднага даху адпудзіць
няўдачы вясновы дым
і накіруе воблакі
па нябеснай вуліцы.
Воблакам снегу,
плёнам дажджу ў цябе выліцца.
Промнем барвовым сардэчніку
і пачуццём маладым.



Пад маладых цянёк бяроз
найшоў мой загасцінскі лёс,
нічога не было нібы...
І статкі — шчырыя грыбы.

Ізноў вяртацца мне куды?
У згадках скачуць каля хаткі
праменных ранкаў парасяткі
і парасяткі — жалуды.

Кірмаш сарочы, ні граша.
Ды зразумела я не ўчора,
што бедная кішэнь — не гора.
Багата бедная душа.

Жабрак збірае праз жыццё.
А мой світанак быў харошы.
Купаю памяць у раскошы
да дна шляхоў прайграных дзён.

Снягоў адталых ручайкі
ці пеўнікі збудзілі ранне.
Асуджана на пакаранне
раскручваць долі ручнікі.

# X. СЛОВЫ БУРАЧОК ЖЫВЫЯ ВЕДАЎ



## КАЛЯ ПОМНІКА ЯНКУ КУПАЛУ Ў ГАРОДНІ

Каб ні кропелькі дня
ў прорву ночы не ўпала,
наш інстытут засланяў
ад непагоды Купала.

У Нёмане коней купалі,
а стрыглі вушамі вякі.
Барвовыя гваздзікі
ахоўвалі думы Купалы.

Табе экзамен здавала,
настаўнік строгі Купала,

за слова, скарб шчодры наш,
стаяць да апошняга тыдня,
пакуль не ўцалее наўсцяж
ні ценю адпетага злыдня...

Куды растрачана дужасць?
Колькі я тыдняў праспала?

Да памяці Вашай бяздушнасць
не даруецца, Янка Купала!

## МАЦЕЙ БУРАЧОК

У Жупранах звоняць званы.
Ашмянкі плынь халадзее.
На чатырох вараных
вязуць Бурачка Мацея.

Якая высокая сіла
асвечвае сумны абрад —
сармацкі звычай ці сімвал?
Мужыцкі быў адвакат!

Ад Кушлян да Жупран
ціхія гоні ў скрусе.
З адкрытых сялянскіх ран
капае боль Беларусі.

На чатырох вараных
з чорнага шляху не збочыць.
А паабапал труны
гора аж слепіць вочы.

Колькі рабіў ён спробы
гора ўкінуць у лёх.
Чорнай хусцінкай жалобы
цень на пагоркі лёг.

Слёзы пад вейкамі шорсткімі
у дзецюкоў, бы ў дзяцей.
Стаў перад суддзямі жорсткімі
паверанын люду Мацей.

Скруціў ён сумную дудку,
балесна зайграў дудар
новаму веку пабудку
ад скляпенняў да хмар.

Сумленнем не пакрывіў.
У клетцы грудзей зацеснай
сэрцу не стала крыві —
яно захлынулася песняй.

Рванулася на прастор
шукаць новай праўды-спакусы.
Мацей Бурачок не памёр,
бо выжылі беларусы.

У душах сыноў, дачок,
ад веку памаладзелы,
едзе Мацей Бурачок
на конях памяці —
белых.

## ЖУПРАНЫ

Жупраны.
Адкрыюцца раны...
Раптоўна закрыюцца раны.

Жупраны —
са шпілем падвоблачным побач
падземны палац шасціграны.

Жупраны —
грудочак спакою вячыстага,
цемрай прыбраны.

Жупраны.
Тут бацька і брат.
У магілё тваёй сын Тамаш пахаваны.

Жупраны!
Змагацца пачаў Бурачок.
І суд не прайграны.

Жупраны!
Няроўна дзялілі,
далоў загрымелі тыраны.

Жупраны!
У чысты настрой апрануўся
народ абадраны.

Жупраны.
Світальныя песні паэта
на дудцы зайграны.

Жупраны!
Тут кожны яго зразумеў,
як даследчык старанны.

Жупраны —
узняты аратым руплівым
дзірван занядбаны.

Жупраны
мінулым, сучасным
і будучым векам абраны.

Свіраны,
Кушляны!
Жупраны!
Нябыт пакараны.

## У КУШЛЯНАХ

Міхаіл Сямёнавіч Ляпеха, падводзячы рыску пад сваім васьмідзесяцігоддзем, пасадзіў каля каменя памяці Мацея Бурачка шэсцьдзесят дубоў вясной 1983 года.

Узышлі паэтавы гады
у кушлянскі вечар малады.
А на кожным дубе ёсць гняздо,
а ў гняздзе пяе віхураў сто.

Між лістоты сонейка дрыжыць,
на галінках думку падкідае:
мова наша родная — святая,
чыстая адзежына душы.

Шэсцьдзесят увысь напятых струн
ад вайны, ад мору, ад паветра
ў цень імшаны спавілі валун
памяці вялікага паэта.

Аксамітам зеллечка засланы,
удумліва ўглядаецца ў блакіт...
Вось прыходзяць ворагі ў Кушляны
і кладуць пад камень дынаміт.

З-пад ляснога каменя ў бязмер
узлятае рой старых папер.
Доўга пабіралі іх дзяды.
Шчэ далей схавалі, назаўжды.

Сейбітам тутэйшым трэба вершы,
што пакінуў ім жа свой паэт,
але трэба, каб хто іншы першым
тыя вершы перадаў у свет.

Словы Бурачок жывыя ведаў,
як Радзіму ратаваць ад бедаў.
Выдыхае словы — замаўляе:
«Не вялікая, не малая,
не чырвоная, не чорная... а белая,
чыстая: нікога не біла,
не падбівала, толькі баранілася...»
Толькі роднай песняй засланілася.

Песню і на камені зайграй,
«як зярно ў гарэху»,
родны край,
у жывой шкарлупіне палёў,
«...дзе Гародня, Менск і Магілёў...».

## ПАМЯЦІ МАЦІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Марыі Апанасаўны душа
малодшаю нястомнаю сяброўкай,
паўстаўшы перад гродзенскім барока,
калі размыта вечнасці мяжа,
вясною непрылашчаных, гаротных
вядзе па ціхіх вуліцах Гародні.

І я, жывая, крочу за душой
Максіма Багдановіча матулі
так безнадзейна, што не прытуліць
мяне дзявоцтва горад мой ужо
зялёным голлем дрэваў,
іх садзіў
юнак, які знарок мяне будзіў...

І перад ім, такім калючым, мілым,
я, стрыманая, не ўтаю маркоты,
што гродзенцы не берагуць магілы
Марыі Апанасаўны Мякоты...

## СЯБРОЎСТВА

Балацяногa зелля хмельны верад
зачараваў тутэйшыя палі.
І Багдановіч, і Зоська Верас
зачараваны песняю былі.

А доля неласкавая гаворыць:
— А я сяброўства ваша пераб'ю.
Хай «верабей» палечыцца на моры!
На моры Чорным блага «вераб'ю».

Так безнадзейна блага маладому
у дваццаць шостую сваю вясну.
Не мае сілы даляцець дадому,
каля магілы матчынай заснуць.

Нязручны і нястрыманы, як мора,
згарэў знянацку ў поўдня на плячы.
Дваццаты век прад ім —
дужэйшы вораг —
грымеў вайной, сухоты не лячыў.

Змагацца за жыццё не стала страху.
А навакол — ні сваякоў, ні мілай
матулі... Здзірванелаю магілай
Гародня кліча да скалчэння шляху.

Засушаны сухотамі сынок
ужо не даляціць да родных ніў.
З тугі, з надзеі, з роздуму «Вянок»
усе грудкі заўчасныя абвіў.

У крыж пераўвасобіўся пахілы,
каб ім Радзіму абнімаць здалёк.
Не прылятаюць з выраю магілы.
О, боль грудзей — блакітны васілёк!

## РАКУЦЁЎШЧЫНА
## 23 ЧЭРВЕНЯ 1985

У Ракуцёўшчыне зранку ўрачыстым угоднікам
шчырых сяброў Максім Багдановіч збірае,
вабіць крынічным напевам роднага краю
на саматканы дыван з чабару і расходніку.

Хлопцам з русявай чупрынай з'явіўся нанова.
Стаў супраць сонца
і вымавіў роднае слова.
Роднае слова выказаў сэрцам на споведзь.
Родныя сэрцы крынічкай Максімавай поіць.

Кліча зязюля Максімава госцейкаў зранку
выйсці на ўзгор'е ў краіну святочную — бранку.
Так размаўляе з вачамі жалеек і жнеек
шчыра, тужліва, сумна і сцішана неяк.

Не разыходзяцца госцейкі і на сутонні,
быццам баяцца чабор і расходнік прымяць.
Слухаюць разам: «...лятуць і лятуць тыя коні,
срэбнай збруяй далёка грымяць...
не спыніць, не стрымаць».

Дуб, да якога вуха прыкладваў і ён,
чуў нашы крокі праз лецейкі семдзесят тры,
ў шапцы сваёй пракаветнай трымае вятры,
каб адпусціць іх за сынам сваім наўздагон...

У Ракуцёўшчыне ў поўдні Максімава свята.
Вершы чытаюць чытачкі з палёў і лугоў.
О, беларуская мова з песенным складам,
з песеннай доляй Максіма,
жыві за яго!

## ШЫПШЫНА
## ЯДВІГІНА Ш.

Казачнік перад адлігай
куст пад акном пасадзіў.
Цётачка з «важнаю фігай»
міма ішла ад суддзі.

Спіць Беларусь з надвячорка,
плачам, бядой пранялася.
Не загарэлася зорка
долі Луцэвіча Яся.

Ножкамі цэўкі сукае
купалінaчка-немаўля.
Каля дзяўчат паблукае —
і ўскалыхнуцца здаля
звонкая скрыпка сцяжыны,
болю крынічнае дно...

Досвітак белай шыпшыны
цешыў надзеяй акно.

## ГАЛЬЯШ ЛЕЎЧЫК

Пытанне з мінулага ў яву
вяртае, ледзь вочы заплюшчу:
чаму ён уцёк у Варшаву,
а не ў Налібоцкую пушчу?

Чупрыны капа...
З дабратою
на нас пазірае — лагодны.

Лячуся яго прастатою.
Пяе ва мне «Чыжык» ягоны.

Між часу — ніякай заслоны.
Купала прыехаў у Слонім.
Заходзіць да сябра на каву...
Чаму ён уцёк у Варшаву?

Партрэт з маладой Зоськай Верас
прад першай сусветнай стыхіяй,
калі гартавалася вера
да роднай зямлі настальгіяй.

...У жаўранкаў лёс на скрыжалях.
Разбураны гнёзды без жалю.
На душы паэтаў аблава.
Схавала без вестак Варшава.

## ЗАПРАШЭННЕ

Жадаю, не сакрэт,
з табою без ніякае прычыны
на дзень ці два
паехаць да жанчыны,
якая ў нас адна на цэлы свет.

Ад страху адзіноты па начах
паставіла пад лаваю сякеру
і духаў запрашае на вячэру.
Дух продкаў тоіцца ў яе вачах.

Заслана тканаю дзяружкай лава.
Там Багдановіч — найшчырэйшы госць.

На покуце Рагнеда і Прадслава.
І нам адведзенае месца ёсць.

Хто слову служыць,
там бываў не раз.
Да той жанчыны, мудрай і прыгожай,
даеду ў замець я, у бездарожжа...
Якая ёсць з'яўлюся, без прыкрас.

## ХАДЫКІ

Алег і Юрка — файныя Хадыкі.
Сярод дзяўчат вучонасцю вядомы.
А я Ўладзіміра гартаю томік
у баразне самлелай бульбы-дымкі.

Як з дзіцянём,
як са старэйшым братам,
пагутарым праз ростань:
а ці варта
ісці да праўды, чыстай, як сляза,
каб мне сцяжыну слова паказаць?

Выходжу ў свет — ягоны след відзён:
бунтарскіх дзей бурлівая рака.
У кожным шчырым парастку радка
хвалюецца душа імклівых дзён.

Дзіўлюся ў вочы
з далечы гадоў...

Маршчын сцяжынка збягае ўдоўж
між броваў,
а наіўнасць у паглядзе...

Салома валасоў, якія гладзіць
жанчыне ўдосталь не давялося.
Але высокае жыццё ўдалося!

## У МЯСТЭЧКУ

У мястэчку, дзе мошчаны брук
абмываецца стужкаю плёсу,
мне мой даўні бывалы сябрук
уявіўся даверaным лёсу.

Меў задум, бы зярнят спелы колас.
На шчыце ваяўнічасці, ў модзе,
у семдзесят нейкім там годзе
ён паклікаў:
— Хадзі на мой голас.

Ён падумаў пра цемру і кладку —
голас выведзе з цемры па кладцы...
Я — пра сцежку сваю ад пачатку.
Непадробны,
не дасць мне мыляцца.

Голас меў трапяткі, малады.
Мне такога на шчасце хапала.
Але знакам планіды заўжды
несмяротны быў Янка Купала.

Усміхнуся — прыпомню нагоду.
Але ж сорамна думаць пра тое:
нецярпенне маё маладое
зблытаць з прагай служэння народу!

Адчуванні жаночыя будзячы,
каб шуканняў настрой не патух,
спадзяюся на радасць у будучым,
ачышчаю мінуласцю дух.

## САЛДАТ

Вазьму шурпаты каласок
на чуйным провадзе саломы,—
і адгукнецца мне здалёк
мой продак — сейбіт незнаёмы.

*Аляксей Пысін*

Я ў гасцях у цябе ўпершыню:
адгукніся на провадзе жыта,
сеюць жыта якраз у раллю,—
толькі зыркім радком адкажы ты!

Можа, нехта няпраўды наплёў —
спіш, бо вершы складаліся ўчора.
Так вяснова пяе Магілёў!
Без цябе не ўяўляю твой горад.

Заманілі дамоў пабрацімы,
з вёскі Буды твой друг Іван-чай...
Усміхаўся з партрэта, маўчаў
на грудочку маёвай радзімы.

Пазіралі з-пад муру з журбой
на жывых вірлавокія скочкі.
Я і сябра твой думалі моўчкі
кожны праўду сваю прад табой.

...Гаркату зніме праца і вёрсты,
покуль сілы стае — атакуй.
У пяра, бы ў штыка, кончык востры —
адступай, не ступіўся пакуль.

Самабытныя думкі, як дзеці:
дзе відней,
там ім дыхаць вальней.
Так ісці ім па мірнай планеце,
як салдаты ішлі на вайне.

## ПІНКАВІЧЫ

Маладую журбу тваю, Костусь,
што на змеевых воках,
аблоках,
на відомцах, пажарніцах, вострых асоках,
касачах і вятроўніках горка настоена,
шылахвосткі, крыжанкі
разгалосяць да Століна...

Духоўныя скарбы без кошту.

Патанулі сляды твае, Костусь,
у Прыпяці, Піне, чортавых воках.
У сэрцах нашчадкаў ясней.
Атрымала юнацтва бунтоўнага пошту:
«Спакойна і павольна,
як у зачараваным сне...»
Прытуляецца Прыпяць да Піны.
Напрасткі праз балота з Пінска
уцякае ад Піны Прыпяць,
каб пасля нагбом яе выпіць.

Карчавальнік, бульдозер-бульдог, кустарэзы,
бароны, плугі, балотныя фрэзы
па куп'і, па карчах,
па рачулках, па лесе.
Але моцна трымаецца нораў Палесся.
Вышываны вясёлкавы ўбор
апранае Палессе святам.
Не носіць крамнага корту.
На адмежніку дуплаватым
выцінае запеўкі азёр
на маўчанне тваё, Костусь.

## ЧАРАЎНІК

*Янку Брылю*

Вясной на ранку
грэла сонца ярка,
сустрэўся чараўнік тутэйшы
Янка,
у рукі пужку,
пад ногі —
шляху стужку,
апырсканую ў шчодрую расу,
паслаў за статкам
мяне, пастушку:
— Пільнуй, не пагубляй...
І я пасу.

Драбнюткай макулінкі
не змарную.
Не дам ні слоўка
на зубы воўку.

Узяўшы за руку,
нібы малую,
вядзе.
І статак не спускае з вока.

## БЕЛАЕ ВОЗЕРА

*Ніне Мацяш*

Асцярогу —
пад колы на брук.
Грэе кола даверлівых рук.

Сяброўкі рука схуднелая
кліча на возера Белае.
Надзея ў засмаленым чоўне
начуе на возеры Чорным.

Завушніцу-вясёлку-воселка
з прадоння Чорнага возера
зачапіла,
гукаеш да берага
тых, хто ўладна асвоіў
Белае...

Ад лазінкі святла
летуценняў кругі.
Як знадобіцца плысці
па адным і другім,
навучылася ты, вучоная,—
з Чорнага ў Белае,
з Белага ў Чорнае...

## АДАМ МІЦКЕВІЧ

«Дзяды» чытаю,
нібы адпіваю
вясну, што знікла
ў мураваны горад,
наіўнай вёскай не ўталіўшы голад...
Вярэдзіць сэрца досвіткавы голас
матулі ці Адамавай Марылі.

Яго выгнаннем і мяне марылі...
Яго бяздомнасць —
мне ў воку парушына...

Цялятка ў шкодзе:
— Куды-ы, Гражына!
...Даруйце мне такое панібрацтва,
яно ад любасці, ад сэрца, ад сваяцтва.

...Балоты, непраходнасць, бездарожжа,
тутэйшых іваў
ільняная світка,
з карэнняў і хлудзін зялёных
кошык,
напоўнены вадой крынічнай,—
Свіцязь!
Дзівосны Нёман, Плужанскі бор,
муры Наваградка
калышуць боль
Міцкевіча,
нягледзячы на лёт
зямных падзей, паходаў і маркот
людскіх,
нягледзячы на рознасць
сястрыных моў,
свіцінца роснасць

даўнейшых вобразаў...
Расінка з дрэў,
што лашчылі яго
шурпатаю карою,
калі спакой свідруюць думкі роем,
тужліва выдыхаю нараспеў:
— Літво!
Ойчызна моя!
Ты естэсь як здрове...

## ЗЯМЛЯК

Хто не знішчаны, той у палоне.
Апраўдаюць паўстанцаў вякі...
Выпраўляўся Гарэцкі Антоні [1]
з нашых Біскупцаў на Салаўкі.

Прад вачамі ад слёз павалока.
Купка хатак дымілася ў доле.
Выпраўляліся Біскупцы ў поле.
Поле мелі за грэбляй далёка.

Чысты аркуш паперы дастаў.
Здаў да скарбу за грэбляй палоскі,
а загоны свае каля вёскі
працай стомленым людзям аддаў.

Сто і з лішкам вяртаецца зім,
і на родных загонах адліга.
З рук у рукі вярталася кніга.
І яе зачыталі зусім...

---

[1] Антоні Гарэцкі — польскі паэт, удзельнік паўстання 1863 г.

## ВЕРШ З ПРЫСВЯЧЭННЕМ МАЦЕЮ ЮЗАФУ КАНАНОВІЧУ

Пасцялю на сустрэчу з родных кросен дзяружку...
Ды дзве просьбы шчырэлі ў гасціне найперш:
— Напішы верш пра пана інжынера Касцюшку!
Напішы мне, Данусю, з дэдыкацыён верш.

Сябра Мацей!
Любоў затуманьваюць вёрсты.
Правярае душу пагранічная варта.
То ж у Лодзі згубіліся маміны сёстры.
Я знайшла сабе ў Лодзі духоўнага брата.

Між суседак-краін не заўсёды ўсё гладка.
Прагавітасць да ўлады — то мір, то вайна.
Тут граніца зыбалася, ды дашчаная кладка.
Ды любоў і нянавісць у сяброў тут адна.

І плывуць непадзельна і Нёман і Шчара.
Непадзельна вітаюць Гародня і Лодзь.
І Марачоўшчына, бы юнацкая мара...
І ты мне насустрэч на граніцу выходзь.

Пакуль на дасвецці натхняюцца птушкі.
Покуль неба ў зары, выбягай, бы студэнт.
Абвіла ўсю планету алея Касцюшкі...
Плешча Свіцязь Міцкевіча на кантынент.

На пачатку вясны сэрца выбухнуў кратэр
у высокае неба людской дабрыні.
Сон птушыны узнёс цябе ў Кракаў...
Узляцеў за Касцюшкам на белым кані.

## ПЛАЧ ЖОНКІ МІХАСЯ ВАСІЛЬКА ГАЛІ КАСЦЕВІЧ

Шлях нечакана завершым
у чыстай зямлі...
Што ж тваe вершы
хваробы не перамаглі?

Буйна цвілі медуніцы
на беразе Котры...
— Тата, дазволь ажаніцца
з Галяй, што сушаць сухоты.

Ды ад сухотаў
мала лякарства пяшчотаў.
Мала і песні гаротнай
сямейцы галоднай.

Ды на маім пахаванні
перад вялікаю бітвай
песні змагання
на вуснах засмягнуць малітвай.

Я ж на твой шлях праз няволю,
праз безнадзейнасць пакут
вытку загончык, як долю,
слязой апяку.

Родны наш кут
пазарастае быллём.
Палкамі люд
б'юць, называюць быдлём.

Уберажэ цябе праца.
З фашызмам да дня

пойдзеш змагацца.
Смерць забяру я адна...

Горка чакаць, што зарана
цвікамі труну заб'іцё...
Горка, што песня зайграна
шчырая на забыццё.

Верыць зусім недарэчна,
што даляціць да аблок.
Ды застанецца навечна
жыта і ў ім васілёк.

## ДА ЦЁТКІ НА СТО ДЗЕСЯТЫЯ ЎГОДКІ

Грайкі, цымбалы
сэрцам зайгралі пабудку.
Цётчын «Гасцінец» асветлены ясна «Лучынкай».
Цётка паўстала з нябыту
ў вянку з незабудкаў.
Церні ў вянку...
А Цётка, нібыта дзяўчынка.

Колькі ў абліччы яе
хараства і пяшчоты!
Востры насок і постаць, бы скрыпкі струна.
Сушаць гарачыя Цётчыны грудзі сухоты.
З тыфам у Новавілейцы да скону вайна.

Цётцы, нястрымнай і лёгкай, быць песняй выгодна?
Родных пляменніц лёс каля крыжа сабраў,
дзе не магіла, а на змаганне паходня...
Толькі прыпынак малы між змаганняў і спраў...

Гляньма на неба — зорамі вышыты ўбор.
Луг крышку ў дол увагнуўся ад спаленых зор...
Цётчынай зоркай сагрэты заўжды Стары Двор...
Доляй бабуль нашых чысты спрадвечны прастор.

## ЗОСЬКА ВЕРАС

У гняздзе жаўруковым адчынены весніцы.
— Зоська Верас, дзе Вашы сяброўкі, равесніцы,
што пра песні і зоркі падумалі ўслых?
Давайце наведаем іх.

З-пад страхі, як з-пад крылляў радзімы, святло
у чацвёртым калене да сэрцаў дайшло.
Ад юнацкага вогнішча жар не патух,
загартоўвае моладзі дух.

Зоська Верас выходзіць з гнязда жаўрука,
і кавенька пільгрыма ў спрадвечных руках,
і радзімае зеллечка ходнік ёй тчэ,
і нябёсы яе не прымаюць яшчэ.

Клеплюць косы спрадвечныя ў небе касцы,
каб касіць на сутонні нябёс паплавы.
Каб звязаць у вузляк двух стагоддзяў канцы,
Зоська Верас і, хто ў яе сэрцы, жывы...

Багдановіч Максім і Гарэцкі Максім
і Купала... Хоць не спатыкалася з ім.
На адзіным агні беларускім гарым.
На высокай пасадзе стаім.

Адзінокіх падвесці да іх цемнаты.
Памаліцца, каб неба ўзяло.
Паясочкам накрыж пажагнаць іх лісты.
Напісаць пра іх некалькі слоў.

Зерне кінута шчыра на долі загон.
У Гародні Ваш «Колас...» даспеў.
У мурах Батароўкі шчэ цепліцца спеў —
беларускай гімназіі плён.

Вы фасолю пасадзіце на скразнячку —
хай касуля пашчыпле струкі.
Са сталіцы збіраюцца у саснячку,
каб запоўніць душы скразнякі.



Зрэдку мроіцца дзёрзкі на від
са шчытом Гарадзенскі Давід.
Быў у плечы штылетам забіты
прадажнай душою са світы.

Як здзічэлыя, выйшлі з лесу.
Што вядома пра нас — варта жалю.
Хто не вывучыў продкаў лёсу,
той сучаснікаў не паважае.

Абыякавыя да даўніны,
не ашчаслівім нашчадкаў.
Але скарбы дзедаўскіх спадкаў
берагуць за душой курганы.

## КАСЦЁР

*М. К.*

Узляцеў у нябёсы касцёр.
Крылле сполахаў распасцёр
пад аблокі маёвых фарбаў.
Наша сэрца — ахоўнік скарбаў.

Не парадаваў іскраў град
цябе, мой па духу брат?

Апрытомнеў зноў краявід.
Уваскрэс наш касцёр, як прывід,
на кап'і алоўка, у пальцах.
Толькі памяці свечка паліцца.
На жалейцы душы іграе.
Не даклічам грачынай зграі,
што ў паддашшы грэлася ўночы.
Прыб'ецца да іншага краю.

Уцяклі ад памяці продкаў,
што дабро бераглі на запас.
Як рукой дакраналіся сподкаў
і жагналіся, верылі ў нас,
што з паддашшаў сваіх без прычыны
не разгонім вырай грачыны.

* * *

Што ты надумаўся мне падарыць?
Вылепі цемру знарок на двары.

Вылепі горад наш з гліны чырвонай
і прынясі мне за пазухай

з дзікай альтанкай,
табой зачарованай,
з грушкай, засушанай насуха...

Новых завулкаў не натвары.
Вылепі з памяці,
мне падары.

Вочы твае прамянеюць вясной.
Хай бы мне пець захацелася зноў
у вечаровай тваёй цішыні.
Вылепі свет,
жыццё ў ім вярні.

## У ДОЦІШКАХ

Зацвіў, нібы сто дваццаць год назад,
у доцішскіх далінах белы май
і белы сад і ў ім дзіцячы сад,
а Бурачка і ў Доцішках няма.

Не стукаюць набіліцы красён,
якія ткалі світку дудару
і патыка́лі бураю зару...
Але народ запамятаў усё.

Не зніклі песні, што пяяў калісь
для нас на дудцы пасярод начы...
Алесь паціху дудачку ўключыў —
і песня-думка паляцела ўвысь.

Выводзіць чыстым голасам Алесь,
і падпявае рэчанька-дачка.

Мужчыны песню ведаюць...
Але
няма між іх Мацея Бурачка.

З выгнання ён вярнуўся. Не памёр
на стыку двух вякоў. Яго пара
заўсёды...
Але як спявае хор?
Ці ў лад з настроем сумным дудара?

Той песняю-душою не крыві!
Хоць трэсні, ды не кідайся ў адчай...
І як не стане, сапраўды, крыві,
знайдзі Алеся,— гранне не канчай.

## СЛОВЫ

Веру словам —
дзіцячым слязам,
што кладуцца на сэрца цяплом.
Можна словам смяротна ўкалоць.
Легкамысным паколешся сам.

Словам чыстай крыніцаю плыць,
у птушыных звінець галасах.
Паспрабуйце на словы злавіць
кракадзіла ў тутэйшых лясах!

Не занось у захмарную высь...
Камяком у грудзях не замры...
Быць я марыла словам калісь,
што загоіць пакуты зямлі.



# XI. НЕСПАДЗЯВАНКАМІ РАДУЕ ЛЁС

* * *

Як гушкануць мяне, не модную,
вачэй шчаслівых каруселі:
між горада — раку маркотную,
каля ракі — як на вяселлі.

Слязы адчыненыя весніцы —
хай птаха-бура залятае.
Заглядваюць святыя грэшніцы —
замоўлю грэшная святая.

Мяне, нібы шрацінкай граду,
пратне чужая таямніца.

Што ў каляровых снах сасніцца,
прыму за праўду.

Праз недарэчлівую змору
спраў да канца не давяду.
Але за песенную мову
я спражу сэрца на ляду.

## ПРАГУЛКА З БОНКАЙ ПАД ДАЖДЖОМ

Шчэрыцца з гушчы галля
гром ненажэрны, галодны.
Хораша з Бонкай гуляць
па старажытнай Гародні.

Хораша чыстыя вулкі
ніткай дажджу цыраваць.
Грому спякотныя вусны
будуць дамы цалаваць.

Дождж палівае,
нібы з карца.
Бонка дае са стромы нырца.
У хованкі з громам
гуляе маланка.
Неба стракатае,
бы маляванка.

Вылезла Бонка
з Нёмнавай плыні,

як страсянулася —
лівень як хлыне!

Нёман, і горад, і дрэвы, і неба
ліўнем памыюцца да чыстаты.
Толькі патопу баяцца не трэба —
вельмі высока ў Гародні масты.

## ДРАЖНІЛКА

Бегла за ценем паўднёвым
кароткая ноч,
зоры ў каралі нізала
дзяўчынцы адной,
каб шчабятала дражнілку
такую за мной:
«Хочаш пацешную песню,
пад неба падскоч.
Гром аглушыў чаравальніцу,
грому зашмат.
Між частаколу прамення
ўвязла яна.
Толькі крынічка не мае
ні стомы, ні дна...»

«Што ж мне з крынічкі
звіць у нябёсы канат?»

Песню сябры падпяваюць
званчэй і званчэй.
Дзень працавіты стамляе,
а ноч для сустрэч.

«Каб не было паміж іх
завідушчых вачэй!
Песні пырнуць вельмі зручна
між рэбрамі меч».

Світка ахоўная!
Выткаў давер мне яе
з добрых настрояў
на беразе шчырай ракі.
Нават калі застануцца
толькі шматкі,
будуць служыць мне шчытом,
покуль сэрца пяе.

* * *

Нябачны мастак
з дзёрзкаю рызыкай
закрэсліў неба
белаю рыскай.

Але звінела неба высока,
зацягнутае на заходзе імглой.
Трымала яго на лапках сасонка.

Але злучалася
неба з зямлёй.

## НЯМНІШЧА

Нямнішча, паростае борам,
за вёскаю Гожай. 1,24
Страчаўся там Нёман
з вясковай дзяўчынай прыгожай.

У роспачы маці:
дачка адаб'ецца ад рук.
Хіба ж гэты Нёман-вірутнік
прыстойны дзяцюк?

«Не дам!»
І знайшоўся жаніх
пры поўным гумне,
які падабаецца маці,
дачцэ яе — не.
Як з хаты ўцякала,
пасталі ў вачах тарапы.
Пабегла за Нёманам...
Што ёй чужыя тарпы?
Вандроўных
пацёмкамі страшыць
за Гожай нямнішча.
І маці ігрушай
вартуе чужое гумнішча...

* * *

Па ўзлеску на дубчык вярбовы
баравікоў наніжу.
Прывыкайце, мае чорныя бровы,
хавацца ў імжу.

Лепей зімою грэцца,
чым вясну зімаваць.
Прывыкай, маё чулае сэрца,
адно начаваць.

А каму я грыбы бяру?
Вячэру даўно зварылі.
Скіньце, вякі, па пяру
на падбітае крылле.



Залвіца праўда і дзевер бой
вядуць за рукі мяне з сабой.
Адчайна лёгкі мне іх прымус.
Лжэперамогу спраўляе хлус.

Амаль дзіцячы свет круцяля.
Вачэй нявінных два каганцы:
— Першы раз бачу з хвастом цяля...
— Ці ж вечар чорны, бы антрацыт?

Веру ў праўдзівасць
прытворства мужчын.
Ты, мой няверны, сядзь —
памаўчым.
Вуснамі вочы мае палічы.
Сумнаю праўдаю слёз не лячы.

Мілай ашукай мяне ашукай.
Як шчыра колецца твая шчака.
Тваіх пяшчот на вачэй адвод
табе дарую і цёмны ход...

І застануся зусім адна —
пайду ардой на цябе, мана.
І перад тым, як легчы ў труну,
ашмоткі злосці ў хлусню шпурну.

## ПРАСЕКА

Тулілася вёска за Налібокі.
У вёсцы той жылі абібокі,
што языкамі лапці плялі.
За сном адпачыць не мелі калі.

Прахопіцца дзядзька рупны
ледзь свет.
Не марнаваў ніводнай хвіліны.
Надумаўся сам да апошняй хваіны
працерабіць праз нетры прасвет.

Варылі на вогнішчы суп з грыбамі.
Шукалі каля сваалоў карані.
Зрэдзьчасу трэскі ў кучы зграбалі...
Дзядзька падважваў адзін камяні.

Не мог звярнуць нязначнай турботы
на плечы пляменнікаў-гультаёў:
скалечаць падлесак,
наробяць шкоды.
Дзятлаў распудзяць і салаўёў.

Пад камень замшэлы падкладваў лом.
Разглядваў яго пад правым вуглом.
Пад ломам трушчыўся пробны камень,
які непарушным лічыўся вякамі.

Калі пападаўся магутны дуб,
высокай кроны зялёны чуб,
як хустку,
разгладжваў за тры рагі.
Знутры лічыў гадавыя кругі.

Вакол разявак мітусілася тысяча.
Цікава было, а што ён тут высеча.
Хай бы сказаў, перакінуўся б слоўцам
са сваяком, з аднавяскоўцам.

Сказаў:
«Прасека вядзе напрасцяк
на сенажаць мяне і гуляк.
Мяне вядзе касіць сенажаць,
гуляк — пад стогам лежма ляжаць».

Сказаў:
«Такога няма рамяства,
каб ад гультайства байкі трусіць.
Каб жа прасека не зарасла,
косы за плечы, пойдзем касіць».



Глядзяць на свет,
як на дзіва,
няўрымснаю талакой
сяброўка мая праўдзівасць,
старэйшы брат неспакой.

Сястрыца мая надзея,
што ёсць пачуццё за душой.

А сонейка халадзее,
З паўдня схілілася ўжо.

Змрок непрыступны вырасце —
прысядуць каля кастра
грамадкай світальнай шчырасці
сяброўка, брат і сястра.

Пагрэецца той, хто не мае
ні ластавачкі пры сабе.
Пагрэюся крыху сама я
ў беспатольнай журбе.

## ДОЖДЖ

Вось едзе, едзе дзядзька багаты
і выганяе сонейка з хаты —
гром.

За дзядзькам громам голы і босы,
чые сястрычкі — дробныя росы,
дождж.

Ім вандраваць зусім недалёчка:
дождж церусіў і гром ля далочку
граў.

Там, дзе зрабіла
рака грымака,
скочыўшы ў Нёман,—
бы казачны гном,
сальта раскручваў над кручаю гром,
Нёман лякаў.

Дождж перастаў,
пакуль пад гарою
спяць у дзядоўніку
спуджаным роем
чмелікаў трое...

## ПА ЛЁДЗЕ БАСАНОЖ

Сцяна праніжа холадам штоdo ранку.
Злавілі б вы за хвост
хоць раз маланку!
Надзелі б вы хоць шапку навырост.
Між лёдам і вадой навошта мост?

Прабегліся б па лёдзе басанож.
Тваё маўчанне працяло, як нож.
«Каб на слязах цыбуля парасла!» —
скляні...
А я і не трымаю зла.

Сказаў бы «ненавіджу» ці «люблю»,
а я ў адказ сябе перараблю.

Аж дзіва,
да чаго ўсё роўна ўсім.
Пакаешся, сумленне прадасі,
душой згавееш —
людзям хоць бы хны.
Не мае праўда ні граша цаны.

У злагадзе і рознай смакаце
распешчваюць людзей,
як і дзяцей.

Лячыць бы іх пакутаю, бядой
пачуццяў маладых жывой вадой.
Адказнасцю за іскру на кастры...
Раззлуйцеся —
ды шчырасць вас бяры!



За прымружаны дрэвастой
сонца сядзе.
А жыццё прытаілася з новай бядой
у засадзе.

Над прасторам і борам
яблык падае ў спелым садзе.
А жыццё з непапраўным горам
у засадзе.

Ты яшчэ сама сябе грэеш.
Час-дзіця па галоўцы гладзіш.
Далячынь тваіх думак шчырэе.
Сонца звечара у засадзе.

Звечарэла душа цішыні,
а начуе ліха пад плотам,
што адчаем учэпіцца потым...

Коўдру хмаркі
пад бок падгарні.



Каля Нёмана жвір.
Чаркі зор замуціліся троху.
Конь мой —
дуб каля броду —
капытамі пачуе дарогу.

Акунуся ў слязу,
у зярністую цемру дубровы.
Шчэ за ноч адпасу
свой усход —
вольны статак барвовы.

Бор — душа цішыні,—
для стагоддзяў адчынены насцеж,
з лапак хмар сыпані
вырай зор,
гліцу словаў на шчасце.

Чую, міма ляцяць,
шалясцяць іх зіхоткія крылцы.
І смычкі забыцця
тнуць па сэрцы маім,
як па скрыпцы.

## ПАДКЛЯПАНЦЫ

За светам недзе вёска Падкляпанцы,
а там жывуць манюкі,
ашуканцы.

Былі аднойчы
ў Падкляпанцах танцы.

На танцах нехта рэкнуў недарэчы:
«Усе, хто ў Падкляпанцах —
ашуканцы!»
І гэтай праўдзе нельга запярэчыць.

Пакольк, хто казаў,
быў падкляпанец.
Дык і не ўсе між падкляпанцаў,
мусіць,
сябе абманваюць і блізкім хлусяць.

Таму, і той, хто рэкнуў,—
ашуканец.

Выходзіць, праўда —
паміж падкляпанцаў
цяпер ужо няма не ашуканцаў.



Цярплівая зварыць у летняй вадзе
вячэру, ад рук запаліўшы пліту.
Надзею апошнюю злосць завядзе
у слепату.

...А мне дык вытрымкі і не хапала.
Хвіліны-знічкі за грывы хапала.
Вось падрасту — і бывайце здаровы!
Але прымусілі пасвіць каровы.

Злосная зранку — на сонечнай выспачцы,
небам накрыўшыся, хочацца выспацца.

У гумны луг перавезены — голы.
Сшыткі — у сумку.
Званок каля школы.

Як жа спяшалася скончыць вучобу.
Але закінула марную спробу
і недавучкай выбегла замуж...
Дзеці растуць — у іх тое сама ж.

Неспадзяванкамі радуе лёс.
Грукам па бруку адчайных калёс.

## ЗІМОВЫЯ ЧАРЫ

Бохан зямлі
пасыпаны соллю снягоў.
Зачараваны
возера поўны карэц
будзе да квеценя
месячным бляскам гарэць,
дыхаць па бронхах аеру ад берагоў.

Явар зацвіў
ад сука-стрыгунка да камля,
гэтак аздобіў ягоную крону мароз.
— Бог не цяля,
бачыць, мароз, круцяля!
Скуль ты
такія бялюткія фарбы прывёз?

Даў табе фарбы на поўначы
белы мядзведзь,
выціснуў з проламкі цюбік

палярнага дня.
Вырваў ты з лап яго скарб,
віхор пераняў
і прыляцеў на світанні
замылены ўвесь.

Вернуцца хутка
з далёкіх краёў жураўлі,
здзюбаюць белую соль
са скарынкі зямлі,
крыламі квецень з галінак
узнімуць да хмар,
з возера поўнага знікне сіверу чар.

## СТАРАЖЫТНАЯ КАЗКА ПРА ПАСЛУШЭНСТВА

Чатыры сыны гадаваліся ў таты
паміж сабой у вялікай згодзе:
першы — пісар,
другі — араты,
трэці — гандляр,
а чацвёрты — злодзей.

Наранку
бацька даваў ім парады:
— І задажджыцца,
сей жыта, араты.
Павінна кеміць галава пісарчука,
што перапісвае яго рука.

А гандляра гэтак бацька вучыў:
— За дробныя рэчы
капейкі лічы.

Наказ даваў злодзею:
— Зімой ці летам
заўжды ўцякай,
хто б ні гнаўся следам...

Вучоным стаў,
хто крывулькі выводзіў.
Карміў араты братоў пірагамі.
А сын-гандляр
не знаўся з даўгамі...
Не ўплішчыўся ў пастку
за кражу злодзей.

## РЭЦЭПТ

Прывеціць як
нахабнага латрыгу?
Ёсць сродак прабабуль:
скруціўшы фігу
крадком
паміж фальбонак андарака,
пачаставаць у думках:
— Небарака!
Гарляк твой луджаны
глыне і фігу...
А ўголас:
— І мядку паешце крыху!



Калі стамлёнай надзеі
здрадзіць бай, што пабег па сцяне,—
я буду верыць вам, дзеці,
хоць няпраўду кажаце мне.

Калі холаду белыя кветкі
замуруе мароз на акне,
спадзявацца буду, што дзеткі
яшчэ адагрэюць мяне.

Пакуль аб найгоршыя весткі
ніткі нерваў ушчэнт не парву,
пісем чакаць буду, дзеткі,
у любую пару.

Я нап'юся як мудрая маці
і з крыніцы чакання,
аж пакуль конь мышастае масці
у прорву не кане...



Плыў маладзік
з загадкай уваччу.
Пайшла ад вёскі.
Ў горад не хачу.

Нажала б жыта новага на хлеб.
Але не сеяла...
І мой на небе серп.

Прысела ціха
                    на матуз мяжы —
ды горкай ночы
                    чарку не вазьму.
Настрою шчырасці штодзень служыць
стамілася,
самотная таму.

Не кінуся за спуджаным звярком,
не стаўлю перад песняй лёс на кон.
Калі сціскае даўкі ў горле ком,
званец такі напеў
ці праўды звон?



# XII. ПОЎНАЧ

* * *

За любоўю наўпрост басанож,
нібы ластаўка, лётала ў сне.
— Забяры мяне ў поўную ноч!
— Можа, знойдзеш каго без мяне...

Не знаходжу. Між ніваў і рэк
апусцеў наш заселены кут,
нібы вымер даверлівы люд,
а згубіўся ж адзін чалавек.

Не пазбавіць ні песня, ні птах
болю, быццам рубца ад нажа.
Затуманілася ў галавах.
Цэлы год не праходзіць імжа.

Стухла чуласць мая без пары.
Развітанні лягчэй за муры.
Жар душы патушылі вятры.
Студзіць сэрца самота знутры.

Хоць бы прысачак тлеў ад агню.
Ані следу завеі ў гаях.
У падушку слязіну ўганю...
Не сагрэтая крэпасць мая.

Ненаўмысна за шыбінай стаць:
пранізаць ад сцяны да сцяны
за імжакаю двор прахадны...
На рагу як бы тая ж пастаць.



Выгінастую плынь вадапою
маладзік сярпочкам намеціў,
дзе, абняўшыся, мы з табою
ад кахання хацелі памерці...

Прыхапіў нашу долю мароз.
Замятуха галінку зламала.
Ды каб шчасцейка гай узрос,
усё роўна было б яго мала.

Аніхто нідзе аніколі
не падумаў, што шчасця даволі,
што захвоціўся ім сапраўды,
зажадалася ліха-бяды.

Не зайздросцяць спакою цёмнаму.
Мой гасцінец — дзядуля старэнькі!
Нават шчанятку бяздомнаму
зазірнуць маю права у зрэнкі.

А магло ж у зеніце спыніцца,
нібы сонейка летняе. Раптам
накацілася навальніца,
пеканула па долі градам.



Я адна не хацела б вяртацца ў наш дом,
белы свет стане домам, а ложкам ралля.
Завуркоча са мной, бы з маланкаю, гром,
запалоніць самота душу спакваля.

Уваскрэснула. Мне берасцянка пяе.
Уцякаю ад пусткі ў абдымкі твае.
І прытомнасць губляю ў абдымках тваіх.
Ажываю знямоглая — мы не дваіх.

Паміж намі яна,
як нямая сцяна,
глухата...
Ды зялёная птаха ліста
прарываецца з цемры паўз вецер круты
ад цябе да мяне.
Наша крылле — лісты.

Абяцаў мне:
— Вярнуся з лістамі вясной.
Скамянею. А ты да бярозы хадзі,

на грудочак пяску галаву пакладзі
і парайся з грудочкам, з бярозай — са мной.

Мы рассыплемся зеллечкам роднай зямлі
і спляцёмся карэннем глыбока на дне.
Толькі моцна да сэрца мяне прытулі
і змані, што адну не пакінеш мяне.



Пугач спужаўся цемнаты сасонніка...
А ясны месячык паплыў да сонейка.

Прастор запоўніла сляза бяссонейка —
а ясны месячык паплыў да сонейка.

Ды сплянтаваў віхор насенне-зоры ўсе.
Чарноту ноч пасе
па чэмернай расе.

За ціхім селезнем ляцелі вуціцы.
Ды размінуліся на цёмнай вуліцы.

А белы селезень да чарнаты аслеп —
пад чорным берагам
забіўся ў чорны склеп.

У склеп няма хады —
ля лаза чорны склют.
Спрадвечны шлях бяды —
з кутка начнога ў кут.

Чарнота даўкая да сэрца спазмаю.
І хваля коціцца з сівою пасмаю.



Світанак звёў валацуг.
Мы — Азія і Еўропа.
Між нас Уральскі ланцуг —
твая хвароба.

Лёс заваліў перавал.
Кожны сам з сабой піраваў.
Ты зеллечка выпіў мора,
такая пакора.

Я, салігорскае дно,
плачу шмат і даўно.
Ужо змагаюся мала,
адваявала.

З намі рахункаў не маюць
ні сваякі, ні магілы.
Над намі з дакорам лунаюць
сын і дачка, нашы крылы.



На забытай віцебскай дарозе
сцюжа правіць жорсткія правы.
У засыпаную клёнам восень
абтрусіла стому з галавы.

Не ўзыду крынічкаю нікому,
сумнай знічкаю не пасвячу.
Не знайду між ночкамі праёму.
Звечарэла.
Цемрадзь уваччу.

Золкім прадзівам сцяжыну выткуць
мне на памяць вербы-спарышы.
Клёны, клёны, зmoклыя да світкі,
ветрыкам прытуляць да душы.

Як прыбой на моры, свет спакусны,
адпусці ад ашуканства сном.
Так марудна астываюць вусны...
Стынуць птушкі з выраю вясной.

Бурай узрасла на шчыльным грудзе,
стромкаю гранітнаю градой.
Паўз акно забыту ходзяць людзі
міма сэрца стрыманай хадой.

Дзе ж мой край, агнём наканаваны,
мой ратунак?
Як жа я адна?
Даганяў ручай, ад шчасця п'яны.
Абнімаўся бор ля Астрына...

* * *

Поўнач тчэцца.
На мароз бярэцца.
Пачарнела, як у песні, сэрца
за грачынае чарней пяро...
Гэта па каго плыве паром?

Гора не забіла напавал.
Толькі сценам нас, прапашчых,
шкода.
Ты сваім жыццём не авалодаў,
і разбіліся адразу два.



Дубіцца мораны дуб
у бягучай вадзе.
Дубіцца сэрца
у немінучай бядзе.

Маці-зямля,
зачыняеш акенцы зары,
над вачамі асуджаных злітуйся,
вейкі закрый,

Жоўтыя кветкі бяссмертніку —
жоўцевы лек.
Зыркія барвы заходу
не зычаць бяды.
Дужым
гульня гарцаваць
па хрыбтах дужых рэк.
Як абярнуцца ракой
да людской глухаты?

Прорва блакіту
віруе у зрэнках дзяцей
і разліваецца шчасцем
па ўсёй цемнаце.
Раптам
пачнецца адлік нашых дзён
ад каляд.
Што ні пагляд,
развіднеецца свой далягляд.

Вечар, нікім не прыдуманы,
дадзены нам,
я пералётнаму ветру
дарэмна аддам,

птаху аддам высокіх надзеяў пасеў,
божай кароўцы,
якую ніхто не пасе.

З твару світанак расцвіў,
хоць напіся вады!
Дзеці, не злуйце,
што вывела вас за руку:
вось пералескі, прасторы,
гушчар лазняку...
Толькі прырода
аддадзена ўсім назаўжды.

Боль да вытокаў вяртае,
як род уцалеў.
Рана, мой сын,
з непапраўнай бяды пасталеў...
Гора прагнала шпакоў-спевакоў са двара.
Шчасцейка — знічка.
Доля людская — зара.

* * *

Пакручуся яшчэ, дзе світае святло.
Для вачэй несвядомых ратуй мяне, божа!
Следам за дзедам адкладу падарожжа.
Перастану трымацца, як разам было.

Перад ім апраўданне —
жыву як найгорш.
Між нядатных гібею слабой небаракай.
Сцісне сэрца заплакаць —

хоць дзе буду плакаць.
А навошта сляза?
Супакойвае ўсё ж!

Двайнічок — узвей-вецер
са мной пагалосіць.
Неспатольная мара — віднецца сасной.
Падарунак, што вечар маўклівы прыносіць,
як абразу прыму — а навошта адной?

Урачыста прыкленчу на нашу мяжу,
дзе заўчасныя выспелі барвы граніту.
У спрадвечны спакой маладога забыту
беспрасветнаму небу адкрыю душу.

Не прачнецца жаданне збудзіць перапёлку,
напалохаць чарнявага ў лузе грака...
Да зямліцы прыгне мяне, хісткую зёлку,—
патрымаю галоўку зямлі на руках.

На сумежак хоць перыйкам,
гускі, прыляжце!
Палі ценем — і люшку зары зачыняць...
Казытнуў вочы зайчык праменьчыкам шчасця.
Па спрадвечным дунаі плыве зайчаня.

* * *

Ні да чога не здатная я.
Сэрцы раіліся ўчора.
Гора ўспрымаю за гора.
Знікла мая апора.

Ранак — выпадкам госць.
— Як табе йдзе?
— Як ёсць.
Апроч таго, што няма,
рады даю сама.

Цвёрды жыццё арэх.
Перажыла свой грэх.
Прыгожым рабіць грахі.
Хто прывязе два мяхі
бульбы мне на зіму,
буду маліцца таму.

Высыплю словы ў раллю.
Радасці з іх не ўяўлю.
Нават ад słoваў пустая,
нібы святая...
Світае
вечар маёй галавы.
Ясна — хто я, а хто вы.
Чым жыла я раней,
сцяміла...
Той стаў радней,
хто не ратуе мяне.

Шчыра прытуліцца Бонка.
Чуе, нібы перапонка.
— Бонка, а дзе наша зло?
Выгарала святло
з вачэй...
Змяркаецца неба.
І шкадаваць не трэба.



Спелых жытоў пазалота
на незагойныя раны.
Луг для ласкі вачэй абраны.
Сцежка мая — адзінота.

Красак і промняў яснота.
Нёман у сонечным німбе.
Куды плыве па бяздомным небе
хмарка мая — адзінота?

Было сябровак няшмат.
Цяпер нават кум і сват
адну абмінаюць мяне...
А чаму так,
ойча мой — смутак?

Да куравoдкі-хацiны
пад саламянае крылле,
да лiтасцiвага сэрца Марылi
тулюся ў лiхiя гадзiны...

Хто мяне зноўку верне
ад стомы, глушэння вiны,
на вольную волю ў чатыры сцяны?
Праца — маё збавенне.

Адпетыя песнi-кароўкi
з прорвы нап'юцца вады.
Вазьмiце з сабою мяне хоць куды,
хмаркi — мае сяброўкi.



Дзе сонныя бусляняты
спавіты полкамі хмараў,
дзе прарастаюць зярняты
надзеі сярод папараў,

празрыста, ясна, двурога
маладзік авечкі пасе,
ніхто не чакае нікога,—
там буду я, нібы ўсе.

Там, уцякаючы ў морак,
губляе жар-птушка пер'е.
Самота воддаль ад зорак
плыве па моры бязмер'я.

Неба напіўшыся, коні
сходзяцца ў гай, нібы ў церам,
накрыўшыся волкім ценем,—
ніхто іх у стайню не гоніць.

А сонца расчэсвае дым,
у кожным куточку свеціць.
Не трэба на свеце тым
начаваць каля смерці.



Я вінавата, што зіма ўрадзіла,
што ёсць у бедных прадчуванне дзіва,
што ў лютым у вясковых адпачынак...
Хацелі хлопчыка,
з'явілася дзяўчынка.

А тата маме кажа:
— Быт наш зрэбны.
І вельмі нам араты быў патрэбны.
А ўжо ж як нарадзілася дачушка,
хай апалае словы ў апалушках.

Святую справу ўпадабала гэтак,
што апалала ў апалушках дзетак.
А занядужаў родны чалавек,
сушыла зелле, безнадзейны лек.

Самота-стома чарней, чым сажа.
А мела шмат сябровак, аднадумак.
Сяброўкі ўгору не падносяць сумак.
І без любові жыць на свеце як жа?

І дзетак вабіць у блакіт-бязмежжа
ад хаты-казкі пакаці-гарохам.
І скрыпка на чужым вяселлі рэжа.
І рохкае пятак зямлі, як рохкаў.

* * *

— Паглядаю на цябе,
не затлумленую справай.
Скінула маску,
голас не свой.
Коцяцца словы
на долі сувой
і заціхаюць
між часам і явай.

— Быць чалавекам
ясная нагода
і няшчасным быць...
Жанчыне тым болей...
— Паглядаю ў твае вочы,
Так пакрыўджаныя доляй,
набрынялыя скрухай
высакоснага года...

— Ды не скрухай, а думкай
над жыцця загадкай:
чалавек шчаслівы,
як дымок над хаткай,
развяселены пагодай,
у нябёсы рвецца...
І чаму няўдачы
робяць чуйным сэрца?



Так прыгнула мяне
да гаркавай кары,
да гарбатай гары
гэта пустка ўнутры.

Мне пад ногі падкінь
кладку гнуткай ракі,
дзе жарства, нібы шоўк,
мой сынок-веташок.

Мой сынок — белы свет,
мой заступнік ад бед,
мой вясковы, як дзед,
як яго запавет.

Палатніну страхі
нацягні ў два пругі.
З-пад грымотнай дугі
плешча сэрца тугі.

Без надзеі не кінь,
сонца дзённае — сын
і світальнае — сын.
На ўсе сонцы — адзін.



Дзён запалкі намоклі,
расамахі-нядзелі
і здранцвенне дашчэнту з'ядуць.
Перавяліся на свеце зладзеі,
часу-грошай даўно не крадуць.

Сонца ўсход нам прыспешвалі ружы.
Да вачэй мяне выганіць страх —
да святой прастаты,
што знарок не варушыць
порах словаў забытых... і прах.

Маладыя пачуцці жыўцом зацугляны.
Голад зор у вачах заглушы,
родны край — ты адзіны мой верны каханы!
Шчодра чэрпаеш сілы з душы.

Ды табе толькі прагну ў любові прызнацца,
хоць прызнанне — заезджаны конь;
навальніца і лек — ачышчальная праца,
лёт на сёмае неба і скон.

У чатыры сцяны зачынюся ахвярна.
Апаўночы ў застылую глуш
з нетраў едзе па грэблі загублены марна,
неаплаканы прывід — мой муж.



Ведаю ўсё і як быццам нічога.
Болем істоту запоўніла ўчора.
Шкода чужой мімалётнай навукі:
моцна трымацца, узяць сябе ў рукі.

Як утрымаць збунтаванае мора
слабым рукам?
Але не пратэстую.
Свет цэлы быць вінаватым не можа,
то вінавачу дачушку, матулю.

Ноччу бяссоннай буру ўтаймую...
Зойдуць сябры — мала іх засталося
у пасівелым гаёчку валосся.
Навідавоку сяброў не сумую...

Ды зацяжною гульнёй у маўчанне
звязаны, слова баімся пустога...
Шмат што сказалі б, не скажам нічога.
Болем ачышчаны, лепшымі станем...

Рупнасць у нас неспадзеўкі разбудзіць,
часта пастукаўшы ў бубен палёгкі
шротам дажджынак, дождж касавокі...
Дожджык сляпы.
Дзеці мы — людзі.

Птахі мы — людзі.
Да голлечка промняў
цягнемся слабым даверлівым крыллем.
Хмараў галінкі сонца адкрылі —
болем знявечаны, болю не помнім.

Людзі — аблокі.
Над выраем-краем
нас да магіл узвышае штосілы
з фрэскі азораны твар Еўфрасінні.
Маем свой край і нічога не маем.



Куточку продкаў не сплачу даўгі.
А Нёман роспачы заліў лугі.

Забавіўся ў гасцях мой дарагі.
А Нёман роспачы заліў лугі.

Вядуць няўцямна ногі да магіл.
А Нёман роспачы заліў лугі.

Сабак майго чуццё — на ланцугі.
А Нёман роспачы заліў лугі.

Душа буслом на шчырыя кругі.
А Нёман роспачы заліў лугі.

А людзі на пасадах — як стагі.
А Нёман роспачы заліў лугі.



Вусцішна раптам застацца
між снежнай ясноты!
Белым суквеццем абсыпаў яліны мароз.
Зорка радзімы і зорка маёй адзіноты —
ззяе Палярная зорка на ўскрайку нябёс.

Сэрца начы
з прадоннем тугі прымірыла.
Лечыць нянавісць.
Загойвае солад надзей.
Покуль дадому вярталася,
пагаварыла
з ціхімі зорамі,
нібы з вачамі людзей.

Золкай пагодай шчырэлі
пагоркі і долы.
Нібы мужчына,
стаў ветлівым бор малады.
Колам за бор зачапіўся мой вечар вясёлы,
інеем глістым струсіліся
з голля гады.

Шчэ засталося цяпла
ад найлепшага мая.
Не размяняла на лютасць
душа дабрыні,
стомаю рук
шарачковы сусвет абнімае,
ані да кога зла не трымае, ані.

Месячык ясны,
вядзеш заблукалых па цемры,
што ж не асвеціш

мой замутнёны пагляд?
Як здубянелыя ножкі
ступаюць на церні,
хай углядаюцца вочанькі
зор-немаўлят.

* * *

Зноўку наросхрыст рыпучыя дзверы!
Разбагацела душою ад страт.
Вецер у чыстым полі — мой Эрык.
Бераг пясчаны ля Нёмана — брат.

Гора?
З карэннем слязы яго вырву.
Гаўя-дачушка ў Нёман вядзе.
Ямка ў сярэдзіне цёмнага віру,
бы ва ўзвей-ветрыка на барадзе.

Ветрык-узвей дае прахалоду
целу, якое стамляецца ў сне.
Цётухны сталі гісторыяй роду.
Краю гісторыя — цётухна мне.

Глыбу жыцця на далоні падыме,
Нёман пачне боль на хвалях драбніць.
Паспавядаюся толькі радзіме.
Будзем з ёй хмаркі-кароўкі даіць.

Будзем плысці з ёй за песнямі чаек,
з бельмаў нябёс выціраючы мут...
Потым я знікну крыкам адчаю
і здзірванею грудочкам вось тут.



Буду шукаць я гаючае зелле,
каб на няшчасце,
як на пахмелле.

Хай тое зелле гора астудзіць,
каб пра яго забыліся людзі.

Каб зацвіталі,
пад неба прыўзнятыя,
нібы грамнічныя песні, дзяўчаты.

Каб узлятали за аблачыны,
бы навальнічныя песні, жанчыны.

Каб сваю долю з дужай рукі
не выпускалі дарма дзецюкі.

Згодна
апошняй згарэць у адчаі
у перапёлкай аплаканым краі.



На стрэшку пасярод жытнёвых гонейкаў
сяброў склікаю на капытны збор.
Каго ў дзяцінстве абагрэлі сонейкам,
праменне хопіць да настылых зор.

Сунічныя, сасновыя шляхі
матулі Беларусі пояць сілай.
Узыдуць словы — скочкі над магілай.
Знямоглы ачуняе і глухі.

Вясковы лад адкрытага пісьма —
адно багацце, што пакіну сыну.
Ці можа гэта грэць, калі прастыну?
І ці нічога іншага няма?

Між рэкамі і пушчамі стаю.
Зблуканых запрашаю на вячэру.
Люблю іх, нібы Віку і Валеру.
Каму ж яшчэ аддам любоў сваю?

Вярніся лёткай птушкай, маладосць!
Гляджу — паміж ружовага чабору
мне сонейка нясе прамень гумору,
нібы пачула...
Так яно і ёсць..



Выпрастала смерць крывыя сцежкі.
Я жыву. І засталася з чым?
Маладой суперніцы на ўсмешкі
з вечнаю агідай да мужчын.

...Але хлопец засвяціўся раптам
месячыкам на вуголлі страт.
Ён падаўся мне малодшым братам,
аніякі сапраўды не брат.

Выйдзе мой цяняк, сама не выйду
арабінай пад крыло дажджу.
Выплакала даўкую агіду,
але соннага не абуджу.

Проста ў наваколлі пасвятлела.
Крышку сонейка было шкада.
Проста —
і навошта? —
я ўцалела
словы смяглыя перакідаць...

Хай у недагледжаным прасторы
палятаюць.
З хлопцам насур'ёз
ні аб чым на мове пагаворым,
на якой тут шэпчацца авёс.

## ЖУРАЎЛІК

Ужо дапаў да гурбаў перыстых,
з вятрыскам недасяжным роўны.
І пазалочанае перыйка
не пакалолася на промні.

А ў халадочку рэха спеўнае
сядзіць і лапцікі пляце.
Глядзіць разгублена, не ўпэўнена:
куды з падвор'я паляцеў...

У высь бясконцую рыўком.
А каня па балоце плача.
Дзядулеў крыж, як перыскоп —
каб і з магілы ўнука бачыў.

Матуля ў пасмах промняў вечара
здаецца стомленай бярозкай.

Але бадзёрыць сонца вечнае
усмешкай шчыраю сяброўскай.

Пагорак, скуль разгон браў некалі
да мары бацькавай высокай,
глядзіць узбуджанымі рэкамі,
якія злучаны вясёлкай.

Ляці, сынок-жураўлік босы!
Хай белы свет цябе ратуе.
натхняюць родныя нябёсы,
чакае вёска і матуля!



# XIII. МУЖЧЫНА

* * *

Наблытала спакусная вясна,
запэўніла,
што я табой жадна.
Ля возера,
дзе выдумшчыкі йшлі,
вясновыя бярозы расцвілі.

На беразе ракі
ні чалавечка.
Званіла смехам вадаспада рэчка.

Свяціўся дзіўны горад, бы касцёр.
Па горадзе прайшліся —
ён замёр:

глядзеў, не зводзіў здзіўленых вачэй,
але гарэў кастром яшчэ зырчэй.

А нехта непрыдумана ўздыхнуў,
каго наш воблік смуткам закрануў.
Таго вясновы смутак пранізаў,
хто возера вачэй успомніў сам,
з чыёй душы
зляцелі птушкі броў,
хто ведаў,
што любоў не на дабро...

## АЎТАПАРТРЭТ

Хто я такая?
Жанчына.
Мяне прыдумала спёка.
Самота і смутак пазнання
на свет красы нарадзілі.
А лупавокія яшчаркі —
тутэйшыя кракадзілы —
чараваць навучылі
пацягнута марывам вока.

Яшчэ не было гісторыі
ў мяне,
бы ў шчаслівай краіны,
якую другія краіны
не разбуралі ў руіны,
нібы ў дзівацкай кароны,
якую кароль не надзеў.
Нібы ў паважнай матроны —
жыццё без важкіх падзей.

Каго я люблю?
Айчыну
з будлівай, быстрай ракою,
з ластаўкай гаваркою,
з лёсам крылатага бору.
Кахаю каго?
Мужчыну.
Прынёс мне шмат неспакою.
Мужчыну лёгкай хады,
задзірыстага гумору.

Зведала мукі любові,
пакуты чыстыя слова.
А многа?
Ды дастаткова,
каб заглушыць уздыханне.
Каб заслужыць дараванне —
крыўдзіла не выпадкова...

Пышна магла красавацца,
як маладыя суседкі.
Звабіла доля паэткі.



Сармацкае імя
больш не магу
уголас, як закляцце, вымаўляць.
Начамі вусны ўпотайкі баляць.
Пачуцці атуляюцца ў смугу.

Хачу перакanaць сябе...
Дарма!
Гаркавае сармацкае імя,

як водар багуну,
нібы рака,
аж апякае кончык языка.

## МУЖЧЫНА

Апоўначы прыйдзе мужчына.
Дасвеццем прыкрыты пойдзе.
Любоў — скразняку адпачынак
на баравым пералёце.

Пойдзе ў гушчар канапляны.
Паўдня паіграе ў карты.
Прытворыцца ў дым п'яны.
Слова звядзе на жарты.

Словам яго не зловіш.
Скажы ты мору спыніцца!
З пачуццяў яго не звольніш,
як з працы звальняюць ляніўца.

— Шукай,— скажуць,— ветру ў полі
тады, як ветру няма.
Ён бы яшчэ пасваволіў,
каб грошы былі задарма.

Вернецца зноў ніадкуль,
шапку пакіне на плоце.
Разгубленасць скразняку
на баравым пералёце.

## ВЯСНОВЫЯ ШТРЫХІ

Нівы цела
маладзела.
Вочы дрэва —
пупышы.
На празрыстай адзіноце
па лістоце
гром тужыў.

Даўгалыгае без рожкаў
пачуцця аленяня
бударажыла прыроду
ад світання да паўдня.

Па расхліпанай раллі,
па разбуджанай вясне
паблукала і заснула
на маланкавай струне.



З прамення
сонца выткала смугу.
Стамілася,
таму і плача ўдзень.
Я сонейка суцешыць не магу,
пакуль мужчына невядома дзе...

Дня слёз хапіла
на дзве шчакі.
Ноч плакала.

Расплакаўся мой сон.
Бяссонніца
дзіравы парасон
мужчыну ў свет панесла
нацянькі...

Дождж вельмі мокры.
Мокну да касцей.
Другі ўжо дзень
пад праліўным дажджом.
А ён пад парасонам і плашчом,
а мо, раз'яснены,
сярод гасцей...

Пасля бяссоннай дажджавой начы
каму я каву буду гатаваць?
А ён уцёк не гадаваць жанчын,
а хмаркі дажджавыя гадаваць...



З адчаем трывогу званю
і рукі дарэмна ламаю:
на беразе звонкага маю
знаёмых вачэй — ні агню.

Усю Беларусь абшукай —
цябе, як слязіну,
не струсіш
ні з веек начной Беларусі,
ні з песні-вяснянкі шпака...



Болей не ўбачыць ніхто маіх слёз.
Выцягну неяк пад горку свой воз.
Мне загарэцца не ўпершыню.
Ці ж саламандра баіцца агню?

Будзеш мяне вінаваціць яшчэ,
што пасвятлела ўначы ад вачэй.
Дойдзеш няхоцькі да нашых мясцін,
каб да чакання майго не дайсці.

Радасці колькі з няшчаснай любві!
Зранку шчабечуць аб тым вераб'і.
Покуль шчаслівы балюе ў гасцях,
гоніць няўдачніка боль на працяг.



Прыбраўшыся ў пунсовыя маністы
рабін гаркавых, знікла назаўжды.
І толькі смутак безнадзейна чысты,
як вадаспад крынічнае вады.

Зрэдчас світаннем
воблікам імглістым
прасочыцца ў смугу маіх вачэй.
І толькі смутак безнадзейна чысты,
нібы пажар, істоту апячэ.



Пахудзела,
як рэчка
без вуснаў дажджу
у сухоту,
як двайнічок гладыша,
што песні вуркоча плоту
з ветрам,
які нагадаў
пра маладую пяшчоту.



Горкая асенняя любоў.
Зыркае святло яе дуброў.
Роспачы тупік.
Надзеі пік.
Радасці апошні баравік.

Вып'ю зор крынічных за яе.
Дабрадушны горад іх дап'е.
Наталіўшы смагу, мітусня
выведзе на повадзе каня.

Нецярпенне на брыве нажа.
Вера ў дзіва коннікам у мыле
свет замкне на сумным небасхіле.
А куды нам з вечарам спяшаць?

Між настылай літасцю дваіх
і пякучым сэрцаў адгалоскам,
як падсветкі восеньскім бярозкам,
грэемся на песнях крыжавых.



Журавінамі шчасце
паблісквае зрэдку.
Таямніца бяды
ззяе ў чортавым зрэнку,
дзе задымленым шкельцам
звераваты нячысцік
нашы ўсмешкі, як ніткі,
заблытаў калісьці.



Як ні стараліся мы прытуліцца,
нас адарвала бурай ад зямлі.
Каб нам перад нягодаю скарыцца!
І кубак пеннага жыцця налі!

Ноч певень разарваў на дзве паловы
і папрыклейваў да валовых рог...
Каб з нашай песні ды прапалі словы!
Ды лепш мы іх аб сценку, як гарох!

Абняўшыся, сталіся ў гуморы.
І нас няма.
Ёсць навальнічны сон...
У сне пераўвасобіліся ў зоры.
І веюць скразнякі з усіх старон.

## ЯК ЖА ТАК

Мы даўно не бачымся...
Аб'ездзіў
ты, спякотны, нетутэйшы,
нібы грэк,
сонныя гурты бароў-мядзведзяў,
табуны незацугляных рэк.

Церам, таямнічы, надвячорны,
пазалочаны электрыкаю зор,
ззяў, пасля парос калючым цёрнам,
громам скалануўся і замёр.

Яркаю вячэрняй заранiцай,
вышытай нябеснаю канвой,
мы маглі, абняўшыся, накрыцца,
ды ўзялі цябе дарогі
пад канвой.

За разважлівым пахмурным борам
ветах наш свяціўся,
аж самлеў.
Палі гусі-лебедзі за мора.
Вернуцца...
А ты не пасталееў.

Выюць сіверных вятроў ваўкі.
Толькі ва ўспамінах прыручаюць
дзве твае мужчынскія рукі
пудкага звярка майго адчаю.

Як жа так?
Быў брод праз рэчку плыткі,
ды ў глыбокі вір нас вывеў брод,
у якім жыццё прадзе дзве ніткі —
кожную на іншы калаўрот.



Хай выбухне усмешлівая міна
у знічцы, што скацілася з вачэй,
дзе ты дваіўся, грэўся,
дзе яшчэ
блукаеш, нібы шчасная правіна.

Нічога, што было, не будзе болей...
Не выйду золкам з маладой ракі.
Але прыкутая якой няволяй
мая слязіна да тваёй шчакі?



Мы напалохалі плоткаў
у звечарэлым возеры.
У кутку працавітых продкаў
ленаваліся аж да восені.

Выгнуў спінку бярозавы цень.
За ценем ганяўся прамень,
такой жа сонечнай масці,
як лагодная маці.

Хлапчанём куляўся з пагорка
і цень надвячорка.
Дзень за лес уцёк праз платы...
І возера цемнаты.

Каршачок пацалункаў драпежны
сачыў за намі...
Розвіт, як мрок, непазбежны.
Мы разлучыліся самі.



Любоў знянацку апаліла сэрца.
Спяклася, нібы яблык на кастры.
Абвугленая костачка ўнутры...
Як прысак выстыне, а дзе пагрэцца?

Узнікнуў, нібы гром, што коціць грэймы
на голым небе
смутку наўпярэймы.

А неба блізка, як яго рукамі —
не кратаеш... грымотныя плады —
любоў, нібыта ўбор з рачной вады.
І слёзы ліць па ёй, што грызці камень.



Ужо мы не наловім зораў
у студні досвіткаў на дне.
Яшчэ ў паўзмроку калідораў
ты не праходзь каля мяне.

Пара інтымнае навукі
мінула...
Глухне сэрца стук.
Ты не шкадуй слабыя рукі,
што не ў абдымках дужых рук.

Знясіленая да астатку,
шкадой нацешыцца не дам.
Яшчэ я выйграваю схватку
з паўночным небам сам-насам.



Слоў,
вясёлых паслоў,
не стрымаў.
Як вярыг,
нашых сцежак дзічыцца.
Засталася ў сябе я сама,
і з сабою мне трэба лічыцца.

Хай вясновае сонейка ў хату!
Волі сэрцу,
вачам не даваць,
каб яшчэ нешчаслівым дзяўчатам
не прыйшлося мяне шкадаваць.

Запрашу свае песні:
— Сяброўкі!
Адчыняйма акенца на двор!
Выганяйма журботныя слоўкі.
Будзеш госцем, залётны гумор.

Свет снуецца не намі праўдзіва.
Пасярод гаманы сумяцця
разгуляўся паглядны прыдзіра
па спякотнаму кругу жыцця.

## ЗМЕСТ

### I. ПА ШЛЯХАХ ЗЯЛЁНЫХ БЕЛАРУСІ БУДУ ПРАКЛАДАЦЬ СВАЕ ДАРОГІ

II. НЯХАЙ МОЙ СЫН ПЕРАЖЫВЕ МЯНЕ

## III. ТУТ КАЗКІ З НАІЎНАГА СТРАХУ

### IV. ПЕРАКОНВАЕ СЭРЦА Ў ЦУДОЎНАСЦІ СВЕТУ

V. НАШ РОД
ПРАД ТВАРАМ ЭПОХІ ВЫСТАЯЎ

## VI. ДЗЕ ХОДЗЯЦЬ БАСАНОЖ

## VII. АБНІМАЮЦЬ РУКІ БЕЛАРУСЬ

## VIII. УЗЛЯТАЕ ЗА ВЫРАЕМ ЛЕТА

## IX. КРАЮ МОЙ НЁМАН

## X. СЛОВЫ БУРАЧОК ЖЫВЫЯ ВЕДАЎ



## XI. НЕСПАДЗЯВАНКАМІ РАДУЕ ЛЕС

## XII. ПОЎНАЧ

## XIII. МУЖЧЫНА

**Бічэль-Загнетава Д.**

Б 67 Даўняе сонца: Лірыка.— Мн: Маст. літ., 1987.— 398 с.

Зборнік найбольш поўна прадстаўляе творчасць лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы сучаснай беларускай паэтэсы Дануты Бічэль-Загнетавай. Яе лірычная гераіня здольна на глыбокае каханне, на высокае гарэнне, на рашучыя ўчынкі. Ёй уласціва высока ўздымацца і падаць у прадонне трагічных перажыванняў. Але ёсць неаспрэчныя жыццёвыя вартасці, якія вяртаюць яе да працавітай стрыманасці,— родны край, маці, сябры, народ, яго нацыянальныя героі, яго мова. Адсюль непарыўная сувязь з чалавецтвам, сусветам, хваляванне за мірнае жыццё на планеце.

Б $\frac{4702120200-093}{М\ 302(03)-87}$ 120—87 **ББК 84Бел7**

*Данута Ивановна*
*Бичель-Загнетова*

**ДАВНЕЕ СОЛНЦЕ**

Лирика

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Загадчык рэдакцыі Г. С. Шупенька
Рэдактар Л. Р. Законнікава
Мастак П. М. Драчоў
Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін
Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч
Малодшы рэдактар С. І. Расянчук
Карэктар Я. Ф. Харко
ІБ № 2996

Здадзена ў набор 06.11.86. Падп. да друку 18.04.87. АТ 08123. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 16,13+0,08 укл. Ум. фарб.-адб. 16,37. Ул.-выд. арк. 14,96. Тыраж 4000 экз. Зак. 3072. Цана 1 р. 80 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.